БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА. ЗАСНАВАНАЯ Ў 1906 Г. У ВІЛЬНІ. АДНОЎЛЕНАЯ ТАМСАМА Ў 1991 Г. З 1 САКАВІКА 1996 Г. ВЫХОДЗІЦЬ У МЕНСКУ. ВЫДАВЕЦ РЭДАКЦЫЯ ГАЗЭТЫ «НАША НІВА»

# НЕЗАЎВАЖАНЫ ЧАРНОБЫЛЬ



12-я ўгодкі аварыі на Чарнобыльскай АЭС, шчыра кажучы, успрымаюцца як вымушаная нагода для размовы. Хоць вакол Чарнобыля ўжо створаны немалы культурны пласт з кніг, фільмаў, цэлых жывапісных экспазыцыяў. Няма толькі таго, што мы называем «культурным кантэкстам». Таму ўсё нібыта прамоўлена і толькі паўтараецца з стандартнай агаворкай пра тое, што мы яшчэ не ўсьвядомілі ўсяго маштабу бяды й ня ведаем, чым урэшце яна для нас абернецца. Можна падумаць, што некаму сапраўды хочацца гэта ведаць або ўсьведамляць...

Чарнобыль ня мае кантэксту. Ёсьць толькі розныя інтэрпрэтацыі катастрофы. Можна вылучыць тры асноўныя погляды. Першы, пашыраны сярод людзей культуры і апазыцыйных палітыкаў, разглядае аварыю на АЭС як нацыянальную катастрофу, а то й як божае пакараньне беларускаму народу. За што? У гэтым інтэрпрэтатары могуць разыходзіцца дыямэтральна: адныя кажуць — за тое, што мову сваю забылі і гісторыю, што ня хочуць незалежнасьці, а другія — за развал Саюзу. Урэшце і першыя, і другія зноў сыходзяцца ў пошуках збавеньня — да Бога, праўда месцы збору ў іх розныя: першыя гуртуюцца ля абразоў, другія — каля адмыслова збудаванага храму.

Чарнобыльская тэма ад пачатку суседзіць з крытыкай уладаў. Між тым, закіды паўтараюцца, але так ні да чаго й не прыводзяць. Заяўлены апазыцыяй у першыя пасьлячарнобыльскія гады грамадзкі суд над Сьлюньковым і кампаніяй, што хавалі ад людзей бяду, Нюрнбэргам ня стаў, не прагучаў. А злачынства камуністычных кіраўнікоў БССР патанула ў ня менш злачынных захадах наступных эшалёнаў намэнклятуры. У такой сытуацыі была канчаткова страчаная дынаміка грамадзкае думкі ў чарнобыльскім пытаньні, і многія аб'ектыўныя крытыкі з акадэмічнага асяродзьдзя ўрэшце махнулі рукой — што толку прыводзіць усе гэтыя лічбы, якія большасьцю ўспрымаюцца ўжо толькі як статыстыка.

Фактаў злачыннай і бяздарнай палітыкі ўладаў ужо дастаткова на многія тоўстыя тамы й на тое, каб засумнявацца ў галоўных прычынах трагедыі — ці яны ў тым,

Працяг на старонцы 3.

НАША НІВА

№ 8 (105) 29 КРАСАВІКА 1998 г.



# ВАЙНА РАСКАЖА ПРА НАС

*Анонс*

Бадай, толькі сёньня, ва ўмовах сувэрэннае краіны, робіцца магчымым гаварыць пра мінулую вайну з гледзішча нацыянальных інтарэсаў Беларусі і яе людзей, а ня з гледзішча памерлае савецкае імпэрыі або марксісцка-ленінскае ідэалёгіі. Зьмена погляду настолькі істотная, што многія стэрэатыпы савецкага часу ў рэальнасьці ператвараюцца ў свае антыподы. І першы зь іх — гэта міт пра непагрэшнасьць савецкае партызанкі ў акупаванай Беларусі.

Распачатая і кіраваная з Масквы, гэтая партызанка менш за ўсё дбала пра беларускія нацыянальныя інтарэсы. Рэйкавая вайна ня толькі і, магчыма, ня столькі падрывала тылы гітлераўскае арміі, колькі правакавала фашыстаў на помсту, на спаленьне беларускіх вёсак разам зь мірнымі жыхарамі. У апошнія гады ў прэсе зьявіліся зьвесткі пра тое, што і савецкія партызаны «грашылі» спаленьнем вёсак ды зьнішчэньнем мірных жыхароў.

Разважаючы з гледзішча беларускіх нацыянальных інтарэсаў, мы непазьбежна прыходзім да высновы, якую ўжо зрабілі эміграцыйныя гісторыкі — у акупаванай Беларусі змагаліся між сабою дзьве ідэалёгіі — нямецкі фашызм і расейскі камунізм. І рэч нават ня ў тым, што яны нам былі чужыя, а ў тым, што абсалютна чужыя для іх мы, беларусы.

Другая тэма, якая нарадзілася зь пераасэнсаваньня вайны, — гэта спробы нацыянальнага будаўніцтва на акупаванай беларускай тэрыторыі. З успамінаў апошніх гадоў мы ўжо ведаем пра шырока разгорнутае па ўсёй краіне беларускае школьніцтва, якое, як правіла, імкнулася пазьбягаць у навучальным працэсе ідэалягізацыі — савецка-сталінскай, зразумела, ды й нямецкай таксама. Вучыліся па дасавецкіх падручніках Тарашкевіча, Смоліча, Гарэцкага. Вывучалі забароненыя ў БССР творы Багушэвіча, Купалы, Багдановіча. Простыя вясковыя школкі, дзе зь дзецьмі гаварылі на іхнай мове, часта рабіліся аб'ектамі нападаў савецкіх партызанаў. Настаўнікаў партызаны забівалі...

Сёньня пра ўсё гэта пішуцца артыкулы і кнігі, паўстае зусім іншы, вельмі складаны, але рэалістычны вобраз вайны і акупацыі. Вобраз, які паддаецца дакумэнтальным пераправеркам і ад гэтага становіцца ўсё больш аб'ектыўным. Больш за тое. Праўдзівы вобраз вайны — з гледзішча нацыянальных інтарэсаў — здымае павалоку зь беларускае сытуацыі нашых дзён — многія незразумелыя зьявы ў палітыцы, культуры, грамадзкай думцы набываюць яснае вытлумачэньне. Мы глядзімся ў вайну, нібы ў люстэрка, якое заўсёды паказвае тое, што ззаду, што мінула і што ёсьць мы.

*Тэма наступнага нумару «НН».*

# «Жаба ў роце»

*(«НН», №6'1998)*

Хацеў бы прадоўжыць думку сп. Алеся Менскага аб трасянцы. Чаму з усіх старон ідзе такое непрыняцьце трасянкі?! Гэта ж звычайны беларускі акцэнт. Чаму ніхто не сьмяецца з латыскага ці польскага акцэнту? Напрыклад, у польскім акцэнце таксама шмат расейскіх словаў, як і ў беларускім акцэнце, перапробленых на польскую манеру вымаўленьня. Але ж гэта не выклікае ні ў кога адмоўных пачуцьцяў. Канечне, той, хто размаўляе на трасянцы, ня ведае ні беларускай, ні расейскай моваў, але ж сам факт непрыняцьця беларускага акцэнту выклікае насьцярогу.

А можа, справа ў нашым стаўленьні да беларускага? Нават нацыяналісты пагардліва адносяцца да беларускага акцэнту і, бачна, не таму, што яны такія прыхільнікі беларускай мовы, а таму, што ў іхнай падсьвядомасьці ўжо закладзеныя адносіны да беларускага як да нечага другога гатунку. На мой погляд, гэта адзін з многіх вынікаў вынішчэньня беларускасьці, з мэтай абразіць усё беларускае, нават акцэнт зрабіць другога гатунку.

Для адраджэньня беларускасьці, пашырэньня выкарыстаньня беларускай мовы трэба зрабіць моднай яе і нават акцэнт, так бы мовіць, трасянку. Над гэтым трэба працаваць дзень і ноч. Таму што ўвесці беларускую мову праз адно перакананьне немагчыма.

Што мы маем цяпер? 2-3 незалежныя газэты. У нас няма, напрыклад, беларускамоўнага тыднёвага грамадзка-палітычнага выданьня, дзе можна было б прачытаць думку палітыка, меркаваньні эканаміста, праграму партыі. Адкуль у нас зьявяцца папулярны палітык, эканамічная праграма, папулярная партыя, калі немагчыма пра іх прачытаць дзе-небудзь? І ў тых газэтах, што ёсьць, таксама мала інфармацыі. Такое адчуваньне, што надыйшоў крызыс жанру. Напрыклад, у газэце «Свабода» палову газэты займае артыкул «Как питался Ильич». Канечне, цікавая тэма, але ж не для прыдушанай апазыцыйнай газэты, дзе кожная газэтная паласа на вагу золата. Незразумелая пазыцыя «Народнай волі», дзе ў рубрыцы «Віншуем» чытаем, што А.Г.Л. узнагародзіў нейкага дзеяча чарговай «правительственной наградой». Тут камэнтары залішнія.

Я ўпэўнены, што калі б зараз зьявілася свабода слова, друку, мы б мелі тыя самыя 2-3 газэты з тым жа зьместам.

А колькі ў нас напісана кніг, зьнята кінастужак, напісана песень, эканамічных прац, так бы мовіць, «на паліцу»? Хоць цяперашняя відэатэхніка і друкавальныя магчымасьці дазваляюць данесьці ўсё гэта да грамадзтва.

Трэба ствараць крытычную масу напрацовак, якая перарасьце ў ланцуговую рэакцыю і выбухне, зносячы ўсё дрэннае і дасьць на моцным фундамэнце магчымасьць будаваць Беларускі Дом!

Жыве Беларусь!

**Павал Круковіч, Менск**

# Трасяніна з-за трасянкі

Не магу падзяліць аптымізму сп. Алеся Менскага, які, абмяркоўваючы артыкул С.Квяткоўскага «Жаба ў роце», прыйшоў да высновы аб карыснасьці такой зьявы, як трасянка.

«Сумнавядомая трасянка – гэта ня мова, а проста набор словаў, якія ўжо перасталі быць расейскімі і ў хуткім часе маюць вялікі шанец зрабіцца беларускімі», – сьцьвярджае сп. Алесь Менскі. З гэтым нельга згадзіцца, бо слова ёсьць ня толькі фанэтычнай, але й лексычнай адзінкай мовы. Напрыклад, можна падвойваць ці нават патройваць «ц» замест «тьс» у расейскіх словах, «казаться», «убедиться» і інш., але ад гэтага яны ня стануць беларускімі, як «здавацца» і «ўпэўніцца», а будуць усяго толькі памылковымі варыянтамі для абедзьвюх моваў: для расейскай – фанэтычна, для беларускай – лексычна. І я б ня быў такім шчасьлівым ад таго, што нашу мілагучную родную мову чакае пэрспэктыва быць зьнявечанай моўнымі кентаўрамі кшталту «ўбядзіцца», «рэзультат» ці «памяшчэньне». Хопіць з нас тых зьдзекаў, якія мы чуем з вуснаў прэзыдэнта, які, дарэчы, зьяўляецца выдатным прыкладам носьбіта трасянкі, асабліва фанэтычнай (узгадайце хаця б «жэншчын»).

Такім чынам, шлях ад трасянкі да беларускай мовы, як, зрэшты, і да расейскай, адрэзаны, бо яна парушае фанэтычную, лексычную і артаграфічную еданасьць мовы. Паводле сваёй існасьці трасянка зьяўляецца моўным вычварэньнем, таму казаць аб яе значнасьці як каталізатара пераходу да беларускай мовы нельга.

**Андрэй Аляксандраў**

# «Таямнічая Туркаль»

*(«НН» №6'1998)*

Як філёляг не магу пакінуць без увагі артыкул сп. Уладзімера Скрабатуна. Аўтар разглядае назоў «Орша» («Ворша») як вытворны ад «ор» – «рэчышча» ды «ша» – «вада» (з марыйскае мовы). Насамрэч гісторыя гэтага назову наступная: да XII ст. ён вымаўляўся як [ръша] (Ръша). Прыкладна з XIII ст. гук «ъ» у выніку эвалюцыі мовы перастаў вымаўляцца, зьнік, слова пачало вымаўляцца як [рша]. Такое спалучэньне гукаў цяжкае для вымаўленьня, і таму ў выніку далейшае эвалюцыі ўзьнікае т.зв. прыстаўны гук [о]: «ор-ша». Такім чынам, слова «Орша» – спрадвечна ліцьвінскі (беларускі) назоў: гук [о] мае гэткі ж амаль статус, як і гук [і] ў слове «ільняны» (але: «лён»), як гук [а] ў слове «аржаны» (можна й «іржаны») дый інш. (Гл. Янкоўскі Ф. Гістарычная граматыка беларускай мовы. – Менск: Вышэйшая школа, 1989. Ст.93). Гук жа [в] («Ворша») вымаўляецца ўжо паводле аналёгіі са словамі «возера», «вакно» ды й інш.

І вось што яшчэ. Аўтар артыкула выводзіць (як ён сьцьвярджае – «напэўна») нашае слова «выносьлівасьць» ды вытворныя ад яго – са слова мовы комі «вын», што значыць «сіла». Дазваляю сабе абвергнуць гэтае дапушчэньне. Слова «выносьлівы» мае корань -нось-, значэньне якога зьвязана з разуменьнем нясеньня ношы. А элемэнт вы- – ня што іншае, як прэфікс (прыстаўка). Сапраўды, ёсьць жа яшчэ й слова «перанесьці», як варыянт «вынесьці». Да прыкладу: 1. вынесьці ўсе выпрабаваньні (пакуты); 2. перанесьці ўсе выпрабаваньні (пакуты). Урэшце любы нармалёвы шкаляр зробіць вам марфэмны разбор слова: вы-нось-л-іва-сьць.

Уяўляецца недарэчыным тое, што, можа, шмат хто з аршанцаў, прачытаўшы артыкул, возьмуць да веры, дый будуць пасьля тлумачыць, як у тых «Белых Росах», памятаеце? – «Лухта гэта ўсё, князі твае... Бачыў луг? Вось на ім раса ўраньні выпадае, таму й назоў гэткі – Белыя Росы... А ты скажаеш гісторыю!..»

**Сяргей Абрамовіч, філфак БДУ, II курс**

# Імя краіны

На маю думку, трэба закрыць пустую дыскусію пра зьмену імя нашае краіны і павучыцца ў нашых далёкіх і блізкіх суседзяў. Ня так даўна палякі па прыкладу суседняй Нямеччыны зрэфармавалі адміністратыўны падзел краіны і замест ваяводзтваў-гарадоў (прыкладам, Варшаўскае ваяводзтва) утварылі ваяводзтвы-землі (напрыклад: Вялікапольская, Сьлёнская, Малапольская землі, Памор'е, Вармія і Мазура, г.д.). Тым самым яны захавалі гістарычную тапаніміку краіны. Тое самае прапаную і я. Зрабіць вобласьці-адзінкі па назвах рэгіёнаў Беларусі: Літоўская, Палеская (Заходняя, Усходняя) і іншыя, не адкідаю таксама і – Крывіцкая – для ўсходніх вобласьцяў Беларусі. Да гэтага яшчэ далёка, але гэта, на маю думку, рэальны праект, і прыклад суседзяў гэта пацьвярджае.

**Алесь Моргун, Баранавічы**

# «Сьцяна»

Віншую Вас са зьдзяйсьненьнем праекту «Народная кніга»! Шчыры дзякуй за «Сьцяну»! Беларушчыны паболела.

Калісьці «Наша Ніва» прапанавала надрукаваць усяго Борхеса. А што, калі ўявіць народнага Борхеса? Які належыць народу Каралеўства Беларусь. Зрэшты, густы і патрэбы духу маюць набіраць крытычнае масы, пакуль ня выбухнуць чарговым праектам. Усе разам яны твораць глябальны праект, імя якому Свая Краіна.

**Янка Храпавіцкі, Глыбокае**

# У справе Пятра Гушчы

З нагоды арышту Пятра Гушчы я знарок ня стаў пісаць адразу пасьля падзеяў. Не хацелася быць першым – хацелася пачуць водгукі іншых людзей пра чалавека, якога лічу ледзьве не адзіным рэальна думаючым у сёньняшняй Беларусі. Чаканьні сталіся марнымі. Я яшчэ раз упэўніўся, што Лукашэнку няма чаго баяцца ў бліжэйшы час, таму што няма сілы, якая магла б яго і кампанію замяніць. Аднак я таксама зразумеў, што гэты рэжым баіцца. Становіцца бачна, дзе яго слабыя месцы, з чаго трэба пачынаць. Фронт для барацьбы, працы ёсьць.

Пачну з таго, што ў Беларусі ёсьць людзі, якія яшчэ ў савецкія часы прысьвяцілі сябе барацьбе з антыбеларускім рэжымам. Яны падыйшлі да гэтага сур'ёзна і разумна, і рэжым распраўляўся зь імі жорстка. Да такіх людзей належыць і Пётар Гушча, які за свае погляды адседзеў у спэцпсыхшпіталі КГБ амаль восем гадоў. Дзякуючы намаганьням арганізацыі «Міжнародная амністыя» ён быў вызвалены ў 1990-м годзе, пасьля чаго неўзабаве атрымаў дазвол на сталае жыхарства ў ЗША. Але замест эміграцыі гэты чалавек вырашыў працаваць на карысьць Беларусі. Ён цудоўна разумеў, што весьці адкрытую палітычную барацьбу ва ўмовах саўдэпаўскага мысьленьня большай часткі насельніцтва –безвынікова. Патрэбная доўгая, маркотная работа ў некалькіх напрамках (культура, гісторыя, рэлігія), якая мусіць даць плён праз некалькі гадоў. Насельніцтва павінна найперш усьвядоміць сябе як паўнавартасную, роўную сярод роўных нацыю (хіба ня роўнымі ўсіх людзей і ўсе нацыі стварыў Бог?). Адной з галоўных галін гэтай доўгай працы была менавіта рэлігія. «Галава ў Крамлі, а сэрца ў Храме». А храм – у Маскве. Гэта – пра нас, беларусаў. Але ж сэрцы беларусаў павінны быць у Беларусі. Выйсьцем з сытуацыі было б стварэньне незалежнага ад Масквы праваслаўнага Патрыярхату.

Масква і Філарэт глядзелі на гэтую ідэю спачатку са сьмехам – прынамсі, не прымаючы яе ўсур'ёз. Але намаганьні айца Пятра пачалі прыносіць вынікі: стаў складвацца штат сьвятароў, пачалі будавацца цэрквы. Тады праз змову з уладамі, з дапамогай сілавых ведамстваў Пётар Гушча быў ачарнёны і пасаджаны за краты. Што ж, якімі мэтадамі Масква ў 1589 годзе атрымала патрыярхат, такімі ж падтрымліваецца манаполія «Трэцяга Рыму» і па сёньняшні дзень! Яскравы прыклад – як філарэтаўцы закідвалі населеныя пункты, дзе вёў рэлігійную дзейнасьць айцец Пётар, паклёпніцкімі ўлёткамі...

Але ж самае цікавае, што прадстаўнікі Расейскай праваслаўнай царквы ня хочуць зразумець: такімі паводзінамі яны наносяць шкоду ўсяму праваслаўю. Множацца каталіцкія, пратэстанцкія суполкі. І калі адмяніць ільготы ў царкве, то натуральна, што Праваслаўная царква ў Беларусі можа зь цягам часу рухнуць. Што да Пятра, то ад яго адвярнуліся сёньня ўсе знакамітыя «барацьбіты за незалежнасьць». Што ж, ня маючы вушы – не пачуе, каму ня дадзена зразумець – не зразумее... Яны баяцца быць заплямленымі справай «сэксуальнага маньяка». Да іх ня дойдзе, што, паверыўшы ў гэтую лухту, яны выкрэсьлілі сябе з палітычнай барацьбы. На іх ні Лукашэнка, ні хтосьці іншы ўжо не зьвяртае ўвагі. Не паверылі ў «распусныя дзеяньні» і «злоснае хуліганства» сьвятара толькі людзі, якія асабіста хадзілі на яго набажэнствы, якія ведалі, што гэта за чалавек. Такія людзі ёсьць. І гэта ўсяляе надзею.

**Ван Дзік Матусэвіч**

# Настаўнікі ў амонаўскай форме

21 красавіка ў Менскім Цэнтральным райсудзе пад дзьвярыма кабінэта судзьдзі Тамары Злобіч стаяў «кардон» з салідных, і, здаецца, інтэлігентных кабетаў. Яны «трымалі абарону» ад нас, журналістаў. Каб не прарэзьлівыя крыкі: «Я 20 год працую ў школе!», то дзьвюх-трох кабетаў лёгка можна было б уявіць у амонаўскай форме.

Так пачынаўся разгляд справы аб абароне гонару і годнасьці настаўніцы Леанарды Мухінай. Ейныя прысутныя калегі, а болей — прадстаўнікі рана і школьная адміністрацыя запэўнівалі журналістаў: справа, маўляў, самая звычайная, ня вартая нашай увагі. Але пакуль ніхто ў 37-й менскай школе не спрабаваў абараняць свой гонар праз суд. Леанарда Станіславаўна выкладае ў беларускамоўным 3-м «Г». Спаслаўшыся на нібыта існуючыя скаргі бацькоў, настаўніцу абвінавацілі ў правядзеньні ў школе палітыкі БНФ і падрыхтоўцы кадраў для апазыцыі...

У першы дзень прадстаўнікам СМІ месцаў у кабінэце судзьдзі «не знайшлося». Са словаў удзельнікаў працэсу вядома, што ў гэты дзень суд высьвятляў адзінае пытаньне: хто якія палітычныя партыі падтрымлівае. Наступным ранкам, выконваючы просьбу судзьдзі Т.Злобіч, загадчык Цэнтральнага рана Юры Канзас (вядомы больш як нядаўні дырэктар школы Вадзіма Лабковіча) прыцягнуў у кабінэт дадатковую лаўку — для грамадзкасьці. На ёй змаглі зьмясьціцца ажно тры чалавекі! Я, сп. Канзас і спадарыня, якая абуралася: «Не хачу сядзець побач з прэсай!» Высьветлілася: гэта ніхто іншы, як дырэктарака школы — Галкіна Валянціна Максімаўна.

Вось пералік абвінавачваньняў на адрас настаўніцы Л.Мухінай, якія прагучалі на згаданым паседжаньні суда. Па-першае, правяла сход бацькоў, нягледзячы на забарону дырэктаркі. Чаму? Нават сьведкі ад адміністрацыі казалі: Леанардзе Станіславаўне хацелася «проста паглядзець бацькам у вочы» пасьля таго, як ёй паведамілі, што бацькі быццам прыслалі скаргу на яе. Ніводнага прозьвішча незадаволеных не прагучала і падчас разгляду справы ў судзе. Сп. Канзас, дырэктарка школы і некаторыя іншыя ў адзін голас даводзілі, што незадаволеныя бацькі «баяцца, бо Мухіна іх зацкуе». Хто каго тут здольны зацкаваць, было, аднак, бачна вельмі выразна.

Сама настаўніца стаяла моўчкі, спакойна, не адпраўдваючыся ў адказ. «Гляньце! — залямантавала выкладчыца матэматыкі. —Яна яшчэ і ўсьміхаецца! Якое нахабства! Якая непавага да суда, дырэкцыі і рана!»

Што яшчэ кепскага зрабіла настаўніца Леанарда Мухіна? На думку раённых чыноўнікаў і іхных паплечнікаў у школе — шмат. Арганізавала падпіску на газэту «Наша слова». Праводзіла пазакляснае чытаньне па кнізе «Якаб і Катарына», што ў перакладзе зь нямецкай мовы выдадзеная тарашкевіцай (і газэты, і кніга — копіі яе старонак старанна падшытыя дырэктаркай Галкінай у пульхную тэчку «справы»). Далей. Настаўніца 3-га «Г» нібыта засоўвала дзецям у дзёньнікі ўлёткі — адна з выхавальніц «прадлёнкі» знайшла і прынесла дырэктару. І ўсе ўлёткі зьнішчылі? Я спытала, што там быў за тэкст. «Заклік ісьці на мітынг». Які? Хто праводзіў? «У мяне і так галава затлумлена!» Адна настаўніца, якая толькі-толькі сышла на пэнсію, нібыта сама перадавала дырэктарцы ліст ад бацькоў, бо тыя самі не маглі зайсьці — «сьпяшаліся на працу». Са словаў той жа пэнсіянэркі Н.Раўнягінай, выкладаньне Мухінай у яе беларускай клясе — «гэта бомба запаволенага дзеяньня, якая павінна была рвануць гады тры таму». Ці не 15 траўня 95-га, адразу пасьля рэфэрэндуму з «моўным» пытаньнем?

Між іншым, абвінавачаная ў прышчапленьні нацыяналізму, правядзеньні палітычнай дзейнасьці ў школе, занядбаньні вучэбнага працэсу ў клясе і нават у невыціраньні пылу замест прыбіральшчыцы(!), Леанарда Мухіна ўяўляе для школы і рана «небясьпеку» толькі ў адным. Яна — актывістка ТБМ і можа распавесьці праўду пра становішча беларускай школы. І, нягледзячы на відавочны ціск «зьверху», у школе частка калегаў — на яе баку. Так, мая аднагодка Таццяна Журавель, што вучыць дзетак роднай мове і літаратуры, не збаялася і распавяла на судзе праўду. Як Мухіну «выкрывалі» на экстраным сходзе ў сакавіку, як спасылаліся на ліст невядомых бацькоў, як казалі, што «такім няма месца ні ў нашай школе, ні ў якой іншай». Як, урэшце, настаўнік працы параўнаў тады мэтады расправы з Л.Мухінай з падзеямі году, які супадае з нумарам СШ №37.

Суд адмовіў Леанардзе Мухінай у яе зыску. Судзьдзя Злобіч прачытала ёй мараль: працуйце спакойна, слухайце калегаў... Калегі разышліся далей дарабляць тое, што, як казаў Мураўёў-вешальнік, некалі не дарабіла расейская дзіда. Наўрад ці ў іх атрымаецца «сеяць разумнае і добрае». Як і вечнае. Подласьць і хлусьня ня могуць панаваць вечна.

**Таццяна Сынтко**

# НЕЗАЎВАЖАНЫ ЧАРНОБЫЛЬ

Працяг са старонкі 1.

што ўзарваўся рэактар (разавая катастрофа), ці ў палітыцы кіраўніцтва краіны, якое за гэтыя гады, фігуральна кажучы, ператварыла рэсьпіратарную хваробу ў анкалягічную. Можна ж і так паставіць пытаньне: наш сапраўдны Чарнобыль — гэта нашае начальства! Толькі вось катораe? Сьлюнькоў? Кебіч? Лукашэнка? Назіраючы, як бестурботна шпацыруе сёньня па вуліцы Пуліхава чарнобыльскі бос ЦК КПБ, я бачу, што ніякі маральны клопат не кладзецца ценем на ягоны заўсёды насуплены твар. І тады я думаю пра тое, што ў нашай краіне ня толькі начальства ператварыла катастрофу ў прафанацыю, але й грамадзтва дазволіла начальству гэта зрабіць. Кола развагаў замыкаецца. «Духоўны Чарнобыль» — ці ня самая моцная мазахісцкая вынаходка нашых трыбунаў, якая ставіць кропку на любым душэўным неспакоі. Вось яна — фатальная бездапаможнасьць, супраць якой не папрэш, хіба што ты сам прарок Майсей ці Данка, гатовы вырваць сваё сэрца. Але няма герояў у Айчыне. Дык чаго тады гарод гарадзіць? У выніку Чарнобыль не хвалюе нікога. А той, у каго дактары знайшлі лейкемію і вытлумачылі яе Чарнобылем, разумее, што застаўся са сваёй бядою сам-насам, бо ўсім ён абыякавы настолькі ж, наколькі яшчэ ўчора ахвяры радыяцыі былі абыякавыя яму самому. Не прасі спагады, не шукай ратунку. Няма ў каго і няма дзе...

У такой беспрасьветнасьці нараджаецца другі погляд на аварыю — адваротны. Чарнобыль — гэта ня кара божая, а дарунак лёсу. І непрадказальная радыяцыя ўрэшце паспрыяе таму, што праз колькі гадоў у Беларусі завядуцца сапраўдныя волаты — змагары, геніі, словам, звышчалавекі. А чарнобыльскі рэгіён ператворыцца ў зямны рай. Вы скажаце, глупства. Але сёньня гэта, бадай, адзінае, за чым стаіць, прынамсі, нейкая пэрспэктыва, нейкае заўтра. Няхай сабе і блюзьнерскае.

Трэці погляд — самы пашыраны. Гэта погляд большасьці народа, а значыць і цяперашняй улады, якая ўзяла на ўзбраеньне клясычны папулізм, г.зн. палітыку падыгрываньня масавым густам. Фармулюецца ён так: ды колькі можна пра Чарнобыль, надакучыла! Магчыма, і ёсьць нейкая рызыка, а магчыма й няма. Ну быў я ў тых раёнах, шкода закінутае зямлі, закінутых паселішчаў. Урэшце ніхто нічога толкам ня ведае, а адсяленцы вяртаюцца. Словам, досыць.

Грамадзкая думка, якая страціла дынамізм у першыя пасьлячарнобыльскія гады, сёньня нудзіцца ад блытаніны зьвестак і захадаў і схільная проста не падымаць тэму.

Паралічыўшы тры погляды на Чарнобыль, я вырашыў пашукаць чацьвертага — антыпогляду. За мінулыя 12 гадоў краіна перажыла ўздым нефармальнага руху, дэклярацыю аб сувэрэнітэце, выбары прэзыдэнта з рэфэрэндумамі, славянскі саюз з Расеяй... Відавочна, што ў кожнай з гэтых падзеяў так ці інакш адбіваўся Чарнобыль. А калі б Чарнобыля не было, як бы гэта паўплывала на наступныя 12 гадоў беларускай гісторыі? На такое пытаньне адзін мой калега заўважыў, што беларусы як нацыя Чарнобыля й не заўважылі.

Зрэшты, падумалася, і развалу СССР беларусы як нацыя не заўважылі. І незалежнасьці ўласнае краіны — таксама. Але тое ня значыць, што яны не заўважаць гэтага ў будучыні. Ня дай Бог, вядома, каб праз якія генныя мутацыі. Патрэбны час, каб вакол глябальных падзеяў найноўшае гісторыі паўстаў кантэкст. Толькі-толькі беларусы падступаюцца да разуменьня сталінскага генацыду і праўды пра мінулую вайну. Патрэбны час гэтае вось нехаці гаварыць пра тое, пра што ўжо тысячу разоў сказана, каб яно заявіла пра сябе само. Патрэбны час, які ператварыўся ў сынонім нашае незалежнасьці. Страціўшы яе, мы проста зьнікнем, так і не заўважыўшы Чарнобыля.

**Сяргей Паўлоўскі**

# Пра што не папярэджвае Міндзраў...

Аварыя ў Чарнобылі засьпела мяне зь сябрам у Кіеве. Была ці ня першая веснавая зьліва, а мы елі ці ня першае ў сэзоне марозіва. Ніхто тады ня мог сабе ўявіць тысячы памерлых людзей, адселеныя гарады й вёскі, боязь паздрадніцку сьпелых яблыкаў. Зрэшты, мне гэта цяжка ўявіць і сёньня...

Той, хто езьдзіць зь Менску ў Вільню, альбо куды-небудзь на Віцебшчыну ці Гарадзеншчыну, абавязкова бачыў у розных вёсках новыя вулкі з аднастайных шэрых дамоў, вакол якіх яшчэ няма платоў. Для «чарнобыльцаў», — кажуць мясцовыя жыхары. «Чаму ж яны пустуюць?» «Акруціліся й зьехалі назад», — тлумачаць. Тысячы людзей, якіх амаль гвалтам вывезьлі ў чыстыя раёны Беларусі, вярнуліся ў свой небясьпечны кут. Не прыжыліся на Поўначы краіны, не знайшлі працы, не знайшлі сумоўя з тутэйшымі людзьмі, якія цураліся іх. Каму пашанцавала — той прадаў хату. А не — то й кідалі проста гэтак. У іх родных раёнах ім плоцяць «грабавыя» — 300 тыс. беларускіх рублёў на кожнага ў сям'і. Неяк можна жыць, ды і працы там хапае.

На пачатак 1995 году ў Беларусі ў зоне радыеактыўнага забруджаньня знаходзіўся 3.221 населены пункт... У іх змушана застаюцца каля 2 мільёнаў людзей, альбо 20% беларусаў. Адсяленьня не адбылося...

У свой час урад Фінляндыі прапанаваў кампэнсацыю суайчыньнікам, якія апынуліся пасьля малавядомай вайны ў межах СССР. Людзі самі былі вольныя выбраць сабе месца жыхарства й распарадзіцца наяўнымі грашыма. На Захад выехала 400 тысячаў жыхароў Карэліі! Шаснаццатая рэспубліка, Карэла-Фінская ССР перастала йснаваць. Чаму гэтак не паступілі ўлады ў Беларусі? Таму што пра ратаваньне людзей былі гаворкі, а думкі былі пра іншае. Узяўшы грошы й матэрыялы пад чарнобыльскую бяду, чынавенства ў абласьцях, раёнах, сельсаветах, порстка вырашала ўласныя й мясцовыя праблемы. Памятаеце будаўнічы бум на мяжы 80-90-х? Калі хто забыўся, хай пад'едзе на бераг Менскага мора. Тутака нагляднеи відаць, куды пайшлі шалёныя чарнобыльскія грошы...



Здымак М.Баразны.

Сёньня ўлады няўпэўнена сьцьвярджаюць, што «нягледзячы на тое, што генэтычная рызыка пакуль ня бачная, у будучым можа быць нанесены сур'ёзны ўрон генафонду беларускае нацыі». Але навошта зазіраць у будчыню, калі на адной Гомельшчыне ўжо сёньня колькасьць хваробаў узрасла ў 9 разоў, калі ўжо сёньня толькі дзесяць працэнтаў нашых дзяцей здаровыя. Няцяжка здагадацца, што праз пакаленьне абсалютна здаровых беларусаў ня будзе ўвогуле...

Але гэта заўтра. А сёньня ўлады, як і пры СССР, робяць усё, каб пакінуць людзей на брудных землях. Таму што той паток халяўных грошай, які яшчэ віраваў гадоў пяць таму, вычарпаны. «Глаўнае — сахраніць калякцівы». Праграмы па адсяленьню людзей згорнутыя. На думку Лукашэнкі, там жыць можна. Спрачацца няма з кім. У «чарнобыльскіх» раёнах кладуць асфальт, пракладаюць новыя дарогі, цягнуць газаправоды. Толькі ў Гомельскай вобласьці плошча сельскагаспадарчых земляў з узроўнем радыяцыі звыш 1 Кu/кв.км. складае зараз 806 тыс. гектараў. Гэта, дарэчы, больш, чым плошча многіх дзяржаваў. На іх па-ранейшаму функцыянуе 370 калгасаў і саўгасаў. Адна з прыкметаў нашага часу — тысячы людзей зь Сярэдняе Азіі і Каўказу, якія запаланілі некалі адселеныя вёскі й мястэчкі Гомельшчыны. Радыяцыя — ня бомбы ці кулі, пра яе яны ведаюць мала. Улады толькі радыя. Ёсьць насельніцтва — будзе кім кіраваць. Фатограф Анатоль Кляшчук распавядаў, што ён ледзь не расплакаўся, пабачыўшы, як у Хойніках гуляюцца ў пяску мурзатыя дзеткі з далёкае Азіі...

Веснавым вечарам я зь сябрам зазірнуў у менскую краму з траскучай назваю «Прэстан-маркет». На нашае зьдзіўленьне, сярод безьлічы тавараў не было нічога беларускага, за выключэньнем гарэлкі. Спачатку мы ўспрынялі гэта за камічны снабізм «новых беларусаў». Пазьней, праўда, скемілі, што гэта толькі клопат уладальнікаў пра здароўе сваіх пакупнікоў. Гэткі ж самы, як і ў астатніх прэстыжных прыватных крамах Менску. Яшчэ адна прыкмета нашага часу — дасьведчаны беларус пазьбягае ўжываць беларускі харч. Па краіне цяпер 446 гаспадарак, дзе рэгіструецца перавышэньне дапушчальнае нормы радыёнуклідаў у малацэ. Статыстыка па іншых прадуктах ізноў засакрэчаная. Натуральна, большасьць тых самых прадуктаў з чарнобыльскае зоны трапляе ў Менск, у сталіцу розных «зонаў». Любы бохан хлеба, любы кавалак каўбасы, любы пакет сьмятаны, якія мы купляем у беларускіх крамах, можа быць небясьпечным для здароўя. Пра што ніякі Міндзраў не папярэджвае...

**Сяргей Харэўскі**

# На першамайскай лыжні

Прайшло даволі шмат часу, і ўжо ня так проста сходу адказаць на пытаньне, што я рабіў 26 красавіка 1986 году. Дзёньніка я тады ня вёў, а памяць не знайшла нічога для сябе вартага ў, здавалася, звычайным красавіцкім дні. Памятаю, што яшчэ да першамайскай дэманстрацыі папаўзьлі па Магілёву няўцямныя плёткі пра аварыю на Чарнобыльскай АЭС. Праз дзень з аптэк зьніклі таблеткі зь ёдам, і людзі, што давалі гіпакратаву клятву, цынічна фарцавалі імі. Сёньня мне ўжо не здаюцца дзікім цемрашальствам угаворы маёй маткі не ісьці на дэманстрацыю, а перасядзець гэты дзень у хаце. У той дзень я мусіў праехаць на лыжаролерах у калёне юных лыжнікаў міма ганаровай трыбуны на плошчы, якая носіць імя Леніна. Трэнэр Мікалай Аляксандравіч у той дзень упершыню выдаў мне форму спартовага клюбу «Дынама». Ня памятаю ўжо, што паўплывала на маё рашэньне як бы там ні было паўдзельнічаць у першамайскай дэманстрацыі 86-га году. Гонар за бела-блакітную саколку ці жаданьне не вылучацца з калектыву. Сёньня й адзін і другі аргумэнт гучаць па-дзікунску.

Рэха падзеяў, якія адбыліся 26 красавіка 1986 году ў ціхамірным украінскім мястэчку Чарнобыль, выходзіць далёка за межы проста экалягічнай катастрофы. Зьмены, якія адбыліся пасьля гэтай падзеі, ахапілі ў нас усё, што маглі ахапіць. Справа не абмежавалася перавозам соцень тысяч тубыльцаў з аднаго месца ў іншыя. Адбыліся зьмены ў нацыянальнай беларускай кухні, з рацыёну якой былі выцесьненыя ялавічына, сьвежамалочныя прадукты ды стравы з рачной рыбай, іхнае месца занялі згушчонае малако й марская капуста. Мы, дзеці, радаваліся, што нам замест малака бацькі на талёны, выдадзеныя ў дзіцячай паліклініцы, купляюць раней недаступную, а таму й жаданую згушчонку. Але хутка салодкая да болю ў зубах цягучка прыелася, і ў нас у хаце утварыўся гуртовы склад гэтага прадукту. У 1991 годзе ў Маскве я прадаваў яе сваім аднакурсьнікам. Толькі што тады я ім ні прадаваў — ад сьвежых батонаў, вынесеных з начное зьмены грузчыкам булачнай на Пятроўцы да талёнаў на цукар.

Тады ж зьявіліся новыя пэрсанажы ў гарадзкім фальклёры: Чарнобыльскі Вожык і Чарнобыльскі Нябожчык, а бабкі для сваіх унукаў знайшлі новую пужалку пад назваю «рацыя», і любыя калізіі ў навакольным сьвеце прывязвалі да падзеяў у мястэчку зь біблейскаю назваю.

Сёньня ніхто ня ў стане ацаніць, у колькі соцень разоў вырасла ў травеньскія дні 86-га аўдыторыя «варожых галасоў». І ў колькі разоў упаў давер на савецкай улады сярод людзей, якім так ці іначай давялося сутыкнуцца з Катастрофай. Але факт застаецца фактам — першыя незалежныя дэпутаты (хай яны былі сто разоў прайдзісьветы) здолелі вырваць хоць якую ўладу з рук кола «сваіх людзей» на Магілёўшчыне й Гомельшчыне, дзякуючы найперш Чарнобыльскай тэме. «Хай жыве КПСС на Чарнобыльскай АЭС!» І тая папулярнасьць БНФ на Магілёўшчыне зь ня так і даўно крамольнымі ідэямі незалежнасьці на пачатку была зьвязана выключна з тым, што ахвяры Аварыі адчулі: Маскве да іх праблемаў рукі ня дойдуць ніколі.

**Андранік Антанян**

# «Цілі-бом, цілі-бом, мірны атам — у кожны дом»

Можа й мае рацыю пісьменьнік Андрэй Федарэнка, які неяк выказаў арыгінальную думку, што нарадзіся ён, Федарэнка, дзе-небудзь у Бразыліі ці Калюмбіі, дык імя б яму было Борхес ці Маркес. Але ж нарадзіўся ён у палескай вёсцы і піша так, як можа пісаць толькі Андрэй Федарэнка.

А сапраўды, колькі ж усяго напісана й намалявана на змрочную чарнобыльскую тэму. Тысячы вершаў пра закінутыя вёскі, у якіх ужо ніколі не загучаць званочкі дзіцячых галасоў, сотні палотнаў, ад сымбалічных, дзе на ганку адселенага дому абавязкова валяецца ці паламаная лялька, ці буквар, — да авангардысцкіх, дзе сюжэт абвастраецца суседзтвам космасу, эмбрыёну ды злапалучнага энэргаблёку. А як узбагацілі рэпэртуар мясцовых тэатраў нашыя драматургі, разгортваючы перад гледачамі адзін і той самы сюжэт. Як жылі-былі дзядок з бабулькаю да аварыі, і як не даюць ім, цёмным людзям, жыцьця пасьля яе. А якая была публіцыстыка! Толькі самы лянівы ці недасьведчаны не ўзгадаў пра зорку Палын, якою Бог пакараў беларусаў за забытую мову продкаў. Лягчэй, праўда, нікому ня стала. Ні хворым дзецям, ні кінутым старым, ні мове продкаў, ні самому Госпаду Богу. Ды й не магло стаць. Мастацтва ніколі не было мэдыцынай. Але ніяк не магу згадзіцца з тым, што такая катастрофа здарылася толькі дзеля таго, каб натхніць нашых творцаў. Ці ня дзякуючы якраз іхным шчыраваньням Чарнобыльская бяда сталася самай будзённай і нецікавай для абываталя тэмай. Як павольная сьмерць без надзеі на выратаваньне. Але дзе ж выратаваньне — во загадка.

Беларускі бард Андрэй Мельнікаў, які зусім нядаўна стаў бацькам, не зьбіраецца пакідаць улюбёны Гомель. Ён, магчыма, адзіны ў горадзе, хто на суседзтва з Чарнобылем глядзіць як на дарунак лёсу. Ён ня схільны лічыць сусьветнага Творцу за школьнага настаўніка мовы, які такім дзікім чынам карае сваіх самых кепскіх вучняў. Бард цалкам упэўнены, што зьмены ў генэтычнай сыстэме, выкліканыя суседзтвам станцыі, дадуць такія вынікі праз пару пакаленьняў, такія народзяцца волаты й супэрмэны, што сёньняшнія нашы скуголеньні па мове й зайздрасьць да перадавой Літвы будуць успрымацца тымі дзецьмі рэактара як забаўкі нямоглых склератыкаў. Адным словам, адраджэньне пачнецца з таямнічага Паўднёвага Ўсходу. Я ня бачу ў мельнікаўскай казцы нічога сьмешнага. Тут ужо ёсьць інтрыга, жаданьне дажыць, а галоўнае — загадкавае заўтра.

Чарнобыльская аварыя, што адбылася як эпілёг гісторыі СССР, безумоўна стане зьявай культуры. Але ўжо, дзякуй Богу, не савецкай. А хто ведае, можа ня мае рацыі Андрэй Федарэнка й народзіцца такі дзе пад Гомелем які Борхес. І можа бард Мельнікаў — прарок, і сапраўды ёсьць сэнс пераехаць у самы забруджаны раён Гомеля з сымбалічнаю назвай — Валатава.

**Зьміцер Бартосік**

ЗЬЕЗД

# Раздору не адбылося

Калі бачу незнаёмую кнігу, мяне заўсёды цягне разгарнуць яе на любой старонцы й прабегчы вачыма хаця б адзін абзац. А раптам трапіцца нешта такое, што я нідзе й ніколі не чытаў, што прымусіць мяне зазірнуць на іншыя бачыны ды ўрэшце выкласьці свае крэўныя за пісьменьніцкую працу. Але ж гэтую працэдуру цікава праводзіць зь незнаёмымі кніжкамі. А калі бачыш на вокладках вядомыя прозьвішчы сяброў Саюзу пісьменьнікаў, што сабраліся на свой чарговы зьезд ва ўжо не сваім доме, то спадзяваньняў быць нечым зьдзіўленым меншае. Праўда, не настолькі, каб не разгарнуць кнігу зь вядомымі героямі. Ці каб не зайсьці наўздагад у залю зьезду. А раптам!..

На ганку былога Дому літаратараў, куды я збочыў у надзеі знаходкі невядомага сюжэту, сядзеў апранугы ў белую вышываную кашулю паэт Анатоль Сыс, паклаўшы на свае стомленыя рукі сваю «буйную головушку». Значыць, зьезд даўно пачаўся. Дарогу ў залю мне перагарадзілі двое малойчыкаў у чорным. Нарэшце я не без задавальненьня пакарыстаўся «нашаніўскаю ксівою», нібы Штырліц прайшоўшыся праз строгі кантроль.

Як высьветлілася, мне пашчасьціла патрапіць на «завязку». З трыбуны выступаў Васіль Зуёнак. Зь першых рэплікаў прамоўца прымусіў мяне насьцярожыцца. Ён казаў што Саюз пісьменьнікаў — адзіны й апошні аплот беларускай нацыянальнай ідэі. Але на наступнай частцы прамовы, зь якой вынікала, што гэты несакрушальны аплот павінен як мага больш грунтоўна фінансавацца дзяржавай, я расслабіўся. Усё, што прамоўца казаў далей, я ўжо недзе неаднойчы чуў. І з чым ніколі ня мог згадзіцца. І пра паміраючы бяз роднае мовы народ (памойму, ён някепска жыве й безь яе). І пра гаротны стан роднае мовы (чаму ж гаротны, калі на гэтай мове ёсьць з кім выпіць і з кім пасварыцца?). І пра нядахоп беларускіх школак. Асабліва хваляваала шаноўнага дакладчыка, што ў Фрунзэнскім раёне апошнія адсутнічаюць цалкам (а па мне, дык школаў для дзетак беларусаў цалкам дастаткова, а Фрунзэнскаму раёну «так и надо»).

Далей можна было ня слухаць і я пераключыў увагу на прэзыдыюм. Няпрацадзе зь бязь меры адухоўленымі тварамі клясыкаў сядзелі Іван Шамякін, Іван Навуменка ды пасланец прэзыдэнта Пашкевіч. Усе трое ў тахт думкам прамоўцы і ў знак згодыківалі мудрымі галовамі. За імі аб нечым весела шапталіся Генадзь Бураўкін і Ігар Лучанок. Сонная заля чакала банкету. А пакольکі мне выпіць не было з кім, я вырашыў пайсьці па сваіх справах. Так бы мовіць, паклаў том на паліцу, не дачытаўшы. Сыс па-ранейшаму сядзеў на тым самым месцы і ў той самай паставе.

Увесь дзень мяне не пакідала думка, што я дарэмна сышоў. Што самае цікавае, як заўжды, было наперадзе, а я яго прафукаў. Таму бліжэй да вечара я пасьпяшыў ізноў адкрыць XII том гісторыі БСП. Гэтым разам пісьменьніцкая брація тусавалася па-за межамі залі. У кулюарах. Знаёмыя літаратары запэўнівалі мяне ў дарэмнасьці майго сыходу. Я ж не пачуў, як зьнішчожыў Замяталіна ў сваёй прамове Генадзь Бураўкін. А зь якім палымяным словам за літаратуру выступіў Ніл Гілевіч! А расейскаму дэсанту на чале з Васілём Бяловым нават слова не далі на нашым суверэнным зьезьдзе. А як заінтрыгаваў Пашкевіч сказаўшы, што ён не пачуў «канкрэтных прапановаў» па ганарарах. Але чырвонай ніткаю праз усе кулюары праходзіла фраза: «расколу не адбылося». Казалася гэта на паніжаных тонах, вельмі даверальна. Пра які раскол гаворка, я не зразумеў. Але ж які ты сёньня пісьменьнік, калі хоць трохі не якабінец.

З буфэту раптам вылецеў і запоўніў сабою ўсё «административное здание» знаёмы голас. «Я ня буду галасаваць за Някляева! Я не люблю гэтага чалавека!» Я пасьпяшаўся на голас. Ва ўсім задаволены сабою паэт Някляеў папіваў гарэлку, а па-над ім раскачваўся Анатоль Сыс, асыпаючы шчодрымі праклёнцамі шляхетную галаву адзінага кандыдата на пасаду старшыні арганізацыі. Думаю, Сыс, як заўсёды, быў адзіным «раскольнікам». Астатнія цудоўна выканалі свае ролі й заслужана напіваліся. «Маскалі» не прайшлі, на чале СП стаў малады «суперагент», а адміністрацыя ППРБ — суцэльныя чытачы й прыхільнікі роднага слова. Дык чаму ня піць? Выпіў і я. За працяг гэтага бясконцага раману.

З.Б.



PROMENADE

# Драўляны беларускі ровар

Вельмі люблю езьдзіць са сваімі канцэртамі ў беларускую правінцыю. Заўсёды прыемна апынуцца там, дзе цябе любяць і чакаюць. Дзе табе гарантаваныя толькі прыязныя ўсьмешкі, шмат выпіўкі і ўтульны начлег. Дзе можна, так бы мовіць, «вкусить плода» сваёй сталічнасьці. Каб пасьля, па вяртаньні ў сталіцу, лішні раз пераканацца, што застануцца ўсьмешкі, размовы, нейкія цікавосткі. Не застанецца толькі маёй «сталічнасьці».

Ня ведаю, як праводзяць кіяўлянаў у які-небудзь Чарнігаў, ці масквічоў у Вологду, а менчукі мяне праводзілі ноткамі лёгкай, ненаіграннай зайздрасьці ў голасе: «Ты едзеш у Пінск?!» Скажы я, што еду ў Варшаву ці Маскву, такога пiэтэту б не было. Побач зь Пінскам, як нагода для зайздрасьці, мог стаць бадай толькі Парыж. Але гэта мог быць і Жлобін, і Лепель. Так адданa любяць жыхары беларускай сталіцы сваю правінцыю, з ноткамі эміграцкай настальгіі. Ці таму, што самі не адчуваюць сябе дастаткова ўпэўнена ў першым пакаленьні менчукоў, ці таму, што адчуваюць несапраўднасьць гэтага падзелу. Сталіца — гэта там, дзе ГУМ, БТ і Вялікі тэатар, а правінцыя... Як я зразумеў, гэта там, дзе ты можаш набыць неабходную рэч.

За некалькі дзён да запрашэньня прыехаць пасьпяваць у сталіцу Палесься ў мяне сапсавалася электрабрытва. І ў дзень ад'езду я бегаў па ГУМах і ЦУМах у марных пошуках знайсьці свой улюбёны танны «Харків». Але мая густая тыднёвая шчэць ня стала перашкодаю для той хвалі любові, што абрынулася на мяне, як толькі я сышоў на пінскі пэрон.

Пасьля менскага дажджу са сьнегам наколькі дзіўна ўбачыць раніцою зялёную траву. Стары Францішканскі кляштар, несавецкія будынкі старасьвецких вуліцаў і прыгожая узьбярэжная ракі Піны пададуцца адно толькі вельмі дарэчным тлом для першай сёлетняй зеляніны. І якім жа далёкім раптам здасца Менск. З гэтай сталіцы Заходняга Палесься, усходнеэўрапейскага матаболу й непароджанага «Каралеўства Ятвызь». Дарэчы, ні ў водным горадзе Беларусі расейская мова не гучала для мяне больш недарэчна, чымся ў Пінску. Можа быць, самым несавецкім горадзе РБ. Гэтым разам, напрыклад, я даведаўся, што тут няма цэнтральнага ўнівэрмагу. Абавязковага шэрага паралелепіпэду з шыльдай «Универмаг «Пинск». Замест яго ёсьць безьліч невялікіх крамак, у адной зь якіх я без праблемаў купіў сваю брытву.

Усё часьцей заўважаю на сваіх выступах маладыя твары. Гэтым разам амаль не было «пінскай шляхты» БНФ. Аўдыторыя складалася з паўсотні чалавек, пераважна 15-17 гадоў. Якія не размаўляюць па-беларуску. Але ўжо пасьпелі адчуць цікавасьць да гэтае «сталічнае» мовы й таго, абавязкова андэграўнднага, дзёрзкага, ці проста забаўнага, што на ёй павінна рабіцца. Нясьціпла спадзяюся, што я іх не расчараваў. Яны зарганізаваліся ў маладзёвую арганізацыю «Мроя», каб разам піць піва, сьпяваць рок-н-рол, любіць Беларусь і адзін аднаго, ну й яшчэ запрашаць сталічных бардаў. А галоўнае, ня быць як усе.

Я ня ведаю, якіх памераў павінен быць аптымальны горад для паўнавартаснага чалавечага жыцьця. Напэўна з 130-цю тысячамі насельніцтва й 900-гадовай гісторыяй. Гэтага дастаткова, каб быць заўважным на тле езуіцкага калегіюму, дзе я сядзеў, папіваючы мясцовае піва зь пінскім «белым легіянэрам» Лёшам. Лёшу да глыбіні душы хвалюе тое, што мясцовыя ўлады не даюць ні газэту незалежную зарэгістраваць, а ўжо мітынг сабраць, як у Менску, — пра гэта ўвогуле можна толькі марыць. Лёша, працуючы ў Хельсінскім камітэце, паездзіў па Эўропах, пасьля чаго Пінск стаў для яго выглядаць нашмат горш за Брусэль. Але я ня надта разумеў Лёшу. На халеру яму той мітынг, калі ён адным сваім брусэльскім выглядам ніяк не саступае пінскаму калегіюму. Да нас падыйшоў нязвычнага ўзросту чалавек зь няголеным азызлым тварам алькаголіка, з патухлымі вачыма бамжа й апранугы ў даўно працёртую фірмовую джынсу. На нагах чалавека былі дарагія пантофлі й бездакорна беласьнежныя шкарпэткі. Мы парукаліся. Гэта быў Сярожа. Яму трэ былі нашыя бутэлькі. Яшчэ да ўсялякай перастройкі Сярожа першы зь пінскай моладзі адкрыў Амэрыку, зьезьдзіўшы да сваякоў, панапрывозіўшы кружэлак і джынсаў і стаўшы галоўным героем дзявочых мараў. Пасьля чаго Сярожа цалкам слушна вырашыў сьпівацца. А чым яшчэ можна займацца першаадкрывальніку пасьля адкрыцьця? У Менску, на жаль, амаль няма шанцаў стаць піянэрам, каб прыгожа сьпівацца ў белых шкарпэтках.

Асабіста я зрабіў у Пінску вялікае адкрыцьцё, што ровар прыдумалі беларусы. А як інакш, калі я яго на ўласныя вочы бачыў у будынку калегіюму, дзе месьціцца мясцовы музэй. Я неяк меркаваў, што пабачу тут шчасьлівы шлях пінчукоў ад забойства мамантa да выбараў прэзыдэнта, а падзівіўся на ровар, які нідзе й ніколі не пабачу дакладна. Геніяльна задуманая й дасканала выканаая з дрэва машына. Нямецкія храмаваныя аналагі пачатку стагодзьдзя й блізка не стаяць з творам тэхнічнага мастацтва беларусаў, цёплую эстэтыку якога нават мэталічны цэп не псуе. Але беларусы, на жаль, даўно не сядалі на свой ровар. А інакш памяталі б некалькі асаблівасьцяў нацыянальнай язды. Дарога ніколі не бывае гладкай і амаль немагчыма збочыць.

Зьміцер Бартосік






КАЛЯНДАР

# У вянок Францішку Віславуху

Польскі пісьменьнік Францішак Віславух (24.09.1896 — 23.03.1978) нарадзіўся і доўгі час жыў у маёнтку Пыркавічы, што на Драгічыншчыне. Памёр 20 гадоў таму, пахаваны ў Лёндане. Ягоныя творы «Opowiadania poleskie» (Londyn, 1968, Warszawa, 1994), «Echa Polesia» (Londyn, 1979), «Na ścieżkach Polesia» (Londyn, 1976) — гэта своеасаблівая малая энцыкляпэдыя Палесься 1930-х гадоў.

У Пыркавічах, у занядбаньні, але шчэ захаваліся рэшткі маёнтку Віславухаў — «палескага роду», як назваў сваю працу «новаадкрывальнік» свайго выдатнага земляка, настаўнік Пыркавіцкай школы Я.Квачук. Хто хоча, можа дабрацца да гэтых мясьцінаў — гэта чыгуначны прыпынак «станцыя Драгічын».

Ад маёнтку ў Пыркавічах адстаяць вельмі мілы палацык, царква і парк, выкананыя ў стылі позьняга клясыцызму (пачатак XIX ст.).

Побач з Пыркавічамі вёска Заказельле і рады маёнтак Ажэшкаў з ампірным палацам, паркам, нэагатычнай капліцай (труны зь якой, як гэта звычайна рабілася ў савецкія часы, выкінулі на двор) і вінакурняй. Тут сама недалёка вёска Людвінова, дзе жыла Эліза Ажэшка: тут у 1862 г. зьбіралася шляхта, змаўляючысь на паўстаньне, тут лячылі параненага Траўгута ў 1864 г. Захаваліся парк і сьляды сялібы. Побач жа ў Папінай і Ляхавічах — традыцыйныя берасьцейскія драўляныя цэрквы, а ў Новай Папіне — драўляны касьцёл. Файны маршрут выходных дзён.

Заходнепалескае навукова-краязнаўчае таварыства «Загародзьдзе» правяло ў Берасьці сэмінар, прысьвечаны жыцьцю ды творчасьці Віславуха, з выездам у Пыркавічы. Аналягічны сэмінар адбыўся і ў Менскім лінгвістычным унівэрсытэце. Сэмінары не ўдалося б правесьці, калі б ня шчырая праца прафэсара Аляхновіча (Берасьце) і Вярэніча (Менск), ані без спрыяньня дырэктара Пыркавіцкай школы Ю.Камісарчука.

Фёдар Пракапчук

СТО ТВОРАЎ XX СТАГОДЗЬДЗЯ



# ПРЫВАКЗАЛЬНАЯ ПЛОШЧА Ў МЕНСКУ

Да 70-х гадоў мінулага стагодзьдзя на тым самым месцы, дзе сёньня знаходзіцца галоўны менскі вакзал «Менск Пасажырскі», быў сасновы бор. У 1863 годзе ў тым бары атрад беларускіх інсургентаў даў бой расейскім карнікам. Сярод тых інсургентаў быў Ян Баляслаў Луцкевіч, бацька Івана і Антона Луцкевічаў. Празь дзесяць гадоў пасьля таго здарэньня на месцы лесу ўжо была чыгунка і першы ў Менску вакзал — Віленскі...

... У 1890 годзе быў узьведзены першы мураваны вакзал у Менску. Гэта быў даволі імпазантны аднапавярховы будынак з цокалем і двума двухпавярховымі рызалітамі з высокімі сьпічастымі шатрамі абапал параднага ўваходу. Пляніроўка была клясычнай для будынкаў такога тыпу: прасторны вэстыбюль з апэрацыйнай заляй, ад якога разыходзіліся два рукавы ўздоўж рэек, у якіх былі залі чаканьня. Ужо тады ў вобразе вакзалу адлюстравалася ідэя брамы. Брамы зь дзьвюма вежамі, прайшоўшы празь якую чалавек трапляў у Горад...

... Перад вакзалам неўзабаве сфармаваўся пляц, які таксама атрымаў назву Віленскага. Дамінантаю гэтага ансамблю была вадацяжная вежа, паміж якой і вакзалам былі раскінутыя адна- і двухпавярховыя дамы розных службаў. Адзін зь іх яшчэ існаваў пяць гадоў таму і быў добра ўсім вядомы як камэра захоўваньня. Яго велізарныя лёхі й магутныя скляпеньні паслужылі добрую службу Беларускай чыгунцы. Крыху далей, па адной лініі з вакзалам стаяла царква чыгуначнікаў. Яе раскідалі напрыканцы 50-х... Стыль гэтага ансамблю быў спэцыфічны, часьцяком званы ў літаратуры як «цагляны стыль», які быў пашыраны ў Беларусі й мудрагелістым чынам спалучаў у сабе рысы эклектыкі, мадэрну, народнага дойлідзтва й розных тутэйшых выкрутасаў — дэкору, запазычанага ці то з гатычных касьцёлаў, ці то з сынагогаў...

... Цэнтральны вакзал краіны набыў адпаведныя сваёй ролі рысы ў 1940 годзе. Тады па праекце архітэктара Радчаніка Віленскі вакзал быў капітальна разбудаваны. Ідэя Брамы атрымала ў яго іншую трактоўку. На гэты раз гэта было велізарнае вітражнае вакно вышынёю ў тры паверхі, якое займала амаль усю цэнтральную частку будынка, якая моцна выпучалася большымі памерамі й вілікім трохкутным франтонам. Пра былыя рызаліты-вежы ўжо нічога не нагадвала — пад страхою йшоў магутны гзымс і ўвесь будынак быў раўнастайна пачлянёны на ўсю даўжыню пілястрамі, што прыдала яму манумэнтальнасьць. Праўда, паўцыркульныя арачныя праёмы першага паверху, яшчэ царскіх часоў, Радчанік ахайна захаваў. Сакавітая рустоўка, пілястры, ордэр — першыя ў Менску прыкметы нэапалядыянскага ар-дэко, больш знанага як сталінскі ампір. Распачалася глябальная рэканструкцыя плошчы па праекце ленінградзкага архітэктара (родам з Самары) Барыса Рубаненкі... Праз год новы вакзал гарэў. Пачалася вайна...

... Па вайне будынак вакзалу быў тактоўна адноўлены амаль у ранейшым абліччы. Толькі ўбраньне інтэр'ераў стала больш сакавітым, і бадай, празьмерным: росьпісы, ляпніна, бронзавыя жырандолі. Па вайне ўсім хацелася сьвята. У 1949-м вакзал «Менск Пасажырскі» ізноў пачаў прымаць пасажыраў... У 1991 годзе, пасьля свайго стогадовага юбілею, былы Віленскі вакзал быў зруйнаваны...

... Адразу пасьля вайны, пакуль ішлі аднаўленчыя (й зьнішчальныя) работы па ўсім Менску, на Менскім замчышчы, зь якога былі сьцёртыя ўжо апошнія будынкі, зашчыравалі археолягі. Для археалёгіі Менску то быў сапраўдны ўзьлёт — нідзе ў Эўропе ніводная сталіца не расчысьціла да донца ўсё сваё старажытнае першапачатковае ядро. Перад вачыма археолягаў паўстаў горад — сьведка тысячагадовае цывілізацыі. У духу тых гадоў пасыпаліся сьвяткаваньні грандыёзных юбілеяў Менску: 880, 885 і гэтак далей. 900-годзьдзе ўжо павінна было прыпасьці амаль на камунізм. Прыблізна ў тыя, першыя паваенныя гады, была зробленая першая рэканструкцыя старажытнага Менску. Перадусім гэта была велізарная брама з двума груваcткімі вежамі. Да 1984 году, пакуль не была знойдзеная сапраўдная Брама, гэтая, абсалютна гіпатэтычная рэканструкцыя (ці не падгледжаная на малюнку Язэпа Драздовіча) брамы, уважалася за сымбаль нашае сівое гісторыі. «Браму Менску» шматкроць выяўлялі на значках, плякатах, капэртах, у манаграфіях і падручніках. Ідэя пабудаваць у Менску Браму, накшталт таго, як у Маскве пабудавалі «крамлёўскія шпілі» над калясальнымі новымі спарудамі, залётала ў паветры. Якраз пачалося змаганьне зь «бязродным касмапалітызмам»...

У Менск пасьля вайны вярнуўся той самы Барыс Рубаненка, які ўжо праектаваў рэканструкцыю Прывакзальнае плошчы. Але гэтым разам ягоная задача была нашмат больш маштабнаю... Апроч таго, што гэтая плошча павінна была стаць адной з найбуйнешых у Эўропе (крыху меншай за плошчу Леніна), яна мусіла ўвасобіць абсалютную перавагу сацыялізму й нацыянальнай палітыкі ў СССР. Былая Віленская плошча разглядалася як парадная брама ня толькі Менску, але і ўсёй Беларусі. Так бы мовіць, калясальныя вароты Выставы Дасягненьняў Народнае Гаспадаркі, якой уяўлялі сабе будучы Менск дойліды, якія прыехалі з Масквы ды Ленінграду. Быў створаны творчы калектыў на чале з Рубаненкам, у склад увайшлі архітэктары Л.Вусава, Л.Галубкоўскі, А.Карабельнікаў і У.Герашчанка. Рэалізацыя праекту зьдзяйсьнялася амаль аўтаматычна, у надзвычай сьціслыя тэрміны з 1948 па 1956 год.

У выніку была ўтворана вялікая, прастакутная ў пляне плошча 400 на 120 мэтраў (без уліку вуліцаў). На яе выходзяць трасы вуліцаў Кірава, Ленінградзкай, Бабруйскай, Ульянаўскай, разам зь якімі памеры плошчы яшчэ большыя. Новыя будынкі пераважна жылых кварталаў, акрэсьленых вуліцамі Ульянаўскай, Ленінградзкай і Сьвярдлова, утварылі выразны архітэктурны ансамбаль параднага ўезду ў горад з боку чыгуначнага вакзалу. Дарэчы, гэта быў і першы мікрараён у Менску, адзін зь першых у Эўропе (другі пасьля ансамблю новага Кале ў Францыі па праекце Агюста Пэрэ). Тут стварыўся своеасаблівы міні-горад са сваім жыльлём, крамамі, кавярнямі, рэстарацыямі, майстэрнямі, школай, дзіцячым садам, адміністрацыяй і вытворчасьцю...

Галоўным акцэнтам у кампазыцыі гэтага раёну сталі два адзінаццаціпавярховыя дамы-вежы па рагох пяціпавярховых жылых дамоў, разьмешчаных амаль сымэтрычна асноўнай восі плошчы: будынак вакзалу — вуліца Кірава. Лёгкая асымэтрыя толькі павялічыла візуальна маштаб гэтых спарудаў. Вось тут і надалася тая самая мітычная рэканструкцыя старажытнай менскай Брамы...

Паміж іншым перад архітэктарамі й дэкаратарамі стаяла задача стварыць помінік максымальна нацыянальны па форме (пра зьмест я ўжо згадаў). Для гэтага ў тыя гады рэальная спадчына не надавалася: пра готыку й рэнэсанс згадваць было небясьпечна, папскае барока адпадала само сабою. Міт стаўся адпаведны міту. Натуральна, пераносіць элемэнты архаічнага драўлянага дойлідзтва ніхто не зьбіраўся (sic! — усе перакрыцьці вышэй за першы паверх выкананыя з дрэва), а таму па хадзе прыдумлялася Нешта. Абрыс трох'ярусных вежаў і сапраўды нагадвае пра народныя традыцыі, а яшчэ пра Белую вежу, а яшчэ пра гомельскі клясыцызм, а яшчэ пра нешта з Рыма і Смаленску. Першапачаткова верхнія ярусы з гадзіньнікам і гербам БССР былі ўвянчаныя па пэрымэтры шпілямі. Па другім ярусе ўжо стаялі шыхты высокіх бэтонных пінакляў, цалкам фантазійных. І нарэшце, па кутах першага яруса ўсталі калясальныя бэтонныя скульптурныя групы: сяляне, рабочыя, інтэлігенты, моладзь... Па розных паверхах, часьцяком бяз пэўнае сыстэмы, раскіданыя маскароны, картушы, з выявамі беларускіх кветак, арнамэнтамі са слуцкіх паясоў і нават з зубрамі... На жаль, створаныя ў сьпешцы, гэтыя элемэнты архітэктурнага ўбраньня неўзабаве пачалі крышыцца, ствараючы сур'ёзную небясьпеку для мінакоў. Пакрысе, ярус за ярусам, вежы пазбавіліся сваіх шыкоўных шатаў... Савецкі бэтон — ня рымскі камень. Брама Менску «падтала», як сьнежны палац. Як і шмат іншых савецкіх культурных мітаў. Па-сутнасьці, гэтым палацам з фантазіяў і паветра яна й ёсьць... Адзіныя дэталі, якія засталіся ў ранейшым выглядзе — гэта найвялікшы ў Беларусі гадзіньнік і... герб БССР.

Доўгія гады ў дзьвюх велізарных брамах, што былі ў сярэдзіне гэтых дамоў, хаваліся ад дажджу й сьнегу постаці цыклёпаў, зьнятых зь вежаў. Пакуль ня зьніклі назаўсёды...

Вежы сталі галоўнай вэртыкальнай дамінантай горада, сфармаваўшы адметны абрыс усёй панарамы Менску. Помнік, стылістыка якога была вымысьленая адно невялікім калектывам дойлідаў, што прыехалі ў БССР, застаўся ці не найярчэйшым (разам зь менскім ГУМам) помнікам нацыянал-савецкага стылю ў Беларусі.

Апошні штрых быў пакладзены пабудоваю прыгараднага вакзалу, па праекце аднаго з старэйшых архітэктараў, які атрымаў адукацыю яшчэ ў царскім Пецярбургу, Сяргея Баткоўскага, а таксама Нуты Шпігельмана. Будынак паўстаў у 1955 годзе. Ахайна й дакладна прапрацаваныя ягоныя дэталі былі навязаныя да ўжо адноўленага будынку цэнтральнага вакзалу. Быў нават паўтораны рытм паўцыркульных вокнаў і частата пілястраў. Болей падобны да італьянскай вілы, чым да празаічных у сваёй утылітарнасьці прыгарадных касаў, гэты імпазантны будынак замкнуў пэрспэктыву Ленінградзкай, былой Пецярбурскай вуліцы... Ягоная стылістыка шмат больш арганічная, бо Баткоўскі з Шпігельманам не вынаходзілі стыляў, а акуратна кампілявалі...

Цыкляпічная энэргетыка, закладзеная ў ансамблі былое Віленскае плошчы, адчуваецца і сёньня. Пасьля адкрыцьця мэтрапалітэну гэты пляц стаў абсалютым цэнтрам транспартных шляхоў усяе Беларусі і, бадай, назаўжды застанецца сымбалем Менску... эпохі БССР.

**Сяргей Харэўскі**



**У ПАПЯРЭДНІХ НУМАРАХ ПРАДСТАЎЛЕНЫЯ ТВОРЫ:**

1. Фэрдынанд Рушчыц. Зямля
2. Мсьціслаў Дабужынскі. Віцебск, лесьвіца
3. Марк Шагал. Прамэнад
4. Ільля Рэпін. Беларус
5. Марк Антокальскі. Помнік Кацярыне
6. Вітальд Бялыніцкі-Біруля. Блакітная капліца
7. Хаім Суцін. Паж
8. Казімер Малевіч. Чорны квадрат
9. Язэп Драздовіч. Пагоня Ярылы
10. Валянцін Волкаў. Менск, 2 ліпеня 1943 году
11. Манумэнт Перамогі
12. Помнік Леніну ў Менску
13. Пётра Сергіевіч. Шляхам жыцьця
14. Аляксей Глебаў. Францішак Скарына
15. Міхал Філіповіч. Бітва на Нямізе
16. Лявон Вітан-Дубейкаўскі. Касьцёл Пятра і Паўла ў Дрысьвятах
17. Лявон Тарасэвіч. Бяз назвы
18. Ян Булгак. Выгляд з Зарэчча
19. Іосіф Лянгбард. Менская Опэра
20. Аркадзь Астаповіч. Дворык
21. Клаўдзі Дуж-Душэўскі. Сьцяг

# Старонкі Супраціву

*Экспэдыцыя Архіву Найноўшае Гісторыі й «Нашай Нівы» на Слонімшчыну**

Слонімшчына яшчэ прыхоўвае ў насьцярожаных сэрцах і самых глыбокіх успамінах сваіх людзей такую інфармацыю й такія ўражаньні з найноўшае гісторыі, якія могуць зьдзівіць дапытлівага дасьледчыка, а часам падацца яму сэнсацыйнымі. З памяці сьведкаў могуць выплыць ня проста факты ды пэрсанажы, а гістарычныя сюжэты, якія ў выніку складаюць цэлыя гістарычныя этапы. Такія тэмы як савецкі бандытызм пад час Другой сусьветнай вайны, антысавецкі паваенны супраціў зусім ці амаль зусім не прысутнічаюць у беларускіх школьных і ўнівэрсытэцкіх падручніках. Са Слонімшчыны мы прывозім тыя сьведчаньні, якія сваёй фактаграфічнай вывернасьцю могуць перамагчы любога савецкага «пракурора».

Калі першая справаздача са Слонімшчыны была пераважна прысьвечаная тэме ахвяраў тэрору з боку савецкіх фармацыяў пад час Другой сусьветнай вайны, то цяпер мы публікуем тэкст кіраўніка маладзёжнага падпольля ў 1946-1947 гадах Васіля Супруна пра гісторыю ўзьнікненьня ягонай арганізацыі —слонімскай «Чайкі».

Мы ўдзячныя спадару Супруну за пратакалізм аповеду — празь яго мы адчуваем атмасфэру прыніжэньня й прагі свабоды, у якой узьнікала маладзёжнае падпольле ў паваеннай Беларусі. Гэтыя ўспаміны ілюструюць, апроч іншага, і пэўныя сацыякультурныя стэрэатыпы даволі кансэрватыўнага грамадзтва Заходняй Беларусі — індывідуалізм і скептыцызм, праявы мужчынскага шавінізму. Таму прапанаваныя ўспаміны набываюць асобую якасьць сьведчаньня пра грамадзкую атмасфэру цэлага пэрыяду беларускае гісторыі.

Той пэрыяд цалкам ня скончыўся зь ліквідацыяй імпэрыі ГУЛАГу і дэмантажом СССР. Пад час нашай сустрэчы са спадаром Супруном адчувалася пэўная недагаворанасьць, якая сыходзіць яшчэ з традыцыяў канспірацыі. Застаецца ўражаньне, што пра лягеры ён гатовы распавядаць больш, чым пра сваю антырэжымную дзейнасьць. Ня ўсё друкуецца цяпер, але й мы не пачулі адказы на ўсе нашыя пытаньні. У гісторыі самой «Чайкі» і Цэнтру Беларускага Вызваленчага Руху застаюцца цьмяныя сюжэты. Да канца не прамоўленыя імёны правакатараў. Не зусім зразумелаю выглядае роля навагрудца Казака. Васіль Супрун пэўна выказаўся толькі наконт адной асобы й яе ролі ў правале падпольля —таксама навагрудца Алеся Бажко. Не адразу, але я ўзгадаў гэтае імя — у мае студэнцкія гады яшчэ ў другой палове 80-ых на сэмінарах па гісторыі БССР нам раілі прачытаць кніжку памфлетаў Алеся Бажко «Татальнае банкруцтва» — «пра варожую дзейнасьць былых фашысцкіх наймітаў на тэрыторыі БССР і за яе межамі». Як напісана ў біябібліяграфічным слоўніку «Беларускія пісьменьнікі», важнешыя тэмы творчасьці Бажко — выкрыцьцё імпэрыялізму і клерыкалізму (маюцца на ўвазе закіды ў бок Ватыкану). А апалягетыцы калектывізацыі на Гарадзеншчыне прысьвечаная ягоная аповесьць «Позьняе ворыва».

Таксама прыхаваныя яшчэ сёньня сюжэты — скіраваньне падпольлем свайго чалавека ў МГБ-КГБ. Апроч таго, у 1947 былі арыштаваныя ня ўсе ўдзельнікі суполак, якія ўваходзілі ў Цэнтар Беларускага Вызваленчага Руху. Але актыўна дзейнічаць без кіраўніцтва яны ўжо не маглі. На прасьвятленьні гэтай інфармацыі пад час размовы з Васілём Супруном мы не настойлівалі. Тым больш, што выкананьне прынцыпаў канспірацыі не дазваляла яму ўсё і ведаць.

Усё гэта наводзіць на думкі пра характарыстыкі тагачаснага падпольля й ягоныя дэфініцыі. Маладзёжнае падпольле ў паваеннай Заходняй Беларусі было досыць распаўсюджанаю зьявай — такія суполкі, апроч Слоніма, узьніклі ў Паставах-Глыбокім (Саюз Беларускіх Патрыётаў, якому прысьвечана выдадзеная летась у «Нашай Ніве» кніга «Гарт»), Смаргоні-Мядзеле, Горадні-Нясьвіжы-Клецку-Стоўбцах (Саюз Змаганьня за Незалежнасьць Беларусі), Навагрудку (Саюз Вызваленьня Беларусі)... Зазначым, што гэты сьпіс зусім ня поўны. Маюцца ўскосныя зьвесткі пра існаваньне падобных арганізацыяў і на ўсходзе Беларусі — у Мазыры і Гомелі.

Пашыранасьць, спробы цэнтралізацыі і вызначэньня арганізацыйнай будовы дазваляюць сьцвярджаць, што гэтыя маладзёжныя ініцыятывы афармляліся ў цэлы грамадзкі рух. З самага пачатку мэтады дзейнасьці дэкляраваліся мірныя. Але трэба прыгадаць, што ў другой палове 40-х у беларускіх лясах яшчэ хаваліся партызанскія аддзелы рознай арыентацыі, у тым ліку й беларуская незалежніцкая партызанка. Верагоднай была вайна Захаду з СССР. Паступова мірны рух мог трансфармавацца ва ўзброены супраціў. Тут варта прыгадаць яшчэ Загад №1 Цэнтру Беларускага Вызваленчага Руху, дзе вялося пра неабходнасьць канспірацыі, прапаноўвалася зьвяртаць увагу на канцэнтрацыю савецкіх узброеных адзінак, а пры магчымасьці зьбіраць і захоўваць вайсковы рыштунак. Менавіта сыходзячы з факту гэтага Загаду Судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага Суда Беларусі ўжо ў студзені 1992 году адмовіла ў рэабілітацыі аўтару гэтага дакумэнту — Васілю Супруну. Да ілюстрацыі формаў дзейнасьці антырэжымнага падпольля ўзгадаем яшчэ малавядомыя сюжэт з улёткамі, якія распаўсюджвала берасьцейская падпольная група, а таксама факт засылкі слонімцамі ў органы ГБ свайго чалавека.

Відавочна, што ў выпадку паваеннага маладзёжнага падпольля мы маем справу ня зь мірным дысыдэнцкім рухам, які ўзьнік у СССР ужо ў 60-я гады, а з тым грамадзкім кірункам, які перарастаў у рух Супраціву. Рэпрэсіі з боку сыстэмы, а таксама зьмена зьнешнепалітычнай сытуацыі спынілі гэты працэс.

Цяпер мы дапісваем кнігу беларускай традыцыі новымі старонкамі супраціву. З постмадэрнісцкага гледзішча сытуацыя супраціву — тупіковая. Мы ж бачым, як усё больш трывалым робіцца падмурак беларускага грамадзтва, як напаўняюцца жыцьцём старонкі беларускай гісторыі і ў выніку можа ўзьнікнуць так чаканая разнастайнасьць традыцыі. Адсюль — прага сабраць раскіданыя старонкі.

*Заканчэньне.

**Алег Дзярновіч**

Васіль

# Падпольная

Закончылася Другая сусьветная вайна. Беларусь, што ляжала ў руінах, была ўсланая магіламі. Загінуў тут кожны чацьверты. Панёсшы такія агромністыя страты, народ спадзяваўся, што бальшавіцкія ўлады нарэшце дадуць хоць крыху свабоды. Хадзілі нават чуткі, што Сталін паабяцаў Жукаву пасьля вайны распусьціць калгасы. І ўсе з энэргіяй і самаахвярнасьцю ўзяліся за аднаўленьне зруйнаванага роднага краю.

У сьвеце многае зьмянялася да лепшага. Была створаная Арганізацыя Аб'яднаных Нацыяў, у склад якой і Беларусь увайшла як асобная дзяржава, сузаснавальніца. У газэтах зьяўляліся весткі аб актывізацыі нацыянальных рухаў недзе ў замежжы і аб распадзе каляніяльных імпэрыяў. У суседніх Польшчы, Украіне, Літве пашыралася барацьба за незалежнасьць ад Савецкага Саюзу. Прэм'ер-міністар Вялікабрытаніі Чэрчыль у сваіх выступах пагрозьліва патрабаваў ад Сталіна неўмяшаньня ва ўнутраную палітыку цэнтральнаэўрапейскіх дзяржаваў, і савецкія газэты дружна заяўлялі, што «Чэрчыль бразгае зброяй». А жыцьцё ў Заходняй Беларусі зноў сьведчыла аб нязьменнасьці парадкаў у Савецкай імпэрыі — заставаўся той самы рэпрэсіўны рэжым з антынацыянальным гвалтам і жабрацкім калгасным ладам. Зноў, як пры нямецкай акупацыі, моладзь прымусова вывозілі на работы, але гэтым разам ужо ў Сібір і на Ўрал. А недзе з усходу няспынным патокам хлынулі камуністычныя асаднікі, якія нахабна прэтэндавалі на месца пад сонцам і ўраз выпхнулі з усіх цёплых пасадаў былых партызанаў і мясцовых камуністаў, адначасова зьмятаючы і ўсё беларускае: мову, культуру, нацыянальныя каштоўнасьці.

Новыя «вызваліцелі» пагардліва і зьняважліва ставіліся да тых, хто жыў пад нямецкай акупацыяй; савецкія ўлады зь недаверам і падазронасьцю глядзелі на мясцовае насельніцтва. Магчыма, на гэта былі пэўныя падставы. Бо за тыя тры гады нацыянальныя школы і асяродкі культуры, што дзейнічалі на акупаванай Беларусі, нягледзячы на складанасьць умоваў і шматлікія перашкоды, змаглі адкрыць многім, асабліва моладзі, вочы на сапраўдную гісторыю Бацькаўшчыны, разбудзіць у іх сэрцах пачуцьці годнасьці і нацыянальнай любові да сваіх каранёў, сваёй Беларусі.

Цяпер жа зь неўтаймаванай агрэсіўнасьцю і вульгарнасьцю на запалоханы край абрынуўся шквал фальшу і чужой эрзац-культуры. Зноў уся ўлада апынулася ў чужых руках і ўсё вельмі нагадвала акупацыю. Таемна начамі зьнікалі людзі, чэка свавольна патрашыла гарады і вёскі, ішла гвалтоўная русіфікацыя, беларуская мова і культура адкрыта зьняважаліся, гісторыя нахабна фальсыфікавалася. І гэта ўсё рабілася ўладнымі невукамі на прымітыўным узроўні. Махлярства, хамства і гвалт сталі неад'емнымі атрыбутамі ўлады. Уводзіліся велізарныя «падаткі», прымусовыя «пазыкі», забароны і абмежаваньні.

Усяго гэтага не магла не заўважаць чулая на палітычны клімат моладзь і патрыятычна настроеная інтэлігенцыя. Яна спрабавала легальна адстойваць свае нацыянальныя канстытуцыйныя правы і годнасьць, але ў адказ сыпаліся пагрозы ўдушэньня і абвінавачаньні ў буржуазным нацыяналізме і антысавецкай агітацыі.

Само ж жыцьцё штурхала да абурэньня і пратэсту, да барацьбы за чалавечую і нацыянальную годнасьць. І ўжо ў самым пачатку 1946 году ў розных кутках Заходняй Беларусі пачалі ўзьнікаць ініцыятыўныя групкі патрыётаў, якія не маглі і не хацелі моўчкі мірыцца з новым акупацыйным гвалтам. У памяці многіх была яшчэ сьвежай барацьба супраць палякаў і немцаў за свае нацыянальныя сьвятыні. Асабліва ўзмацніўся ўздым нацыянальнага руху з набліжэньнем вясны 1946 году.

Верагодна, адным з найбольш яскрава выражаных агмянёў такога беларускага патрыятычнага руху ў Заходняй Беларусі была Слонімшчына, дзе мне непасрэдна давялося жыць і дзейнічаць. Адразу зазначу, што з прычыны канспірацыі далёка ня ўсё мне вядома аб рэгіянальнай дзейнасьці нашага антырэжымнага падпольля 1946-1947 гадоў. У доступе да архіўных матэрыялаў сьледзтва ў 1995 годзе мне было адмоўлена. Таму ўсё ніжэй прыведзенае — гэта штрыхі з маіх асабістых успамінаў і скупых зьвестак, сабраных ня з мэтай дасьледаваньня справы.

А пачыналася ўсё так. Мы — былыя аднакурсьнікі Слонімскай настаўніцкай сэмінарыі, раскіданыя па розных гарадах і вёсках краю, сустракаліся й узгадвалі юнацтва і пра нашае шчырае жаданьне прысьвяціць сябе служэньню свайму народу, яго асьвеце і культуры. З болем і жахам мы назіралі, як топчуцца і зьневажаюцца нашыя сьвятыні. Кожная такая сустрэча зьбліжала духоўна, будзіла жаданьне неяк супрацьстаяць гвалту. Было ж нам тады каля дваццаці, наперадзе — усё жыцьцё зь сьветлымі марамі і жаданьнем пражыць яго дастойна і прыгожа, на карысьць роднай Беларусі. А наўкола рушылася ўсё. Чужы брудны бот нахабна таптаўся па нашых ідэях, нашых шчырых юнацкіх сэрцах. За што?! — узьнікала пытаньне.

Усе мы бачылі, як гэты ж бот прайшоўся па многіх народах Эўропы і ў крыві ўтапіў іх свабоду, але маўчаць было немагчыма. І мы вырашылі, ахвяруючы сваім жыцьцём, бараніць гонар, сумленьне і самабытную спадчыну свайго народу. Уступаць у адкрытую барацьбу цяпер было безнадзейна і таму было прынятае наступнае: праз патрыятычнае падпольле весьці абуджэньне моладзі і ўплывовай інтэлігенцыі, рыхтуючы такім чынам супраціў шквалу чужацкае плыні, што несла з сабой маральнае і духоўнае разлажэньне нацыі, зьнішчэньне гістарычных каштоўнасьцяў народа.

Асноўная ініцыятыва стварэньня падпольля належала, акрамя мяне, Міхасю Ракевічу і Міхасю Чыгрыну. Падрыхтоўка да ўстаноўчага сходу цягнулася да вясны. Мы разумелі сур'ёзнасьць справы і не сьпяшаліся зь яе фарсіраваньнем. Нарэшце, сход з абмежаванай колькасьцю прысутных быў прызначаны на нядзелю, недзе ў самым пачатку траўня 1946 году. Павінна было сабрацца ня болей як пяць чалавек. З уступным паведамленьнем павінен быў выступіць я. Рыхтаваліся тэзысы праграмы дзейнасьці падпольля, схема структурнай будовы, асновы канспірацыі.

Памятаю, была прыгожая нядзельная раніца. Прайшоўшы пешшу 12 кілямэтраў (бо працаваў настаўнікам у вёсцы Глоўсевічы), у 10 гадзін — як было дамоўлена, я чакаў астатніх у Слоніме на дамбе канала Агінскага. Хваляваньне ўзрастала з-за непунктуальнасьці збору і рызыкоўнасьці мерапрыемства. Думалася рознае — пачыналася самаахвярная і няроўная барацьба. Нарэшце, у далечыні зьявілася чаканая групка, але зьдзівіла прысутнасьць у ёй дзяўчатаў, што загадзя не было агаворана, і колькасьць — пяць асобаў. Дзяўчаты мне незнаёмыя. Аказалася, што былі гэта сяброўкі прысутных, якія ўжо ўведзены ў курс справы і далі згоду на ўдзел у барацьбе. Прыйшлося хаваць сваё абурэньне такой нечаканасьцю і легкадумствам.

Дзьвюма групкамі грамада накіравалася за горад. Там, за высокім чыгуначным насыпам, на шырокім лузе, парослым кустоўем, можна было спакойна схавацца ад непатрэбнага вока. Дзяўчаты для канспірацыі захапілі з сабой падручнікі і сшыткі.

У сходзе, акрамя мяне, бралі ўдзел Міхась Ракевіч, Міхась Чыгрын, Аляксандар Гардзейка, Лёдзя Кавальчук і Ніна Карач. Азнаёміўшы прысутных з мэтай сходу і атрымаўшы адзінагалосную згоду на актыўны ўдзел у самаахвярнай барацьбе за лёс Бацькаўшчыны, я папярэдзіў, што гэта вельмі небясьпечна і можа каштаваць ня толькі волі, але й жыцьця; патрыёты рашуча прагаласавалі за ўдзел. Такім чынам, ахвяруючы сабой у імя Беларусі, тут жа было вырашана стварыць беларускую падпольную патрыятычную арганізацыю і даць ёй канспіратыўнае імя «Чайка». Такая назва не гаварыла ні аб чым, што магло б нагадваць аб падпольнай антырэжымнай дзейнасьці. Прынята рашэньне, што арганізацыя павінна быць сацыял-дэмакратычнай. На выпадак правалу гэта быў бы матыў, што і кампартыя пачынала свой шлях з сацыял-дэмакратыі. Затым былі выбраныя кіраўнік і сакратар. Імі сталі я і Ніна Карач, якая павінна заняцца шыфроўкай магчымай, хоць мала пажаданай, дакумэнтацыі. Вызначаны таксама асновы канспірацыі, мэты і структура арганізацыі, напрамкі і мэтады практычнай дзейнасьці. Асобна было агаворана, што арганізацыя не павінна займацца тэрорам і падрыўной дзейнасьцю, а праз ідэйна-асьветніцкую патрыятычную індывідуальную працу пашыраць свае шэрагі. Пры гэтым не захапляцца колькасным складам груп, а зьвяртаць асаблівую ўвагу на надзейнасьць і пэрспэктыўнасьць удзельнікаў падпольля. Канкрэтныя задачы на пэрспэктыву кожны з



*В.Супрун (зьлева) разам зь Янкам (справа стаіць) і Ларысай Геніюшамі (справа сядзіць) і іхнымі знаёмымі. Зэльва, 1957 г.*

калі, не выходзячы з кватэры, як іхны Ямеля на печы, яны ўедуць у Эўропу. Старэйшыя чакаюць, калі, нарэшце, скончыцца ўвесь гэты «самостийный балаган» зь межамі, пашпартамі ды «зайчыкамі». Але з чаканьня нічога не вынікае. Чаканьне паралюшуе. Калі заўтра ў Беларусі падыме галаву беларушчына, то, як і сем гадоў таму, ніхто ня будзе супраць, таму што яна нічога не разбурыць. Нельга разбурыць тое, чаго няма.

**Сяргей Харэўскі**

*Цікава, што людзі, узгадаваныя ў Расеі і блізкія да яе культуры, час ад часу спрабуюць супраціўляцца, штосьці прадпрымаць для захаваньня свае нацыянальнае ідэнтычнасьці. Але вось што з гэтага выходзіць.*

# РАСЕЙСКІ КЛЮБ

Гадоў пяць таму была ў мяне ідэя. Адкрыць у Гомелі расейскі клюб. Мне ўяўляўся ўтульны дамок дзе-небудзь на Слабадзе, ці які пакойчык у адным з Паскевічавых палацаў, дзе б зьбіраліся мае браты па крыві й за каньяком і прэфэрансам сьпявалі расейскія рамансы, абмяркоўвалі апошнія падзеі расейскай палітыкі, ці навінкі маскоўскіх літаратурных часопісаў. Гульня ў арыстакратыю, думаў я, ня можа не падабацца. А праз якія пяць гадоў мой клюб павінен быў стаць чымсь сярэднім паміж масонскаю ложаю й буйным шоўпрадпрыемствам, з тракцірам, багатай гастрольнай афішай маскоўскіх актораў ды няпростай магчымасьцю стаць адным зь ягоных чальцоў. А па-над клюбам годна лунаў бы расейскі трыкалёр...

Але мяне ніхто не разумеў. Дэпутаты дэмакратычнага горсавету бачылі ўва мне імпэрскага шпіёна, які й беларускай моваю авалодаў па загаду ФСБ. «Ты б лепш пра якую «беларускую хатку» падумаў. А то зусім ужо няма дзе гомельскім беларусам зьбірацца», — ушчувалі мяне сьвядомыя беларусы. «Что за бредовая идея. Ты же не в Торонто и даже не в Баден-Бадене», — казалі несьвядомыя расейцы. Сябры ўвогуле глядзелі як на безнадзейна хворага, але дарагога таварыша. Спакойна й з разуменьнем. Маўляў, усё нармальна, Дзіма. Будзе ў цябе расейскі клюб, і ангельскі будзе, усё будзе. Толькі пачакай трохі. Чакаць сапраўды давялося нядоўга. Неўзабаве грымнуў рэфэрэндум, што ўзаконіў мову расейскае нацменшасьці. Над краінаю ўзышлі іншыя сьцягі. А я на ўсю поўніцу адчуў, што тут ня Бадэн-Бадэн.

Нашыя расейцы, самі таго ня хочучы, апынуліся ў пастцы. Іх мову зрабілі дзяржаўнай, ім больш ня трэба напружвацца ў пошуках небеларускамоўнай школы для сваіх дзяцей, яны ўжо не палохаюцца «злавешчага ценю Пазьняка». Але на гэтым выгоды й сканчаюцца. У адрозьненьне ад сваіх адзінакрэўнікаў у балтыйскіх краінах, тут яны амаль нічым, як бы ні хацелася, не вылучаюцца з астатняга «простага люду». І чалавек, што зрабіў іх мову дзяржаўнай, — ІХНЫ прэзыдэнт. Як бы прыкра гэта імі не ўсьведамлялася. Гэта ганарлівыя палякі, ваяўнічыя літоўцы, разьвясёлыя ўкраінцы ды мудрыя татары могуць мець свае клюбы й газэты ды з прыемнасьцю адчуваць клопат сваіх дзяржаваў. Расейскага пытаньня ў нас быццам няма. Пры тым, што быццам ёсьць расейцы. Сама прыналежнасьць да гэтай нацыянальнасьці за савецкімі часамі здымала шмат якія праблемы, прынамсі на кар'ерным шляху. Я нават памятаю, якою гордасьцю перапаўняў нас зь сябрам такі нязначны факт — у нашай клясе толькі мы былі расейцамі. Гэта давала нам адзіную прывілею — не наведваць урокі беларускай мовы. Але таксама красамоўны факт — мы адзіныя ў клясе, хто праз гады будзе гэтай моваю карыстацца.

Па статыстыцы расейцы ў краіне складаюць 13 працэнтаў насельніцтва. Думаю, сярод беларускіх нацыяналістаў, ці проста людзей неабыякавых да беларушчыны працэнт маіх суплеменьнікаў ня меншы. І справа тут не ў пяшчотных пачуцьцях да пакрыўджанага малодшага брата. Расеец, асабліва прыежджы, цалкам пазбаўлены закамплексаванага погляду беларусаў на сваю сялянскую мову. Для расейскага вуха яна такая ж сялянская, як і польская.

Некалі маё захапленьне беларушчынай станавілася нагодаю для вясёлых кпінаў маіх расейскіх знаёмых. Сёньня я не бяз радасьці адзначаю той факт, што ўсё радзей сустракаю няўцямныя позіркі. Тое, што раней успрымалася імі як мая «асабістая бздура», сёньня для адных выглядае як тонкі разьлік у пабудове ўласнае будучыні, для іншых — як пазыцыя, вартая пераймаўньня. А адна знаёмая кінематаграфістка сказала мне паўжартам: «Ты же предатель своего народа». На што я вельмі натуральна зьдзівіўся: «А што, нашыя народы знаходзяцца ў стане вайны?» Сябе яна, дарэчы, ад самага пачатку новай беларускай дзяржаўнасьці лічыць расейскай эмігранткай. Мне падабаецца такая пазыцыя. Мая знаёмая мае на гэта поўнае права, здымаючы кіно ў Эўропе й прадаючы яго ў Маскве. Але яна — шчасьлівае выключэньне. Для астатніх Масква ва ўсіх сэнсах становіцца ўсё далей і далей. А жыць хочацца тут і зараз. Ці не таму мне даўно ўжо ня трэба тлумачыць беларускаму расейцу свой моўны выбар сакавітасьцю ды мілагучнасьцю беларускае гаворкі? Беларуская мова прыгажэй за гэты час ня стала. Яна стала больш, калі так можна сказаць, канвэртабэльнай. І гэта не ў апошнюю чаргу залежыць ад тых палутара мільёна чалавек, што засталіся без свайго клюбу.

**Зьміцер Бартосік**




**Вострая Брама**

*беларускі культурны кантэкст XX ст.*

Супольны праект «Нашай Нівы» і беларускай рэдакцыі Радыё Свабода: рэпартажы, рэфлексіі, гутаркі — кожную нядзелю на зьмененых хвалях Свабоды. Кожную сераду — паўтор перадачы.

RADIO FREE EUROPE RADIO LIBERTY

Кожную нядзелю на хвалях Радыё Свабода:
Новыя Хвалі, Пастаянны Час,
Нязьменная Свабода
(ад 26 кастрычніка 1997)

| Час | K/Hz | Хвалі |
|---|---|---|
| 18.00 - 19.30 | 6000, 6170 | 49 |
| | 7155, 7295 | 41 |
| | 3695 | 75 |
| 22.00 - 23.30 | 6010, 6025, | |
| | 6095, 6170, | 49 |
| | 7155 | 41 |
| | 9750 | 31 |
| 06.00 - 07.00 | 5995 | 49 |
| | 7295, 7275 | 41 |
| | 9750 | 31 |
| | 3980 | 75 |

Паштовы адрас: 220005, Менск-5, п/с 111 У 22.00 беларускую праграму можна слухаць у Інтэрнэце: http:/www.rferl.org/bd/be/index.html

*Заставайцеся са Свабодай!*


*Аказваецца асыміляцыйнаму ўплыву рускамоўных беларусаў супрацьстаяць вельмі няпроста, калі не немагчыма. У такім выпадку прагны да культуры расеец, каб не задыхнуцца, выбірае шлях інтэграцыі ў беларускі культурны кантэкст.*

# НОВЫЯ РУСКІЯ ЎКРАІНЦЫ

Аўтар артыкула ў «Русской мысли» піша:

«Ці ня йдзем мы да заходнеэўрапейскае мадэлі, дзе швайцарац называе сябе швайцарцам, а ня немцам або французам, нягледзячы на тое, што ягоная родная мова нямецкая або французская? Гэтая думка напрошваецца сама сабою, калі сустракаесься з дагэтуль нябачаным фэномэнам: маладыя рускамоўныя кіяўляне, вяртаючыся са стадыёну, дзе кіеўскае «Дынама» перамагло знакаміты эўрапейскі клюб, расьпяваюць украінскія песьні і на пытаньне, хто яны, крычаць табе ў твар, што яны ўкраінцы. Пры гэтым міжсобку яны гавораць па-расейску, ня ведаюць гетманаў Запароскай Сечы і... ненавідзяць (ці проста ня любяць) львоўскіх нацыяналістаў. Як усё гэта зразумець?»

Мне згадваецца тыповая сцэнка зь менскіх вуліц падчас апазыцыйнае дэманстрацыі. Хлопец, які ў групе раўналеткаў апантана скандзіруе «Не-за-леж-насьць!», раптам убачыў на другім канцы вуліцы сябра. «Серёга давай скорее сюда, к нам!» і далей: «Не-за-леж-насьць!». Я думаю, ці маглі б яны нейкім чынам скандзіраваць слова «Независимость», і разумею, што «незалежнасьць» — гэта ня толькі слова. Магчыма, гэта й ня слова ўвогуле. Імпэрская Расея ня можа мець Дня незалежнасьці. Гэтаксама, напрыклад, як і імпэрская Англія. У сьвядомасьці расейскіх расейцаў проста няма такога паняцьця. Магчыма, таму карэнны расеец, гэтаксама як і карэнны ангелец, ніколі да канца не зразумеюць нас. А мы не зразумеем іхнага пачуцьця велічы дзяржавы — Расеі або Вялікай Брытаніі.

Але вось ангелец трапляе настала ў Беларусь, жэніцца зь беларускай і літаральна адкрывае для сябе нязьведанае раней пачуцьцё змагара за незалежнасьць. Тое самае ў шырокім маштабе адбываецца з расейцамі. Нездарма сярод нашых сяброў, беларускіх нацыяналістаў, так шмат этнічных расейцаў і асабліва шмат беларуска-расейскіх паўкровак, якія ўвасабляюць у сабе антаганістычныя пачаткі — імпэрскае гардыні і нацыянальнае крыўды малога народа.

Але працягнем чытаць артыкул пра новых украінскіх расейцаў:

«Яны асьвістваюць зорак маскоўскай эстрады, якія прылятаюць у Кіеў на ўласных самалётах, абагаўляюць украінскую эстраду, якую ставяць бязьмерна вышэй за маскоўскую, ледзьве ня моляцца на Сяргея Бубку, размахваюць жоўта-блакітнымі сьцягамі, і нярэдка пры сустрэчы з заезджымі масквічамі наўмысна, «з патрыятызму», размаўляюць зь імі па-ўкраінску.

Вядома, ва Ўкраіне, дзе рускамоўных больш, чым ва ўсіх іншых «нярускіх» дзяржутварэньнях, што нарадзіліся на тэрыторыі былога СССР, захоўваецца і старое супрацьстаяньне «самасьційнікаў» і «саюзьнікаў». Але нельга не заўважыць, што рускамоўнасьць губляе сваю былую сувязь з «імпэрскімі» поглядамі, і лякалізуецца тэрытарыяльна (пераважна ў Крыме, у некаторых паўднёвых рэгіёнах), а таксама паводле ўзроставае прыкметы (у Кіеве на камуністычныя мітынгі пад лёзунгам «аб'яднаньня з Расеяй», прыходзяць амаль выключна пэнсіянэры).

Гэта пакуль цяжка зразумець людзям са сьвядомасьцю «савецкага чалавека». Факты ўкраінскага патрыятызму рускамоўных можна разглядаць як «выключэньні», а можна (што на нашу думку, больш адпавядае сапраўднасьці) як першыя знакі фармаваньня новай украінскай нацыі. І тут, вядома, непазьбежны яшчэ адзін канфлікт: паміж украінскімі расейцамі (русскими украинцами) і ўласна ўкраінцамі. Рэч у тым, што ня толькі «імпэрская Расея» церпіць паразу перад абліччам такіх рэвалюцыйных фактаў. У пройгрышы застаецца і «нацыяналістычная Ўкраіна». На першы погляд гэта здаецца парадаксальным: замест таго, каб радавацца ўкраінскаму патрыятызму рускамоўных, украінамоўныя «этнапатрыёты» гэтага патрыятызму не прыймаюць. І зразумела чаму: уяўленьне пра Ўкраіну ў іх у кожнага сваё.

Адбыўся наступны парадокс. Ідэя асобнае ўкраінскае дзяржавы вынашана ўкраінскімі нацыяналістамі. За яе яны вякамі плацілі дарагой цаной. Украінскія нацыяналісты далі сучаснай Украіне яе сьцяг, гімн, яе асаблівую гісторыю.

Няма сумневу, што з часам украінская мова, як пра гэта марылі нацыяналісты, запануе ва ўсіх сфэрах грамадзкага жыцьця, выціснуўшы адтуль расейскую. Няхай яшчэ і штучна, але яна ўжо пануе ў дзяржаўных органах, арміі, у школах, заваёўвае пазыцыі ў сродках масавай інфармацыі. Настаўнікі яшчэ на пераменках гавораць міжсобку па-расейску, але ўрокі, як ад іх патрабуецца, вядуць па-ўкраінску (натуральна, гутарка ня йдзе пра расейскія школы, колькасьць якіх зьмяншаецца, бо, дбаючы аб будучыні, бацькі жадаюць, каб іхныя дзеці ведалі дзяржаўную мову). У Кіеве сёньня ўжо, калі ты загаворыш па-ўкраінску, ніхто не падумае, што прыехаў зь вёскі (як было яшчэ 10 гадоў таму).

Большасьць рускамоўных газэт Кіева настроеныя апазыцыйна ў дачыненьні да Масквы. Прынамсі посьпехі Расеі іх мала хвалююць. Затое яны адчувальныя да перамогаў украінскіх спартоўцаў, і для іх Бубка са сваім шастом важнейшы за гетмана Сагайдачнага зь ягонай булавой».

Тое, пра што піша аўтар «Русской мысли», жыва прыгадвае мне журналістаў зь менскіх рускамоўных апазыцыйных газэт. Яны таксама не ў захапленьні ад Пазьняка, як і ад новага закону аб мовах, які сёньня разглядае лукашэнкаўскі парлямэнт. У апошнім нумары «Белорусской деловой газеты» закіды ўладаў аб прыцясьненьні рускамоўных у Беларусі называюць «издевательством» і настойваюць на тым, што новы закон, які быццам бы прыраўноўвае дзьве мовы, ня ўлічвае моўных рэаліяў.

Дэмакратычна настроеныя расейцы ў Беларусі ня ставяць на Маскву. Для іх больш цікавая Эўропа. Гэтаксама як і ўкраінскія расейцы, яны ня хочуць быць другаснымі, правінцыяламі.

«Маскоўскія «патрыёты Расеі» дарэмна глядзяць у бок рускамоўных Украіны. Дарэмна пад уплывам «патрыётаў» мусіруецца час ад часу ідэя «абароны карэннага расейскага насельніцтва бліжняга зарубежжа». «Мы ня маем патрэбы ў абароне маскалёў», — такую заяву надрукавала нядаўна адна з галоўных кіеўскіх газэт. Жырыноўскі яшчэ можа прыехаць у Крым, але ў Кіеве яму рабіць няма чаго (тое самае й Лужкоў: прыехаў агітаваць «за Расею» ў Севастопаль, але не рашыўся прасунуцца хоць крыху на поўнач — у рускамоўны Данецк).

Нарэшце, зьвернемся да неабвержнага факту: абсалютная большасьць рускамоўных прагаласавала за незалежнасьць Украіны. Чаму? Вось адказы на бытавым узроўні: «Калі мы будзем у складзе Расеі, мы будзем правінцыя. А так — мы паўнавартасная эўрапейская краіна».

*Якая пэрспэктыва ў культуры, абапертай на расейскую моўную і этнічную базу? У Беларусі праявы такой культуры спрадвеку былі і, бадай, будуць асуджаныя на правінцыйнасьць. Гэта значыць, што кожны таленавіты творца ўсё адно імкнецца ў «цэнтар» — у Маскву або Піцер. Бо ня можа быць цэнтрам расейскай культуры Менск або Полацак. Менск у сёньняшняй сытуацыі ў расейскім культурным кантэксьце — гэта Тамбоў або Волагда. Слушна кажуць, што цывілізаваныя краіны адрозьніваюцца ад нецывілізаваных адсутнасьцю правінцыі. Дык вось Таганрог і Волагда на шляху цывілізацыі маюць шанец ператварыцца з правінцыі ў самадастатковыя цэнтры расейскай культуры. Менску ж такая пэрспэктыва ня сьвеціць. Ён або вечна будзе заставацца правінцыяй на ўскрайку імпэрыі, або стане паўнавартасным цэнтрам культуры, у якой, акрамя яго, іншых сталіцаў няма.*

**Сяргей Паўлоўскі**

Пры вывучэньні старажытнасьці, асабліва дапісьмовых пэрыядаў, непазьбежна ўзьнікае жаданьне праверыць тыя ці іншыя меркаваньні й гіпотэзы. Безумоўна, мінулае нельга перанесьці ў сучаснасьць, але сытуацыю, якая мадэлюе старажытнасьць, можна ствараць штучна, г.зн. правесьці археалягічны экспэрымэнт. Экспэрымэнтатарства ў археалёгіі мае даўнюю гісторыю, але толькі ў апошнія дзесяцігодзьдзі яно ператварылася ў сапраўдны навуковы накірунак. На сваім адмысловым шляху дасьледаваньня старажытнасьці археолягі-экспэрымэнтатары зрабілі надзвычай цікавыя адкрыцьці.

Бадай самыя выніковыя экспэрымэнты апошніх дзесяцігодзьдзяў належаць вучонаму з Санкт-Пецярбургу Сяргею Сямёнаву. Вывучаючы прылады працы каменнага веку, ён ня мог не прыгадаць сваю кірку, зь якой пачынаў працаваць на чыгунцы. На кірцы ад працы з пэўнымі пародамі і матэрыялямі заставаліся адпаведныя сьляды. «І я падумаў, — успамінаў пазьней Сямёнаў, — ці ня глянуць гэткім чынам і на старажытныя каменныя прылады, на сьляды, што засталіся на іх? Аказалася, што на большасьці каменных, касьцяных і мэталічных прыладаў ёсьць драпіны рознай шырыні й глыбіні, зломы, месцы, адпаліраваныя да бляску. Некаторыя сьляды ўдавалася адрозьніць няўзброеным вокам, іншыя — толькі пад мікраскопам».

Сямёнаву карцела адказаць на пытаньне: якому віду працы адпавядалі тыя ці іншыя сьляды. Выкарыстоўваючы старажытную тэхналёгію, дасьледчык пачаў рыхтаваць каменныя і касьцяныя вырабы, даводзячы іх да пэўнага падабенства з прататыпамі. На працягу некалькіх дзесяцігодзьдзяў ён праводзіў тысячы экспэрымэнтаў з дакладнай фіксацыяй сьлядоў, якія застаюцца на інструмэнце ад розных відаў працы. Унікальная клясыфікацыя такіх сьлядоў дазволіла археолягам вызначаць функцыянальнае прызначэньне знойдзеных на паселішчах каменнага веку вырабаў з косьці, крэменя.

Археолягі-экспэрымэнтатары — дасьледчыкі каменнага веку, найбольшую ўвагу надавалі каменным сякерам. Вытворчыя іх якасьці правяраліся многімі спэцыялістамі. Дацкія экспэрымэнтатары давялі, што крамянёвымі сякерамі можна высекчы цэлы дубовы лес. Выкарыстаўшы чатыры каменныя сьвідраваныя сякеры, якія адносіліся да 4 тыс. да н.э., чэскія археолягі сьсеклі больш за 100 дрэваў. «Пад час экспэрымэнту, — успамінаў Яраслаў Маліна, — па меры таго, як мы набіраліся досьведу, мы ўжо былі ў стане сьсекчы вялікую хвою з дыямэтрам ствала 130 мм (маецца на ўвазе адзін дрывасек) усяго за 45 сэкундаў, а стомілімэтровы дуб — за 40 сэкундаў. Час, які затрачваўся на такую апрацыю, зразумела, узрастаў з павелічэньнем дыямэтру ствала і цьвёрдасьці драўніны. Хвоя з дыямэтрам ствала 400 мм «супраціўлялася» нам 21 хвіліну. Ну а як рэагавала каменная сякера? А ніяк! Адной зь сякер мы сьсеклі 170 дрэваў, і на яе вастры была заўважная — акрамя рабочых сьлядоў — адна зьмена: большая завостранасьць рэжучага канта!»

Экспэрымэнты з каменнымі вырабамі, узнаўленьне тэхналёгіяў апрацоўкі каменя й вызначэньне магчымасьцяў дагістарычных інструмэнтаў становяцца мэтаю дасьледаваньня многіх спэцыялістаў у розных краінах сьвету. У некаторых унівэрсытэтах зьявіліся нават спэцыяльныя практычныя сэмінары па вывучэньні спосабаў апрацоўкі крэменя.

Адна зь дзіўных старонак каменнага веку — старажытная мэдыцына. Археолягаў ужо не зьдзіўляюць адкрыцьці пахаваньняў таго часу са сьлядамі трэпанацыі чэрапа. У многіх выпадках такая апэрацыя, якая і сёньня лічыцца адной з самых складаных для хірургаў, сканчалася для пацыентаў пасьпяхова, бо рана зажывала, чалавек працягваў жыць.

Незвычайная апэрацыя інструмэнтамі каменнага веку была праведзеная ў ЗША. Андрыен Ханус — археоляг з Агастэнкаледжа (Сіу-Фоліс), трапіў у шпіталь з дыягназам «прабадзеньне тоўстай кішкі». Ханус угаварыў дактароў правесьці апэрацыю з дапамогаю абсыдыянавых інструмэнтаў эпохі каменя. Дапамагчы сваіму сябру згадзіўся Эрэт Калахан — адзін з найвядомейшых амэрыканскіх экспэрымэнтатараў, які працаваў у музэі гораду Лінчбэрга. Проста ў шпіталі Калахан зрабіў доўгія і тонкія абсыдыянавыя нажы, якімі 6 траўня 1983 году была пасьпяхова праведзеная апэрацыя. «Абсыдыянавыя інструмэнты, — дзяліўся сваімі ўражаньнямі хірург, — у шмат разоў вастрэйшыя за нашыя хірургічныя скальпэлі з адмысловае сталі. Маркую, што абсыдыянавыя лёзы калі-небудзь стануць неад'емнай часткаю інструмэнтарыя пры правядзеньні некаторых тонкіх апэрацыяў. Магчыма, іх будуць выкарыстоўваць пры апэрацыях на вочы ці пластычных апэрацыях, інакш кажучы, там, дзе патрэбная вострая рэжучая частка. Бо вастрыё каменнага скальпэля мае таўшчыню усяго ў дзесяць малекулярных пластоў, яно вастрэйшае за стальное ў некалькі разоў».

Хірург у сваіх прагнозах не памыліўся. Не прайшло і году, як у Вашынгтоне была створаная фірма, якая занялася вытворчасьцю скальпэляў з абсыдыяну.


1.

У якасьці прыкладу надзейнасьці і трываласьці старажытных прыстасаваньняў варта прывесьціназіраньні брытанскага экспэрымэнтатара Тымаці Севярына, які ў 1977 годзе паўтарыў плаваньне легендарнага абата Брэндана. Абат з 17 манахамі ў VI стагодзьдзі на скуранай лодцы з Ірляндыі праз Ісьляндыю трапіў на востраў Ньюфаўндленд. На дакладнай копіі лодкі старажытных ірляндцаў у чэрвені 1977 году, затраціўшы больш за тры месяцы на перааодоленьне 4700 км у ільдах, завірухах і туманах, Тымаці Севярын пасьпяхова закончыў экспэрымэнтальнае падарожжа. Пра іншыя вартыя ўвагі вынікі плаваньня Яраслаў Маліна пісаў наступным чынам: «Чым далей плыла экспэдыцыя Севярына, тым больш відавочным станавілася тое, што сучасныя інструмэнты і матэрыялы наўрад ці могуць спаборнічаць з копіямі сярэднявечных. Мяшкі і ўпакоўкі з пластычных матэрыялаў лопаліся і прапускалі ваду, мэталічныя інструмэнты і дэталі, нягледзячы на кансэрвацыю, іржавелі і ламаліся. Іх замянялі дрэвам, скураю і льняным палатном. Абалонка ж корпусу лодкі таўшчынёю 6 мм ад сутыкненьня з марской вадой паступова мацнела, сьцягвалася і не прапускала ні кроплі вады».

Намагаючыся ўдасканаліць арганізацыю і эфэктыўнасьць дасьледчай працы, археолягі-экспэрымэнтатары некаторых краінаў стварылі свае навукова-дасьледчыя цэнтры. У большасьці выпадкаў дзеля гэтай мэты былі ўзноўленыя старажытныя паселішчы, жыцьцё й побыт на якіх максымальна набліжаныя да прататыпаў.

### БАТСЭР-ХІЛ

Вядомы ангельскі археоляг Пітэр Рэйнальдс у 1972 годзе на высокім пагорку Батсэр, што каля Портсмута (Англія), заснаваў экспэрымэнтальнае земляробчае паселішча жалезнага веку. Паводле задумы Рэйнальдса вёска мела быць абсалютна ідэнтычнай пасёлкам старажытных кельтаў.

У ваколіцах Батсэра і сапраўды каля 2300 гадоў таму жылі кельты. У эпоху жалеза яны расьсяліліся на вялікай частцы Эўропы. Сьветлавалосыя вусачы, высакарослыя і храбрыя воіны, якія зачэсвалі свае хвалістыя валасы назад, былі адначасова бязьмежна гасьціннымі і шчодрымі людзьмі. Рымляне іх называлі галамі. У I ст. да н. э. гальскія плямёны пасьля працяглай вайны былі заваяваны рымскім імпэратарам Юліем Цэзарам, а пазьней канчаткова асыміляваны іншымі народамі. Вольналюбівыя ірляндцы лічаць кельтаў сваімі продкамі.

АРХЕАЛЯГІЧНЫЯ

# ЖЫВАЯ

Навукова-дасьледчы археалягічны цэнтар пад адкрытым небам у Батсэр-Хіле заняў тэрыторыю ўзвышша, а таксама суседні лес і палеткі на плошчы 12 га. Батсэр-Хіл — мясцовасьць маладаступная для цікаўных людзей. Жыхары вёскі — вучоныя-экспэрымэнтатары на чале з Пэтэрсам Рэйнальдсам імкнуцца максымальна наблізіць сваё жыцьцё да побыту людзей канца 1 тыс. да н.э.

У 1973 г. экспэрымэнтатары збудавалі тут дзьве круглыя хаты —дакладныя копіі кельцкіх жытлаў, рэшткі якіх не адзін раз знаходзілі археолягі на тэрыторыі Вялікабрытаніі. Адну хату дыямэтрам 4 м было вырашана зрабіць цалкам з дрэва. Паводле рэканструкцыяў Рэйнальдса, спачатку пракапалі кругавы равок, у які ўбілі двухмятровыя калы. Іх перавязалі зьверху вербалозьзем і скуранымі раменьчыкамі, каб потым умацаваць канструкцыю страхі з жэрдак. Сьцены перапляталі дубцамі і абмазалі глінаю. Сабранаю на экспэрымэнтальных палях саломаю накрылі страху. Паводле іншых старажытных аналёгіяў дом будавалі з каменнымі сьценамі. Дыямэтар хаты дасягаў 9 м. Толькі на страху экспэрымэнтары патрацілі каля 5 тон саломы. Спэцыялістам такое будаўніцтва дазоліла сьцьвердзіць, што кельты маглі змайстраваць сваё жытло ўсяго за 2-3 дні, а аднаму чалавеку на гэта спатрэбілася б каля 175 працоўных гадзінаў.

Пабудаваная вёска абгароджаная плотам, за якім прасьціраюцца землярoбчыя дзялянкі і паша. Экспэрымэнтатары праводзяць тут сэлекцыю прымітыўных відаў хатніх жывёл і расьлін, імкнучыся максымальна наблізіць іх да рэальных прататыпаў дагістарычных часоў. Напрыклад, эўрапейскага дзіка і тэйліворцкую сьвіньню, якая лічыцца самай старажытнай пародай у Англіі.

У Батсэр-Хіле сеюць, зьбіраюць і апрацоўваюць ураджай так, як гэта некалі рабілі кельты. Пэтэр Рэйнальдс пасьля шматгадовых экспэрымэнтаў адзначаў, што зерне, якое яны вырошчвалі і зьбіралі старажытнымі спосабамі, зьмяшчае значна болей, чым сучаснае зерне, пратэіну, кальцыю, фосфару, калію і іншых неабходных чалавечаму арганізму элемэнтаў.

Атрыманыя прадукты Рэйнальдс і ягоныя сябры выкарыстоўвалі для прыгатаваньня ежы, якой маглі харчавацца старажытныя людзі. Праведзеныя дасьледаваньні дазваляюць істотна дапоўніць археалягічныя і этнаграфічныя зьвесткі. Напрыклад, спэцыялісты прыйшлі да высновы, што старажытныя земляробы мелі вельмі багаты і карысны для чалавека рацыён прадуктаў харчаваньня. А ежа, прыгатаваная старажытнымі спосабамі і з адпаведных прадуктаў, вельмі часта захоўвае пратэіну ў 2 разы болей, чым цяпер.

Аднаго разу Пэтэр Рэйнальдс нават паспрабаваў, карыстаючыся архаічнымі рэцэптамі, зварыць піва. Даўно вядома, што ўжо старажытныя шумеры ў III тыс. да н. э. варылі 8 відаў ячнага, 8 відаў пшанічнага, 3 віды зьмяшанага піва.

У Батсэр-Хіле археолягі ткуць тканіны на старажытных вэртыкальных варштатах. Воўну атрымліваюць бяз стрыжкі, шляхам вычэсваньня поўсьці ад тых жа soay. Гарчкі лепяць без ганчарнага круга. Экспэрымэнтатарам нават удалося ўзнавіць працэс лепкі вялікіх, вышынёю амаль у 1 м, пасудзін для захаваньня прыпасаў. Археолягі Батсэр-Хіла цалкам


2

паводле касьцявых матэрыялаў, атрыманых пры раскопках, археолягі ведалі, як выглядала авечка ў кельцкія часы. Па будове шкілету яна нагадвала зьдзічэлую авечку soay, якая і дагэтуль жыве каля Шатляндыі на далёкіх астравах Сьвятой Кільды. У soay мала мяса. У старажытнасьці іх маглі гадаваць пераважна для атрыманьня воўны і малака. Авечак soay разводзяць цяпер і ў Батсэр-Хіле, праўда, для іх прыручэньня дасьледчыкам прыйшлося папрацаваць не адзін год.

Жыхары Батсэр-Хіла запрагаюць у павозку і аруць глебу эскмурскімі поні, якія ў найбольшай ступені нагадваюць коней жалезнага веку. Экспэрымэнтатары нават паспрабавалі атрымаць сьвіньню, якая магла б атаесамляцца з адпаведным старажытным відам. Для гэтага злучылі

паўтарылі ўвесь цыкль працы ганчара ў старажытнасьці: ад нарыхтоўкі гліны, яе захаваньня, да лепкі і ўпрыгожваньня посуду, абпалу яе ў спэцыяльных горнах...

### ЛЕЙРЭ

Гістарычна-археалягічны цэнтар у Лейрэ (Данія) быў створаны ў 1960-х гадах дацкім археолягам Хансам-Оле-Хансэнам. Задуме Хансэна папярэднічалі падрыхтоўка і здымкі незвычайнай перадачы дацкай тэлевізіі. Ён і яшчэ тры студэнты факультэта археалёгіі браліся на вачах тэлегледачоў збудаваць дом эпохі жалеза, дакладна паўтараючы археалягічна вядомыя ўзоры. Паводле сцэнара ў фінальнай перадачы дом спальвалі.

Праз 2 гады амаль 90 чалавек адгукнуліся на просьбу Хансэна паўдзельнічаць у не-

АДКРЫЦЬЦІ СЬВЕТУ

# АРХЕАЛЁГІЯ




звычайным экспэрымэнце — пабудаваць у Лейрэ, што ў даліне Гертхадален пад Капэнгагенам, дагістарычную вёску. Аснову паселішча ў хуткім часе склалі шэсьць будынкаў, дзе спэцыялісты заняліся экспэрымэнтальнай дасьледчай працай. Побач зьявіліся «дагістарычныя» палі, лугі, на якіх пасьвіліся статкі старажытных хатніх жывёл.

Жылыя і гаспадарчыя пабудовы Лейрэ — копіі будынкаў V ст. да н.э. — V ст. н.э., сьляды якіх знаходзілі дацкія археолягі пад час раскопак. Аснову сьценаў у дамах складалі вэртыкальна ўкапаныя слупы, якія перапляталіся вербавым гольлем. Паверхня сьцен пакрывалася сумесьсю глею, пяску, гною і вады. На будаўніцтва аднаго доўгага дому, які археолягі ўзнавілі ў Лейрэ, старажытныя людзі эпохі жалеза маглі траціць сама менеей год. Зімою нарыхтоўвалася драўніна, абчэсваліся бярвеньні і жэрдкі, на замерзлым возеры рэзаўся чарот для страхі. Летам узводзіўся дом. Спачатку ўкопваліся слупы. З дапамогай скручаных вяровак, скураных пасоў майстраваўся каркас хаты, які абмазвалі глеем і накрывалі чаротам...

Што застаецца ад хаты эпохі жалеза пасьля пажару? Дацкія археолягі наўмысна спалілі адзін з экспэрымэнтальных будынкаў жалезнага веку. Спэцыялісты вельмі часта пры раскопках знаходзяць рэшткі пажарышчаў. Цяпер яны мелі магчымасьць удасканаліць практыку «чытаньня» сьлядоў спаленьня. Напрыклад, экспэрымэнт дазволіў сьцьвердзіць, што пры пажары посуд можа зьмяняць колер у залежнасьці ад таго, якая страха ўпала на яго. Ад полымя саламянай страхі посуд чырванее, а ад дзірвана, травы — чарнее. Заўважаецца, што дубовыя слупы прагараюць ня так глыбока, як ясеневыя.

У Лейрэ ежу гатуюць старажытнымі спосабамі. Мяса, напрыклад, —на гарачых камянях. Перад прыгатаваньнем яго соляць і закручваюць у шырокія лісты.

Жыхары Лейрэ носяць адзеньне, якое робіцца паводле старажытных узораў. У Скандынавіі, як нідзе ў іншых месцах Эўропы, дзякуючы кансэрвуючым якасьцям дубовых калодаў, у якіх хавалі людзей, добра захаваліся рэшткі адзеньня эпохаў бронзы, жалеза, сярэднявечча. Археолягі рэканструявалі абутак, спадніцы, плашчы, шапкі, паясы і нават сеткі для ўкладкі жаночых валасоў.

Жанчыны ў Лейрэ ткуць тканіну на старажытных прыстасаваньнях, фарбуюць адзеньне расьліннымі фарбамі, носяць скураны абутак, які шнуруецца раменьчыкамі і ўцяпляецца знутры сенам, воўнаю. Спадніцу робяць, як і ў старажытнасьці, з адзінага кавалку тканіны. Жанчыны нацягваюць спадніцу праз галаву, зашпільваюць затым яе на плячах і сьцягваюць на поясе. Жыхаркі Лейрэ сьцьвярджаюць з уласнага досьведу, што такое адзеньне надзвычай зручнае, надзейнае і практычнае.

У вёсцы нават узноўлена месца для ахвярапрынашэньняў: на калах вецер матляе конскія скуры, пагрозьліва глядзяць пустымі вачніцамі конскія чарапы.

У Лейрэ археолягі супольна з Заалягічным інстытутам вывелі адваротным скрыжаваньнем тыя пароды хатніх жывёл,, якія людзі разводзілі ў тутэйшых мясьцінах каля 2 тыс. гадоў таму. Сьвіньні, як і ў старажытнасьці, большую частку свайго жыцьця кормяцца, жывучы ў лесе пад Лейрэ. Для сельскагаспадарчых экспэрымэнтаў, у прыватнасьці, для апрацоўкі глебы, спэцыялісты вывелі валоў, якія па сваіх фізычных якасьцях набліжаюцца да старажытных прататыпаў. Валоў шэсьць тыдняў прыручалі хадзіць у ярме. Пазьней яны цягалі дубовае рала — дакладную копію прыстасаваньня для ворыва ў 300-х гадах да н.э. Менавіта дацкім археолягам належыць прыярытэт у экспэрымэнтах са старажытнымі спосабамі апрацоўкі глебы. У тутэйшых балотах адшукана мноства прыстасаваньняў старажытных землярobаў.

Пазьней у Лейрэ, акрамя ўласна вёскі жалезнага веку, узьніклі адміністрацыйныя, вучэбныя будынкі. Лейрэ стала ня толькі цэнтрам навукова-дасьледчай працы, а і «службаю для школ», «службаю для грамадзкасьці». У 1970 г. археолягі запрасілі ў Лейрэ некалькі дацкіх сем'яў, якія захацелі пажыць у дагістарычнай вёсцы. Ім так спадабалася імітаваць старажытнае жыцьцё, што некаторыя згадзіліся застацца ў хатах жалезнага веку на зіму.

Ад таго часу ў Лейрэ прыяжджае вучыцца шмат дзяцей. Школьнікі пад кіраўніцтвам інструктараў працуюць у майстэрнях, вучацца старажытнаму ткацтву, лепяць і абпальваюць посуд, куюць жалеза, працуюць на палях, даглядаюць хатніх жывёл. Адныя жывуць у Лейрэ працяглы час, іншыя прыяжджаюць на экскурсіі. Адначасова спэцыялісты ладзяць курсы для студэнтаў, настаўнікаў, адкрываюць выставы.

### ДЗЮПЭЛЬ, АВЭРТАН-ДАЎН...

Нямецкія экспэрымэнтатары ўзнавілі жыцьцё сярэднявечнай вёскі XII-XIII стагодзьдзяў у Дзюпэлі (Нямеччына). Вёска-музэй была заснаваная тут энтузіястамі пад кіраўніцтвам Андрыяна фон Мюлера. Яго праект пачаў актыўна рэалізоўвацца пасьля, здавалася б, алягічнага звароту: «Заплаціце, і вы атрымаеце права працаваць у нас задарма». Экспэрымэнтатарам зь Дзюпэля спрыялі супрацоўнікі Лейрэ, якія дапамаглі пабудаваць першы сярэднявечны дом. Насельнікі Дзюпэля з задавальненьнем апранаюцца ў адзеньне вясковых жыхароў XII-XIII стагодзьдзяў. У вёсцы, адраджаючы сярэднявечнае жыцьцё, ткуць тканіну, робяць драўлянае пабытовае начыньне, гадуюць авечак і вырошчваюць хлеб...



У графстве Уілтшыр у Авэртан-Даўне (Вялікабрытанія) ангельскія археолягі праводзяць незвычайны экспэрымэнт з разбурэньнем культурных напластаваньняў. Дзеля гэтага была збудаваная копія старажытнага вала і рова. У вал і каля яго археолягі наўмысна зьмясьцілі скураныя і драўляныя рэчы, крэмень, посуд, косткі і г.д., каб пазьней, раскопваючы, даведацца, як яны якасна зьмяняюцца пад узьдзеяньнем ветру, вады, зьмяшчэньня пластоў. Вал раскопваецца і будзе раскопвацца далей праз пэўныя інтэрвалы часу: 2, 4, 8, 16, 32, 62, 128 гадоў.

Нэалітычную вёску ў Алерсьлеве (Данія) археолягі збудавалі яшчэ ў 1958 годзе. Тут экспэрымэнтатары зрабілі шмат назіраньняў пад час працяглага пражываньня ў рэканструяваных будынках.




Каля дацкага гораду Орхуса на плошчы каля 100 га археолягі ўзнаўляюць цэлыя комплексы пабудоваў старажытнай і сярэднявечнай Даніі, у тым ліку пасёлак вікінгаў.

Побач з рэканструяванымі будынкамі, валам, брамаю і сьценамі гарадзішча I тыс. да н.э., пасярод возера ў польскім Біскупіне можна пабачыць вынікі экспэрымэнтатарскай дасьледчай працы мясцовых археолягаў. Экспэрымэнтатарства ў Біскупіне мае даўнія традыцыі.

Яшчэ ў 1930-х, калі вяліся раскопкі гарадзішча, тут пачалі праводзіць экспэрымэнты з апрацоўкай драўніны, костак, адліўкай бронзавых вырабаў. У Біскупіне, імітуючы старажытныя заняткі, секлі дрэвы, пяклі і варылі ежу. Як вядома, Біскупінскае гарадзішча загінула пад час аднаго з варожых нашэсьцяў у часы жалезнага веку. У 1939 годзе напад на паселішча з'імітавала група ўдзельнікаў экспэрымэнту, выкарыстоўваючы адпаведныя копіі зброі і прыстасаваньняў.

У Біскупіне становіцца надзвычай ажыўлена і людна ў час спэцыяльных фэстываляў. Тады адбываюцца шматлікія экспэрымэнтальныя акцыі з удзелам ахвотных. У 1996 г. на адной з пляцовак я бачыў тоўстае дрэва, якое спэцыяльна прывезьлі ў Біскупін для экспэрымэнту. У адзін з чарговых фэстываляў плянавалася выдзеўбаць зь яго човен.

***

У Беларусі пакуль няма экспэрымэнтальнай археалёгіі. Адзіны экспэрымэнт, які праводзіўся да таго ж археолягамі з Санкт-Пецярбургу, адбыўся пры раскопках знакамітых краснасельскіх шахтаў пад Ваўкавыскам. Сутнасьць яго заключалася ў вызначэньні спосабаў і затрачанага часу на выкопваньне шахты людзьмі эпохаў каменя і бронзы. Цэлая галіна сучаснай археалягічнай навукі застаецца ў нас нязьведанай, а таму кожны, хто адважыцца ёй займацца, будзе варты пашаны айчыннага пачынальніка.

Пранікненьне ў старажытнасьць празь яе «ажыўленьне» мае ня толькі вялікае навукова-дасьледчае значэньне. Колькасьць экспэрымэнтальных паселішчаў, якія імітуюць старажытнасьць, хутка расьце. Для многіх людзей жыцьцё ў вёсцы жалезнага веку становіцца ня толькі адкрыцьцём дагісторыі, але відавочным актам пазнаньня сучаснай цывілізацыі. Паступова прыходзіць перакананьне ў тым, што сучасны эўрапеец няўмольна аддаляецца ад свайго першаснага асяродзьдзя: прыроды і рэальных чалавечых адносін у грамадзтве. Магчыма, праз асяродкі старажытнасьці многія людзі зробяць першы крок да разуменьня чалавечай існасьці: мы павінны жыць у гармоніі з прыродай і іншымі людзьмі свайго грамадзтва.

**Мікола Крывальцэвіч**

*Ілюстрацыі:*
*1. Эрэт Калахан з абсыдыянавым скальпэлем.*
*2. Лейрэ. У хаце жалезнага веку.*
*3. Лейрэ. Экспэрымэнтатары ў адзеньні эпохі бронзы.*
*4. Флева (Галяндыя). Экспэрымэнты з апрацоўкай скуры крамянёвымі й касьцянымі інструмэнтамі.*
*5. Флева. Экспэрымэнтальнае ганчарства.*

# грамафон.

### Алесь Адамковіч

***

Палае сусьвет,
Нараджаецца вечнасьць.
Мы прыходзім сюды,
Каб паміраць.
Між пустатой і сьмерцю
Жыцьцё пралягае.
Як сумна.
Як усё няведама яшчэ.
Колькі згасьне зорак
І колькі народзіцца зноў?
Між чым пралягае іх жыцьцё?
Дзе бацька сусьвету?
Ці мёртвы ён,
Як і сама касьмічная бездань.
Змаганьне за жыцьцё,
Ці за існаваньне?
Мы паміраем ці адыходзім?
Бацька-космас!
Дзе схаваны твой воблік?
Зьнікла зьзяньне вачэй.
Пэўна, і твой час прыйшоў.
Пагас сусьвет.
Зьнікла ісьціна.
Вечнасьць зьмяніла вечнасьць.

### Андрэй Аляксандраў

***

Неабдымнасьць пpасторы маўклівай
сьцяной
Паўстае між каханьнем і сьмерцю.
Дождж ліецца ў душу мне сталёвай
імглой,
Ірве вочы калючае вецьце.

Адагнаўшы ад сэрца халодны
паўзмрок,
Па жыцьцёвае, гразкае пожні
На шляху да цябе я раблю новы крок,
І я ведаю: ен — не апошні.

### Аляксандар Антончык

ЗІМОВАЯ ДАРОГА

Тугу каб разьвеяць
А зь ей і неспакой,
Я кінуў усё і еду
Да матулі радной.

Астаўлены горад
У смузе зьнікае,
Яго прыгажосьць
Краявідаў зьмяняе.

Блакітнае неба,
Бялютка зямля,
Сумёты іскрыстыя,
Лес з крышталя.

Пунсовае сонейка,
Зелень ялін,
Чырвоныя гронкі
На лапках рабін.

Варон чорныя зграі
На срэбных суках,
Жаўцеючы копны
Саломы ў цюках.

Празрыстыя хмаркі,
Сінюткі мароз,
І едучы зь сенам
Загружаны воз.

Ад колераў гаммы
Прыходзяць спакой,
Прыемныя думкі
І сьветлы настрой.

Павекі цяжэюць,
Я іх закрываю,
І ў мроях квітнеючы
Май успамінаю.

### Тацяна Барысава

ВЫГУКНУЦЬ

Выгукнуць з болем душу,
Занатаваць на паперы,
Пусьціць шматкамі па ветры,
Караблікамі па вадзе,
Попелам па вагні,
Зернем убіць у зямельку!
Толькі тады
Атрымаеш плен,
Што разарве
Зачараванае колца
Тваей незьдзяйсьняльнасьці.

### Аляксей Бацюкоў

СЛАВЯНСКІ БОГ

Чуй грукат ног, Дняпро, Анега!
Чуй, племя славы, грукат ног!
Ідуць асілкі біцца зь небам.
Ідуць празь лес, дрыгву і лог.
Лікуе кожны крок наўзрыд.
Імкнуцца плечы зрушыць столь.
І коней цяжкі раскапыт
Нацягне на нябёсы голь.
Бугрыцца моц жалезных сьпін.
Рыпяць далоні, сьцяўшы лук.
Паміж Людзьмі і Небам — клін.
Шаленьне воч. Шаленьне рук.
Ідуць. Глынае іх смуга,
І там — маланка б'е у шчыт.
Стрэл доўгіх чорная пурга.
І я між іх, і меч мой сыт.

Наўсьцяж, наўзьлёт удары, кроў,
хрып рухаў, бруд, агонь і гон,
лязо ў лязо, рот родзіць роў,
пот паліць локці, стома, звон,
аблокі ўкол, і р-р-раптам... лёт.

Унізе беліч. Там — зямля.
На полі сьнег. На рэках лёд.
Глядзіце, людзі, гэта — я!
Вунь там, збоч лесу — горад мой.
Лячу туды.
Зямля ля ног.
«Як вы тут, людзі?» Зьнізу —
«Ой!
Браткі, зірніце, гэта ж — бог!..»

### Andruś Biełavoki

*T.Z.*

ČAS HUKAŪ

Ty vučyš novyja akordy
Na nienastrojenaj hitary,
A palcy słuchacca nia chočuć
I struny niekul paźnikali.

Ja zrenki vusnami padrapaŭ
I staŭ hladzeć praź jich u huki.
Ja ŭśmichnuś lazu pahardy
I padaruju niebu ruchi.

Ja znoŭ vuču latać hadzińnik
Uvierch. Da zor, što śvieciać z łužyn.
Na stol nakapali chviliny,
Jich stalaktyt ciabie prydušyć.

Tvajich suśvietnych słovaŭ huki
Irvuć barabany pieraponak.
Ja zapłatu ŭ kasički ruki,
Kab bolš nia jrvać miljard ramonak.

Ćiabie melodyja abdymie,
I recha razłamaje ścieny,
I chvalaj struny słoŭ zastynuć,
Kab być prapietymi sa sceny.

### Аляксей Бруй

***

Па вуліцы Падгорнай
Гулялі мы ўдваіх,
І рок-н-рол мажорны
Нас прывадзіў у рух.

Стаміўшыся ад танцу
Сядалі мы за стол,
Каб, адпачыўшы крыху,
Зноў станчыць рок-н-рол.

І покуль рэйв ігралі,
Я соўгаў «Заапарк»,
І ў полуцёмнай залі
Была ты Жанай д'Арк.

Пад гукі барабанаў,
Са сьцягам у руках,
На чале процьмы бандаў
Ішла ты па касьцях.

Усё гэта убачыў
Я ў тваіх вачах.
І, сьмеючысь, зазначыў:
— Ня верце слову «жах».

### Уладзімер Васількоў

***

Я спаткаўся з табой на Алімпе,
Дзе зьдзяйсьняюцца дзіўныя сны,
Ты блукала ў нябеснай даліне
Недасяжнай, сьвятой вышыні.

Мне здалёк твая постаць сьвяціла,
Сонцам быў сылюэт ясны твой,
Ты зацьміла нябёсаў сьвяціла
Некранутай сваёю красой.

І ляцеў я, нябёсамі п'яны,
Як на крылах васковых Ікар,
І адчуў: я навек прыкаваны
Да цябе і да сонечных мар.

Я сказаў: «Будзь маёю, Вэнэра».
Мы з табой узьнясьліся да зор,
І тады назаўжды я паверыў
У маладога каханьня прастор.

### Марта Гамановіч

***

*Бацькі з магіл цяплом дыхнулі.*
*Ул.Караткевіч*

Навошта вас у мармур і граніт?
За што такія глыбы на галовы?
Хоць голым сэрцам прыпадзі да пліт
Ня чутна, не даходзяць вашы словы.

Куды лягчэй, дзе дыхае зямля,
І крыжык мэталічны ці драўляны.
Прысядзеш, ткуцца думкі спакваля,
І родных душ бальзамам гоіш раны.

І ўспомніцца, як прадзед загадаў:
«Унучак, сын, што б ні казалі людзі —
Мне толькі крыж пастаўце. Божа збаў,
Каб больш нічога — будзе ціснуць
грудзі».

... Вось нават птах гнязьдзечка зьвіў,
Смоўж, муравейка... Ды шыпшыны
водар.
Бач, як жыцьцё той чалавек любіў,
Што й на тым сьвеце не згубіў
свабоды.

### Volha Haŭrylčyk

***

Jak łohka... Nia bačyć i žyć...
Ciažej — pamierci dy ŭbačyć,
Za choład ciapłom addziačyć.
Jak łohka... Nia bačyć i žyć.

U dumkach svajich adznačyć,
Što vartaje ŭvahi, što — nie...
I cień, što imčaŭ pa ścianie,
U dumkach svajich adznačyć.

Čamu, pa čyjoj vinie
Składana raspluščyć vočy?..
Nia čutny hołas praroču
Čamu, pa čyjoj vinie?

### Аляксандар Голуб

НОЧКА

Мільганула зорачка —
Ды тая прапала,
Цёмна-цёмна ночка
На двары настала.

Цішыня навокал,
Не чуваць нічога,
Толькі подых ветрыка
У полі маладога.

Тут з-за хмаркі месячык
Выкаціўся раптам,
Паміргаў гарэзьліва,
Зь нейкім нават жартам.

Ціха засьмяяліся
Пад вакном бярозы,
Зашаптаў лагодна
Цар-дубок прыгожы.

Зашумелі вербы
Над ракой спакойнай,
Узьняліся хвалі
На вадзе халоднай.

Ночка мая любая!
Ночка-чараўніца,
Як цябе люблю я,
Мілая сястрыца!

### Ала Кажэра

З ТАБОЙ

*Ядвісі*

Шлюбны месяц алеі таполяў,
Покліч белага пуху вясной,
Адрачомся ад хатняй няволі,
Будзем вольнымі сёньня з табой.

Паблукаем алеямі парка,
Ён і той, і няўлоўна ня той,
І з маленечкіх рэштак-агаркаў,
Сьвечку нашу запалім з табой.

Загарыцца яна з успамінаў,
Што плывуць з маладосьці ракой,
Пад мядовыя кроплі бурштыну
Мы далоні падставім з табой,

Клейкі пах у алеі таполяў,
І гады, быццам наша віна,
Прагу спозьненых мрояў спатоліць
Лёгкім крокам студэнтка-вясна.

### Мікола Кананoвіч

***

Сьнег дачасна сышоў,
па-ангельску, без разьвітаньня.
Чорны колер палёў.
месяц люты пакрыўдзіў убраньнем.
Я ня ведаю, як апынуўся
між сёньня і ўчора?
Горкі будучы смак —
як працяг
зімой чорнага поля.
Прывітаньне бяз слова «бывай»
не пачуе Другі Канец Сьвету.
Сярод ночы адчай
злым надрывам занесены ветру.
Бліскавіцай пачуцьцяў чужых
спапяляюцца нэрвы.
І гараць зноў вяртаньня масты,
гукі словаў апошніх — пусты
зьмест у доме і ў сэрцы...
Сьнег дачасна сышоў.
Шэрай раніцай
выбух зьдзяйсьненьня
да нуля, на нішто
намаганьні працягу мне зьвёў
падарункам
да дня нараджэньня.

### Андрусь Клікуноў

***

Пяшчотны край мой сінявокі:
Лясы, азёры, мурагі...
Пазалачоныя аблокі
Ды не ўбраныя стагі...

Бярозак белых сарамлівасьць
Ды задуменнасьць тых ялін,
Гушчару цёмнага цнатлівасьць
Спакой душы нясуць адзін;

Бусьліны клёкат, шэпт крынічкі,
Вільготны водар журавін,
Прычараваныя сунічкі
На ўскрайку гулкіх баравін.

Мяне паклічуць краявіды
Можа наяве, можа ў сьне
У край мой сьветлы і адкрыты,
Паклічуць у Беларусь мяне.

### Яўхім Корчак

ГУЛЬНЯ Ў ШАХМАТЫ

На белым полі — чорныя фігуры.
Сланы і коні па свойску пасуцца,
Але ўсё ж болей там пешкі рвуцца
Да белай волі, да белай культуры.

Сачу за бітвай з самотным жахам:
Яшчэ што стопча конская сіла?
І дзе сьвіньня сваё ўточыць рыла?
... Каршун кружляе над белым
сьцягам.

Кароль бязвольны аддаць гатовы
Белыя вежы на полі белым,
І фэрзь спрабуе маніць няўмела,
А белыя пешкі чуюць словы:

«Патрыя... Воля... Так будзе лепей...
Гісторыя ўзважыць і нас апраўдае...»
І вось ужо пешка свой меч кідае,
І белай фарбы ўсё меней, меней...

### Марыля Лагодзіч

***

Там восень малюе горад
пякельным крывавым стрыжнем.
І ветра натхнёны холад
зрывае апошнія вішні.

І вішні — вільготныя вочы, —
трапляць пад ногі музыкаў.
А сэрцы ў абдымках ночы
сьняць сны аб бязладзьдзі крыкаў.

Крычы! Няхай будзе рэха,
бо там замест твараў — плямы.
І цені балючым сьмехам
фарбуюць партрэтаў рамы.

Крычы! Затрымай самоту,
бо думка парэжа вены.
Ня трэба курыць пустоту,
ня трэба стаяць на каленях.

### Ігар Лосік

ВАЯВОДА
*(адказ на раман А.Міхайлава «Суворов»)*

Лыгаў крывавы ваявода,
Як цесьля неруш, змагароў.
Паганіў веру, храмы, кроў
І мову белага народа.

Рваў сэрцы, пляжыў радавод
І чорны дух сьляпых хацінаў,
І адсякаў руку ў мужчынаў,
Каб не паўсталі за свой род.

Той белы край у змрок Тартар,
Як Зэўс, закатаваў тытанаў.
Шалеў ад гімнаў барабанаў
І ад зьдзяйсьненьня брудных мар.

... Прайшло ўжо больш за дзьвесьце
год,
Але ягоны дух вітае,
Як крумкачоў галодных зграя,
Неачунялы б'е той род.

### Алесь Менскі

АБРЫДЛАЕ

Не люблю штодзённых сходаў,
Чынавенскае нуды,
Адзінагалоснай згоды
Безгалосай грамады,

Мэблі змрочных кабінэтаў,
Запальнічак залатых,
Стосаў правільных газэтаў,
Словаў-заклікаў пустых,

Чырвані сьцягоў наўкола,
Палігл҃етаў без мазгоў,
Пацалункаў аднаполых,
Крыўды адстаўных багоў,

Не люблю я «Волгаў» чорных,
Што прывозяць новы зброд,
І заступнікаў народных,
Што прапілі свой народ.

### Алеся Недарэка

ТВАЕ ВОЧЫ

Дзе ты, дзе, каханы мой, дзе!
Бачу вочы ў цемры твае.
Гляджу ў блакітныя вочы твае,
Хачу пра каханьне расказаць табе.
Пра тое, як будзеш ты ў жыцьці маім,
Пра тое, як буду я ў жыцьці тваім.
Дзе ты, дзе — паўтараю ізноў!
А ты ня ведаеш пра маю любоў.
Твае вочы — мора цяпла,
Твае вочы — мора сьвятла.
Вочы ў цемры твае,
І няма адказу мне.

### Юрась Півуноў

***

Абсыпалася цэгла
Замкавых муроў.
Згубіў нашчадак годнасьць
Продкаў-вояроў.
Па месьце старажытным
Вецер гоніць пыл.
Гарыць у небе зорка,
Назва ёй — Палын.

### Паўлюк Рамнёў

***

Трасянула хату,
Раскідала стрэху —
Гэта хтось гарматай
Ляпнуў дзеля сьмеху.

Комін разваліўся,
Вылецелі шыбы,
Нечы лямант зьліўся
З рэшткамі сялібы...

Ды адно ўжо званьне
Ад шырокай печы,
На якой ад раньня
Паміраў старэча.

Кроў цячэ шалёна,
Сьлёзы йдуць ракою...
— Нават перад сконам
Не дадуць спакою...

### Стлейг

***

Сінь так нізка над вадою.
Я плыву у цемнаце,
Часам чую: «Я з табою»
Раздаецца у імгле.
Часам хвалі адкідаюць лодку мне
На берагі.
Я плыву, куды ня вабіць
Чорны вырадак на дне.
Будуць побач громы, штормы
Да зямлі ламаць чарот.
Я плыву да Небакраю,
Паскарае човен ход.

### Гандрусь Стрэмка

***

Паводле агентурных дадзеных
разьведкі,
Вось недзе тут павінны назірацца
Беларусы.
Толькі нешта рэдка
Даводзіцца мне зь імі сустракацца.

Замеcта іх жыве тут нейкі шэры,
Сьляпы народ, які забіўся ў норы,
Забыўшыся на Мову і на Веру.
З-за гэтага спазнаў ен многа гора.

Спрадвеку ім, як быдлам, пагарджалі
І Памяць адабраць навек хацелі.
Яго пазатапталі, запужалі,
Бо родныя сьцягі яго ня грэлі.

А той народ жыве і лie сьлёзы,
Але ня знойдзе сілаў абудзіцца.
Не разумее — заўтра будзе позна
Па Бацькаўшчыну крочыць.
Толькі сьніцца

Сынам сапраўдным роднае краіны,
Што сонца волі ўзыйдзе, стане
сьветла,
«Пагоня» летувісаў ўзьніме крылы...
А аб астатнім штосьць маўчыць
разьведка.

І я чакаю дзень, калі агенты
Усіх разьведак рапарты напішуць,
Што Беларусь зноў ёсьць на мапах
сьвету,
І сонца зьзяе па-над ёй у высі.

### Андрусь Сьнежань

***

Люты. Стамлёнае сонца
промні крывавіць аб дрот.
«Рукі за голову!» Хлопца
пхаюць у чорны праход.

У паралельным сьвеце
спаліць жыцьцё гады.
Гэта агонія сьмерці,
а пераможца — ты!

Згінуць у вёснаў прорве
блазны, і ў мройны дзень
сымбалем нашай волі
промень прарэжа цень,

сьветлы абсяг разгорне
іператрушчыць дрот...
Край нараджаў герояў,
калі канаў народ.

Нам жа, такім нясным,
зьніклым у багне мас,
доля адна — маліцца,
шчыра маліцца за вас,

тых, каго разам родніць
гідкі цяжар пакут:
Край, што над прорвай ходзіць,
хлопца й балотны люд

### Давыд Сьцізорык

САМАПАДМАН

Самападман — кава бяз цукру,
Але з лыжкаю мёду за белай шчакою.
Самападман — неабходны ці брудны,
Ён побач. Заўсёды. Ува мне і са
мною.

«Вернецца. Будзе прасіцца. Дарую.»
Шэпча салодка (за лыжкаю —
лыжка!)...
«Хай праходзіць у шчэлку, бо дзьвер
не адкрыю.
Хай пачне ўсё ізноў!» — ён на сківіцах
піша.

Самападман — ён адзін да сьвітаньня,
Але марыць, ад болю сьціснуўшы
зубы:
«Скажу ёй, каб выклікаць спачуваньні:
Бачыш, я п'ю сваю каву бяз цукру».

### Тацяна «Дзьюкі» Сьцізорык

МАЗАХІЗМ

(БЯРЭМА КАХАНЬНЯ)

У роспачы ён чульлівы,
Наіўны, як немаўля.
У каўтунах сівой грывы
Попел жоўтага матыля...

Салодкай ганьбаю ашчэрыўшы зубы,
Чуе ў скронях крыві цяжкі бег.
Я ўжо бачу... мой жорсткі... мой
любы...
Ён прыцісьне мяне да сябе.

Пальцы ўвап'юцца ў плечы,
Чырвань пацячэ па сьпіне.
І шалёны, нечалавечы
Бляск маіх вачэй не міне.

«Мая служка... краска... дзяўчынка...»
І нагайкай пажаду ня ўцяць!
... Як асушаная да кроплі скарынка
Буду ляжаць і крычаць.

Ён расьсячэ мае сінія вусны,
Ня вытрымаўшы жудасны енк...
Абгарне хусткай назваў распусных,
Адвернецца і... захрапе.

Прамыю раны тым ранкам раньнім
І, няглядзячы на боль у грудзях,
Прынясу бярэма каханьня
І схаваю яго ў дзьмухаўцах.

А калі мой Спадар прачнецца,
Я бізун яму ў руку пакладу:
«Цалуй мае няшчырае сэрца,
Пакуль я не адыйду!»

Зірне на твар мой бяскроўны...
«Лепш дай кавы...» І ціха: «Баліць?»
... У роспачы ён шыкоўны —
Ласкавейшы кат на Зямлі!

### Зьміцер Таруліс

***

Ды годзе ўжо, братка, плакаць,
На лёс наракаць ня трэба.
Няхай пад нагамі слота
І шэраю плямаю неба.
«Тутэйшыя» п'юць «Зубровку»,
І сьмецьце між дрэваў носіць.
Відаць, нам пара ў Вандроўку,
Нам месца ў Сусьвеце хопіць.
І хай нават прыйдзецца потым
Па сьцежцы хадзіць з аўтаматам —
Ніколі мы, дружа, ботам
Дзьвярэй не адчынім у хату.

### Натальля Шкапіч

РЭЧАІСНАСЬЦЬ 1997

Жыцьце ўвачавідкі раззлавалася,
На кожным кроку зламаныя крыжы.
І туманамі ў неба ўзьнімаюцца
Крывавыя сьцягі спакусьлівай маны.
Гісторыя вучыла нас упарта,
Што найдарожшы дар — Свабода
І ня мае ён грашовае цаны.
А бруха поўнае ў няволі вучыць подла
Перад усімі гнуцца, вядома ж, не
паны.
Дык ці патрапіце яшчэ з кален
узьняцца,
Бо не прывыклі вы свой лёс у руках
трымаць,
І будуць дзеці вашыя стагодзьдзямі
бадзяцца
Сьцяжынамі чужымі і вечна наракаць.

### Віталь Юрэвіч

БОЛЬ

Труну-дамавіну магіла чакала.
Ляжала дзяўчо ў ёй юнацкага ўзросту,
Спакойная, сьветлая, быццам бы
спала;
Худзенькая крыху, маленькага росту.

Ляжала на жоўтым сыпучым пагосьце.
У яму пацьху пясочак спаўзаў.
Маўчалі ўсе. Недзе ўсклiпываў
хтосьці, —
Прамоўца нябожчыцы оду складаў.

Нікому ж была пры жыцьці
непатрэбнай:
Ні п'яным бацькам, ні сяброўкам
сваім.
Жыла як магла, пустазельлем
ганебным
Адзінай зусім, абыякавай ўсім.

Купілі суседзі труну і адзеньне,
Гарэлку і ежу, усё, што маглі.
Але не давала спакою сумленьне,
Таму што любові для ёй не знайшлі.

Пайшла нечакана з-пад колаў
машыны,
Кудысьці ў нязьведаны намі прастор,
І стук малаткоў па кутах дамавіны
У сэрцы натоўпу нес горкі дакор.

Вось яму засыпалі. Вырас узгорак...
Прылашчыў яе да сябе мацярык.
Усе разышліся па хатах, задворках,
А ў неба з душой адляцеў ціхі крык...

Былі як заўсёды і сьлёзы, і словы,
Што мала прыйшлося на сьвеце
пражыць.
Але ж не пачуў я ні ў воднай прамове,
Што трэба жывых, а ня мертвых
любіць.

### Ірэна Янчанка

***

Хай полымя сьвечкі ня гасьне,
Што шлях мой ў жыцьці асьвятляе.
Яна ж то зусім недалёка,
То раптам кудысьці зьнікае.

Я ж гэткае цемры баюся
Зь дзяцінства. Бяз зораў, бо ночы —
Бы цёмныя твары людзкія,
Пустыя, пагаслыя вочы.

І я зазіраю ў люстэрка
Упэўніцца каб і зазначыць,
Што вочы мае яшчэ зьзяюць
І шлях мой упэўнена бачаць.

Вось толькі зьяўляюцца думкі,
Што быццам па колу блукаю.
Памылкі мае, недаробкі
У былое ізноўку вяртаюць.

А будучае то я бачу,
А то ўсё імгла засьцілае,
І гэта раптоўная пастка
Патроху мяне праглынае...

Дык хай усё ж гарыць той вагеньчык,
Хай думкі ідуць неспакойна,
Абы не застацца на месцы,
Каб шлях быў сапраўдны і вольны...

# ЭПІКОН

Аляксей Бруй

## АДЗІН СТРЭЛ

*Ахвярую В.С.*

Спэцыяльная група S.A.S. ці, як іх празвалі, «тунэльныя сабакі», шукала паўстанцаў у пячорах на Пн.-Усх. ад гораду. Пячораў было некалькі, і за пяць начэй былі агледжаныя ўсе, акрамя самай вялікай, якая пранізвала гару наскрозь і мела шмат розных хадоў. Гэтай ноччу было вырашана агледзець яе.

На гэты раз тактыка была такой — наперад пасылалі аднаго салдата, за якім потым ішла ўся група. Гэты салдат павінен быў бясшумна прабірацца па тунэлі і, калі што заўважыць, вярнуцца назад да групы, якая на пэўнай адлегласьці рухалася за ім.

Сёньня ён сам вызваўся ісьці наперад. Ён ніколі не баяўся сьмерці і сам шукаў небясьпекі.

Ён, крадучыся, прайшоў уздоўж сьцяны наперад. Ён ішоў так ціха, што нават сам ня чуў сваіх крокаў. Цішыню калі-нікалі парушаў толькі капёж.

Прайшло шмат часу, перш чым ён пачуў нейкі гоман. Ён застыў, а потым пачаў паволі красьціся далей. Завярнуўшы за рог, ён убачыў слабы праменьчык сьвятла, які выбіваўся зь нейкай шчыліны ў сьцяне якраз на ўзроўні яго вачэй. Ён прыпаў да яе.

Гэтая дзірачка была шчылінай у дзьверцы, што закрывала ўваход у невялікі грот. Гэтая дзьверка была так замаскаваная, што адрозьніць яе ад сьцяны было б немагчыма нават пры сьвятле дня.

У гроце вакол газавай лямпы сядзелі паўстанцы. Усе яны былі апранутыя ў сваю дзіўную ўніформу. Павысіўшы галасы, яны аб нечым спрачаліся. Ён пераводзіў позірк з аднаго паўстанца на другога. Іх было няшмат — чалавек дваццаць.

Ён ужо хацеў вяртацца назад, каб прывесьці астатнюю групу, як вочы яго спыніліся на адным з паўстанцаў, што сядзеў да яго сьпінай, і якому нешта расказваў сусед. Ён ня мог адвесьці свайго позірку і ў той жа час не разумеў, што прыцягнула ягоную ўвагу. Паўстанец быў апрануты як усе іншыя, твару яго не было відаць. Адзінае, што адрозьнівала яго ад іншых — гэта крыху даўжэйшыя валасы, якія выбіваліся з-пад фуражкі.

Аднак чым больш ён глядзеў, тым большы холад апаноўваў яго цела, так, што ён ня мог нават варухнуцца. Тут паўстанец павярнуў галаву і засьмяяўся. Гэта была дзяўчына! Гэта была Яна!

Для яго ўсё было скончана. Тая пустэча, тое дно, зь якога ён ледзьве выбраўся сем гадоў таму і потым нават баяўся пра гэта думаць, заглушаючы думкі тытунём і алькаголем, зараз цалкам заглынула яго. Ён пачаў задыхацца і заплюшчыў вочы — у цемры паплылі жоўтыя кругі, а затым ён панёсься па нейкім тунэлі, а насустрач яму нёсься цягнік, яны сустрэліся, і цягнік увайшоў яму ў вочы і сутыкнуўся зь ягоным сэрцам.

Ён апусьціў руку, выцягнуў пісталет, паднёс да скроні і націснуў на курок...

Празь некалькі хвілін тут ужо былі салдаты. Яны асьвяцілі яго ліхтарамі і аслупянелі ад зьдзіўленьня. Цішыню парушыў камандзір:

— Халера! І знайшоў жа месца.

— Хто б мог падумаць, — прамовіў нехта з салдатаў.

— Ды чорт зь ім! — вылаяўся камандзір. — Але ж ён сваім стрэлам распужаў усіх паўстанцаў. Адзін стрэл — і ўся апэрацыя паляцела к чорту. Зараз гэтых бандытаў ня зловіш. —Ён сплюнуў. — Забярыце яго і пайшлі адсюль!

Яны моўчкі пайшлі назад. Кожны пра нешта думаў, і толькі яго сябра ўвесь час шаптаў:

— Адзін стрэл. Усяго адзін стрэл...

А ў некалькіх мэтрах ад іх, за тоненькай дзьверкай сядзелі акамянелыя ад жаху паўстанцы. А пасярод іх, каля патушанай лямпы, з куляй у сэрцы ляжала Яна. З куляй ад адзінага стрэлу...

Карстэн Ліндэр

## СЭКУНДНАЯ СТРЭЛКА

Сэкундная стрэлка мае сваё жыцьцё, якое даволі доўгае, адну хвіліну — дакладна! Дакладна, але не прыблізна, ці прыкладна адну хвіліну. Яна ідзе і ідзе.

Цік-так, гучаць яе крокі дакладна ў тахт, хвіліна за хвілінай, гадзіна за гадзінай, дзень за днём, месяц за месяцам і год за годам.

І кожную хвіліну яна сустракае пэўныя прыпынкі. Шэсьцьдзесят дакладных прыпынкаў, якія яна праходзіць. Шторaз кожную хвіліну. Адна хвіліна для яе як дзесяць. Месяц праходзіць за адну гадзіну. Год за дзень. Дзесяць дзён — дзесяць гадоў і сто дзён як цэлае стагодзьдзе.

Яна не перажывае чагосьці новага, не, дзень заўсёды пачынаецца з аднаго і таго ж.

Яна ня мае таксама спакою, таму што кожны яе крок не перапыняецца ні на сэкунду. «Ты можаш успомніць свой апошні водпуск за сто мінулых стагодзьдзяў?» — пытаецца яна ў хвіліннай стрэлкі, аднак тая яе ня можа зразумець, таму што хвілінная стрэлка жыве ў другім тэмпе, і малая стрэлка зьвяртаецца да яе незразумела хуткімі словамі.

Яна наразае кругі на маім гадзіньніку далей, ні з кім не размаўляючы.

Для таго, каб паказваць час на маім гадзіньніку, жывуць тры стрэлкі.

Яны штодзённа адбіваюць дваццаць чатыры гадзіны. Яны не атрымліваюць адпачынку і ніколі ня скардзяцца.

Аднак як мала ім надаецца ўвагі, усім гэтым маленькім стрэлкам у гадзіньнікавым мэханізме. Зубчатыя колцы гавораць стрэлкам, калі і як яны павінны рухацца. І жыцьцё ў гэтым маленькім сусьвеце круціцца ў сваім коле.

Ніякага прагрэсу на плянэце. Гадзіньнік. Сэкундная стрэлка майго гадзіньніка аднойчы хацела забіць сябе, аднак я змог яе выратаваць. І вось яна зноў здаровая, і я адчуваю яе, калі па вечарах я кладу сваю руку пад галаву. Цік-так, цік-так, чую я тады яе крокі і адчуваю сум, цік-так, цік-так.

*Пераклад зь нямецкай Конана Пятра, Конана Сяргея*

Алесь Менскі

## УЛЁТКІ

Вы жадаеце, каб я распавёў пра тое, як мы з Андрусём хадзілі вешаць улёткі? Калі ласка, я раскажу. Няма праблемаў. Хоць, зрэшты, праблемаў хапае, і вы зараз зразумееце, чаму.

Разьвешваць ўлёткі няцяжка. Дзе я іх здабываю? Магу сказаць канкрэтна — у пэўных людзей у пэўным месцы. Будзеце мець вольны час — завітайце.

Для таго, каб разьвешваньне ўлётак было ня толькі карысным заняткам, але і задавальненьнем, трэба загадзя падшукаць сабе месца для працы. Тады не давядзецца блукаць у прыцемку.

Лепш за ўсё для працы надаецца мур. Ён павінен быць дастаткова гладкім (паспрабуйце прыклеіць улётку на шурпатую паверхню!), досыць высокім, каб можна было высока клеіць улёткі — так іх больш складана зьдзерці, доўгім, каб было вялікае поле для дзейнасьці, ды сьветлым, пажадана белым, каб улётку было бачна здаля.

Пасьля ўтомных кружляньняў па горадзе мы з Андрусём нарэшце набрылі на прыдатны мур.

Дзеля пасьпяховае працы патрэбны адмысловы клей, які я трымаў пры сябе ў адмысловым цюбіку, а Андрусь у адмысловым слоіку. Аднак напаўпразрыстая бясколерная маса ніяк не хацела вылазіць зь цюбіка і толькі злавесна чвякала ў адказ на мае высілкі. Андрусь параіў мне схаваць цюбік у кішэню, бо, маўляў, па такім марозе не атрымаецца.

Мы ўзяліся за слоік, але клей, відавочна, вырашыў атабарыцца надоўга. Разьюшаны, Андрусь так страсянуў слоік, што гразкае рэчыва, якое прызнала нарэшце сваю паразу, шчодра заляпіла паверхню ўлёткі ды джынсы майго сябра. Такім чынам, коштам цяжкіх ахвяраў, улётка была трывала прымацаваная да муру. У выніку слоік быў пусты, нібы яго сабака вылізаў (не пазайздросьціў бы я таму сабаку).

Андрусь, які канчаткова ўвайшоў у ролю генэратара ідэяў, параіў мне праверыць, ці адагрэўся клей у цюбіку. Сябра нібы ў кішэню глядзеў: у цяпле клей палагаднеў, дараваў мне ўсе былыя крыўды ды з камфортам расьцёкся ў куртцы. Такая ідылія не адпавядала маім плянам, і я пачаў справаджваць нахабніка вонкі невялікімі порцыямі, карыстаючыся ўласнай далоньню. Андрусь падстаўляў улёткі, а я шчодра іх змазваў. Увесь працэс нагадваў прыгатаваньне вячэры для лялек у мясцовай пясочніцы гадаванцамі ясьляў-садзіка №X.

Нарэшце мур быў вытанчана аздоблены паўтузінам улётак. Калі мы з мастацкім задавальненьнем аглядалі сваю працу, выціралі аб бэтон рукі ды спрабавалі ня думаць пра нескарыстаныя ўлёткі, якіх, па самых папярэдніх падліках, налічвалася каля сотні, нас асьляпіла сьвятло фараў ды аглушыў вой сырэны, густа перасыпаны першаклясны мацюкамі.

Дзе ж нам было ведаць, што мур патрулюецца! Чаму менавіта гэты? Усё вельмі проста: ён занадта гладкі, каб на яго можна было ўзьлезьці, такі высокі, што яго ў жыцьці не пераскочыш, вельмі доўгі, а таму за рогам не схаваесься, ды да таго ж зусім белы — кожны мінак бачны, як груган на сьнезе. А самае галоўнае — надта гэты мур прыдатны для «наглядное агітацыі».

Вось так я і апынуўся тут. Ну, а зараз ці магу я патэлефанаваць дадому, спа... таварыш маёр?

Рахель Хутмахер

## РАДЗІМА

ДЗЕ Я ЖЫЛА

— Нарэшце, — кажу я і зноў пазнаю зёлкі на полі. З таго часу, як я сышла адсюль, ня бачыла іх.

Вось зноў драўляныя яблыкі, яны растуць на гары. Вось яна ляжыць, пакрыўшыся каменьнем, і сьпіць.

Я чакаю, што адчую шчасьце, што пачну сьмяяцца, плакаць, сьпяваць. Але я не сьмяюся, ня плачу і я разважаю пра тое, як гэта было раней.

Вось зноў драўляныя яблыкі, вось зноў чорныя гарэхі. Я павінна была б адчуваць шчасьце. Я трымаю ў руцэ драўляныя яблыкі, яны цяжкія; я думаю пра міззэрныя хмызьнякі, пра вільготную зямлю, ня якой я жыла апошнія гады. Я іду між каменямі і ем чорныя гарэхі, але яны больш ня ёсьць такімі, як раней.

Гара яшчэ тут; яна сьпіць. Там, дзе я жыла апошнія гады, не было гор. Я падыходжу да яе; лугі, што растуць на яе плячах, прыгожыя. Яе ручаі маюць белы ды зялёны колер. Яны халодныя, як марозіва, як лёд; яны дасканала чыстыя. Там, дзе я жыла апошнія гады, вада была мутнай і паволнай, там не было неба. Тут яно адкрытае зялёнай далечыні.

Я падымаюся на гару; лугі становяцца срэбнымі, драўляныя яблыкі зробленыя з золата; я вярнулася. Я моўчкі стаю і разважаю.

Увесь час я ўяўляла сабе, як гэта будзе: я вяртаюся і зноў іду да гары; я сьмяюся і плачу; я сяджу на гары, ем гарэхі ды сьпяваю. Цяпер я сяджу на гары; неба зялёнае, ручаі ледзяныя і цалкам празрыстыя; шчасьця я не адчуваю.

ЗЬМЯНІЦЦА

— Я хачу вярнуцца туды, адкуль прыйшла; дазволь мне, —зьвяртаюся я да Доны.

— Добра, ты можаш ісьці, — кажа Дона. — Заставайся там, колькі захочаш.

— Калі ласка! — кажуць яны ветліва, калі я вяртаюся. Яны кажуць: вось ты і вывучылася.

— Як па-іншаму тут усё, — кажу я. — Гара стала чырвонай, а калісь была белай.

— Усё, як і заўсёды, — кажуць яны. — Гара застаецца такой самай, горы ж не зьмяняюцца. Зьмянілася ты.

— З каменем штосьці, — кажу я. — Хіба раней тут не было дрэваў?

— Камень застаецца такім самым, — кажуць яны. — Тут нічога ані кропелькі не зьмянілася. Зьмянілася ты. Што яны зрабілі з табой.

Што зрабіла са мной Дона. Казала: вучыся; забрала ў сьне мае старыя вочы і замяніла іх новымі; я спала і нічога не заўважыла. Ноччу адрэзала мне язык і прышыла новы; я нічога не адчула і нічога ня ведала, пакуль — толькі зараз — не пачула: я больш не размаўляю так, як усе тут.

Чаму Дона зрабіла гэта са мной. Казала мне: вучыся, вучыся; чырваньню праходзіла са мной скрозь дрэва і казала: будзь агнём; і падчас усяго гэтага забрала вочы з майго твару, язык з роту, пальцы з далоняў.

Будзь птушкай, будзь вогнішчам; замяніла вочы іншымі, раскрыла мне вушы ў сьне.

— Будзь павуком, спляці за мной на дзьвярах сваю павуціну; і замяні мне валасы, скуру; я нічога не заўважу.

Што ты зрабіла са мной, — спытаю я, калі да яе вярнуся. — Я чую ня так, як раней, я размаўляю ня так, як раней. Вярні мне мае старыя рукі і валасы, — скажу я ёй. — Я не хачу быць іншай. Я хачу быць як раней, калі жыла тут, пад белай гарой, за вялікім камянём.

Я гэтага хачу.

Не.

— Ты зьмянілася, — кажуць яны.

— Так, — кажу я, — гэта правільна, — кажу я.

— Заставайся тут, — кажуць яны і паказваюць на чырвоную гару, на склееныя з кавалкаў камень, — ты ж ужо вывучылася.

— Не, — кажу я.

— Дык навошта ты тады вярнулася? — кажуць яны з дакорам.

*Пераклад зь нямецкай Вальжыны Крывіч*



Ралян Жакар

# 50 ПРЫЧЫНАЎ, КАБ ЛЮБІЦЬ ВІТГЕНШТАЙНА

1. Бо з усіх роляў ён найбольш падабаў ролю арыстакрата-ніўдахі.

2. Бо, у адрозьненьне ад Гайдэгера, ён ніколі не пісаў «Хайль Гітлер» і, у адрозьненьне ад Сартра ніколі ня кідаўся ў камуністы.

3. Бо ён верыў у сяброўства. Сябар — гэта чалавек, зь якім можна нагаварыць кілямэтры бяссэнсіцы, — казаў ён.

4. Бо прывід Ота Вайнінгера, нэрвовага самагубцы, прарока самазьнянавіднасьці, не адставаў ад яго аж да магілы.

5. Бо ён зрокся бацькавай спадчыны, што была б зрабіла яго адным з найпышнейшых багатыроў Эўропы.

6. Бо сярод нячастых маральных парадаў, якія ён даваў сваім вучням пры рэшце, было: «Не абцяжарвайце сябе ў жыцьці бяз толку».

7. Бо трэ' было ж камусь вычысьціць Аўгіевы стайні інтэлектуальнага сьвету.

8. Бо як Бэртран Расэл паведаміў яму, што мае стварыць Сусьветную арганізацыю за Мір і Свабоду, Вітгенштайн рагатнуў. «А вы, мабыць, хутчэй заснавалі б Сусьветную арганізацыю за Вайну і Рабства», — пад'ялдыкнуў Расэл, якому абышло. Вітгенштайну прапанова прыйшлася даспадобы: «Бадай, бадай!»

9. Бо ён сьцьвярджаў, што філёзаф не зьяўляецца грамадзянінам ніякай супольнасьці ідэяў, і менавіта такая крайняя адчужанасьць робіць зь яго філёзафа.

10. Бо выдаўцу свайго «Лёгіка-філязафічнага трактату» ён парадзіў прыкласьці да кожнай кніжкі па дзясятку чыстых аркушаў, каб чытачам было куды плюнуць са злосьці, што яны нічога не зразумелі. Ён парэкамэндаваў таксама, каб на вокладцы выдрукавалі дату і дакладны час ягонага нараджэньня, каб хто верыць у астралёгію мог скласьці гараскоп аўтара.

11. Бо ён імкнуўся да канцэнтрацыі цэлай хмары філязофіі ў кроплі граматыкі.

12. Бо ён увесь час думаў сам сабе: што рабіць, калі маеш толькі вельмі адносны талент і гэты талент пачынае зьнікаць. Можа, лепш зьнікнуць на пару зь ім?

13. Бо калі яму стала вядома, што ў яго рак прастаты, яго засмуціў не дыягназ, а сьцьверджаньне доктара, што існуе эфэктыўнае лячэньне. «Ня маю ніякага жаданьня жыць далей», —як па галаве даў лекару ён.

14. Бо ён казаў: «Мае развагі, быццам надпісы на аўтаматах, што прадаюць квіткі на ангельскіх вакзалах: «Is your journey really necessary?». Яны хіба прадугледжваюць, што чалавек, скажа, прачытаўшы: «On second thougts, no».

15. Бо ён ніколі не насіў гальштука.

16. Бо ён лічыў атамную бомбу горкай, але збавеннай пілюляй.

17. Бо ён уважаў за злачынства рабіць дзяцей, будучы ў гэтым верным пасьлядоўнікам Шапэнгаўэра, і тлумачыў якось адной захопленай ім дзяўчыне: нарадзіць малое, значыць выпхнуць у гэты ўбогі сьвет яшчэ адно стварэньне. Ён уважаў таксама, што людзі па-любому жывуць задоўга.

18. Бо ў яго было ўсьведамленьне сваіх грахоў і не было ніякай надзеі на іх адпушчэньне. Ён ня ўмеў уявіць сабе Бога інакш, як бязьлітасным судзьдзём.

19. Бо ўсе формы філязафічнай аргумэнтацыі падаваліся яму вульгарнымі. Я не хачу пэцкаць кветку сваімі бруднымі рукамі, — прызнаўся ён нейк Расэлу.

20. Бо ён задаваўся пытаньнем: «Куды пераходзіць сучаснасьць, стаючыся мінулым, і дзе ёсьць мінулае?» Вось адна з найбольшых крыніцаў філязафічнага затрудненьня.

21. Бо існуе няўлоўнае падабенства між Вітгенштайнам і Тэлоніюсам Манкам. Абодвух немагчыма пераняць — занадта яны складаныя, занадта асабістыя. Абодва яны — музыкі цішыні.

22. Бо Інгеборг Бахман прысьвяціў яму дысэртацыю.

23. Бо Ізабэль Юпэр чытае лекцыю пра Вітгенштайна ў фільме Вэрнэра Шротэра «Маліна».

24. Бо фільм Міхаэля Ганэке «71 фрагмэнт храналёгіі выпадковасьці» натхнёны сама філязофіяй Вітгенштайна, а фільм «Вітгенштайн» Дэрэка Джармэна — ягонай біяграфіяй.

25. Бо ён бачыў у Фройдзе аднога зь вялікіх эстэтычных дэміургаў сучаснасьці, чалавека, які ня толькі зьмяніў наша бачаньне, але й дадаў нам новае вока.

26. Бо, паводле яго, у філязофіі першым аказваецца той, хто здольны рухацца з найменшай хуткасьцю. Або інакш: той, хто дасягае мэты апошнім. «Філёзафы мусяць вітацца між сабой: «Не сьпяшайся!» — сьцьвярджаў ён.

27. Бо на запытаньні, чаму ён займаецца філязофіяй, ён адказваў, што больш ні на што ня здатны і, апроч таго, філязофствуючы, ён робіць злое толькі самому сабе.

28. Бо ў душы ён пачуваўся лішнім на гэтым сьвеце і яму было сорамна, што ён не наважваецца зрабіць сабе сьмерць.

29. Бо ён быў з тых жа, што й Люіза Брукс, іншая прыхільніца Шапэнгаўэра з школы адмаўленьня. Тая прасіла людзей на дарозе паказаць ёй, як прайсьці ў пекла, і паліла свае споведзі, баючыся, каб яны не ўвялі ў зман яе самую.

30. Бо ён лепш любіў кепскія навіны, а ня добрыя — такім чынам спраўджваліся ягоныя змрочныя передчуцьці. Сярод ягоных улюбёных цытатаў была фраза з Готфрыда Келера: «Калі ўсё добра, не забывайся ні на хвіліну, што няма ніякіх падставаў, каб яно было добра».

31. Бо пад час адной памятнай канфэрэнцыі ён пагразіў на Карла Попэра кацюбой.

32. Бо калі б не Вітгенштайн, не было б і шэдэўру Томаса Бэрнгарда «Пляменьнік Вітгенштайна».

33. Бо, — лічыў ён, — абсурдна чытаць філязофскія артыкулы ў слаўтум часопісе «Mind», калі ёсьць нашмат больш зьмястоўныя дэтэктывы ў мяккіх вокладках.

34. Бо адным зь ягоных улюбёных выразаў было «Leave the bloody thing alone!» («Дай ты гэтаму спакой!», «Няхай яно гарыць!»); ён вымаўляў гэтыя словы падкрэсьлена ўрачыста, і гэта мела азначаць прыкладна наступнае: усё добра—так, як ёсьць, і галоўнае, ня трэба спрабаваць нешта зьмяніць.

35. Бо адразу пасьля лекцыяў ён кіраваўся ў найбліжшы кінатэатар, дзе паказвалі вэстэрн ці музычную камэдыю, і заўсёды сядаў на першы рад.

36. Бо ён усьведамляў, што праца ў філязофіі — гэта найперш праца над самім сабою. Пісаць можна толькі на тым узроўні, на якім ты сам ёсьць.

37. Бо ён вось што радзіў: «Не гуляйся з глыбінямі іншага!»

38. Бо ён казаў: «Галоўнае, не саромейся прамаўляць абсурдныя рэчы! Будзь уважлівы толькі да ўласнай абсурднасьці».

39. Бо ён пагарджаў выкладаньнем філязофіі ва ўнівэрсытэце, кажучы: «Толькі сапраўдны цуд можа зрабіць гэту працу сумленнай».

40. Бо ён па-майстэрску ўмеў не паддавацца падманнай гульні прамоўленага. Дыяген адпрэчыў мову філязофаў моваю клёўнаў, а Вітгенштайн падпаліў вогнішча нашае філязафічнае фанабэрыі.

41. Бо ён ня зносіў папулярную філязофію, праз якую людзям здаецца, быццам яны разумеюць тое, што разумець нязодольныя.

42. Бо калі яму было ўжо за пяцьдзясят, зь ім усё шчэ здараліся надта ж закручаныя гісторыі каханьня з маладымі людзьмі.

43. Бо ён лічыў, што абдумваньне або спробы абдумваньня ўласнага жыцьця і цяжэйшыя, і сумленьнейшыя, чым разьвязваньне задачаў зь лёгікі. Навошта быць лёгікам, калі ня быць чалавекам? — думаў ён сам сабе.

44. Бо ён быў патэнцыйным манахам, што не засталося без увагі ягонага найлепшага біёграфа, якому наканавана было звацца Monk-ам.

45. Бо ён разгнявіў Жака Дэлёза, і той, ператтварыўшыся ў пракурора, зьбінаваціў яго ў імкненьні забіць філязофію.

46. Бо ў Першую сусьветную ён падраджаўся добраахвотнікам на самыя небясьпечныя заданьні. Як па-ягонаму, страх нараджаецца з памылковых поглядаў на існаваньне. У акопах ён чытаў Талстоя, Шапэнгаўэра і Ніцшэ.

47. Бо, паводле ягоных словаў, вырашыць праблемы філёзафаў можна толькі

Крыстафэр Леандэр

# АСУДЖАНЫ

*Швэдзкі паэт Крыстафэр Леандэр жыве цяпер у Менску. Ягоная жонка працуе тут у прадстаўніцтве ААН. Леандэр — аўтар чатырох зборнікаў паэзіі і кнігі фантасмагарычных апавяданьняў. Цяпер ён рыхтуе да друку сваё дасьледаваньне творчасьці Марсэля Пруста, а таксама зборнік дзіцячых апавяданьняў («казкі для крыху падрослых дзяцей»). Тут, у Менску, які паволі адкрывае Крыстафэру свае стрымана-някідкія вартасьці, паэзія для яго — вялікая магчымасьць унутранага выжываньня: ён думае па-швэдзку, мроіць па-швэдзку і піша па-швэдзку, пераадольваючы супор непадатлівай роднай мовы...*



— Швэдзкая мова дужа адменная ад вашай, яна — сур'ёзная ноша для цябе як паэта, для тваёй як паэта свабоды, яна — цяжар, які спадарожыць у самавыражэньні. У швэдзкай мове ў вялікай ступені паэт — супраць мовы. З вашай паэзіяй інача. Яна жывіцца плаўнасьцю, плынямі мовы. Вы можаце плысьці за моваю і можаце кіраваць плынямі. Швэдзкі ж паэт асуджаны на змаганьне з моваю. Калі ты хочаш выразіць хараство мовы, ты мусіш ходаць зь ёю. Швэдзкая мова — дужа камяністая. І вам як паэту належыць разьбіваць яе.

— На чым базуецца Вашая паэзія?

— Перш і больш за ўсё — на каханьні. Я мкнуся ўбачыць штодзённы сьвет вачыма паэзіі, вачыма каханьня, і ў такім разе мне наканаванае змаганьне з моваю, змаганьне з асноўнымі канцэпцыямі, устанаўленьнямі Божымі. Задачаю паэта —устроміць пагляд на людзей, на тое, што насамрэч дзеецца. Гэта значыць, паэзія схільная трактаваць жыцьцё пры дапамозе найстаражытнейшых прыладаў, выкарыстоўваць адвечныя зёлкі. Мы ўсё шчэ як тыя аратыя, што апрацоўваюць зямлю спаконвечным спосабам... Шмат якая паэзія па-ранейшаму трактуе сьвет у біблійных вобразах, такім, як ён быў 2000 гадоў таму. І як бы выклік для паэта — убачыць штодзённае жыцьцё: станцыі мэтро, самалёты, паліцыянтаў — усё тое, што доўжыцца сёньня, — і перадаць хараство, магію гэтага.

— Калісь, гадоў пад дзесяць таму, Пімен Панчанка з пачуцьцём рэальнасьці канстатаваў, што паэзію па-за навучальным працэсам чытае ў нас, можа, 1 працэнт беларусаў. Наколькі папулярная паэзія ў Швэцыі?

— Найперш я хацеў бы пракамэнтараваць гэтае сьцьверджаньне пра беларускае стаўленьне да паэзіі. Як іншаземец, як госьць тут я не падтрымаю Вашага ўражаньня. У мяне ўражаньне, што кожны тут, як правіла, цікавіцца паэзіяй і шмат яе чытае. І я з пачуцьцём зайздрасьці рэагую на той вялікі розгалас, які паэты маюць тут са сваёй творчасьці. У Швэцыі гэта ўсё ж ня так. Але ў нас ёсьць вялікая

*З Стакгольмскай хваробы (1997)*

**БЭЙКЕР-СТРЫТ БЛЮЗ***

Так і ня ведаеш нашто
гэта здараецца раз-пораз.
Ці па адным, ці гамузам
сыходзяць людзі ў магілу,
і неўзабаве няма нікога,
хто б напраўду ведаць хацеў,
калі ты сабе на кашулю
быў пасадзіў вось гэтую пляму.
І нікога, хто б напраўду
ведаць хацеў, якой электрацыяй
ты прыехаў, ці хутка
дадому дайшоў ад станцыі,
і колеру якога было тваё паліто.
Ясна, што гэта ўсё — драбяза,
няма каго
вінаваціць у гэтым, але ніхто
па нас начамі не сумуе. Ніхто
ня чуе нашага затоенага крыку.
Людзі паміраюць
проста, немаведама нашто,
і нічога з гэтага не вынікае.
І сокаў няма.

*Знакаміты герой Артура Конан-Дойля сок Шэрлак Холмс жыў у Лёндане на Бэйкер-стрыт

**ЭЛЬСЕ**

Там, дзе цябе няма, цябе няма зусім,
і там, дзе цябе няма, няма наагул нічога.
І каву нат я п'ю з твайго пагляду.

Ты выходзіш з пакоя — і ўсё жыцьцё
адыходзіць з табой,
бляднеюць шчокі пунсовых каўніка,
яго гаманлівасьць змаўкае ў нямы мэтал.

Ты пераходзіш на расейскую па тэлефоне —
і швэдзкая ўраз выміраe як мова.
Я на іншых не гавару, затым маўчу.

Ты паварочваеш да мяне адно вуха, а другое
палошчыцца ў ветрах Сусьвету.

А там, як і ты, зіхаціць Млечны Шлях, — я
мерзну.

І я зводжу вочы, быццам вырачаны на сьмерць,
скрозь павекі ты мне праразаеш сузор'е —
дышаль, калёсы: вось ты прыехала па мяне.

Я падаю, а ты сядзіш
ля эшафоту, спадніцу распусьціўшы і
растуліўшы ногі,
і я схіляю галаў да тваіх каленяў.

*З Падводнага звана (1987)*

**(СОНЕЧНЫЯ АСКЕПКІ І)**

Я хацеў
вам усё аддаць, і не аднойчы, а раз-пораз.
Як хрыбет карабля
ўвесь час аддае вадзе бліщчастыя пэрлы.
Як у нядзелю чайцы на прамэнадзе
падносяць радасна аздобы для капелюшоў.
Памятныя дары.

*З Шклянога цела (1990)*

**СУПОР МАТЭРЫЯЛАЎ**

Мне падабаецца гэты кіроўца.
Ён аб'яўляе прыпынкі,
як быццам бы верыў у іхныя імёны.
Ансгарыегатан, Варсфгатан, Лігнагатан,
Хорнстул!*
І ў гэты момант я раптам пажадаў чагосьці
новага:
стаць зажураным аўтобусным прыпынкам,
каб мроіць марозную раніцай пра чарадзейную
абвестку:
наступны прыпынак – ЛЕАНДЭР! Канцавы!
Усіх пасажыраў прашу выходзіць!
А як жа йначай –
нават у смутку ёсьць свой канец.

*Назовы стакгольмскіх вуліц. У перакладзе: вуліца сьв. Ансгара, Карабельная, Драўляная, Мытніца на мысе

Пераклад Алены Даль і Юрася Бушлякова



# Бясплатныя прыватныя абвесткі

Народны тэатральны калектыў «Батлейка» шукае фундатара для аплаты апошняга году навучаньня ў Польшчы сваёй сяброўкі мастачкі. Тэл.: 278-19-88, пасьля 18. Галіна

Польская, баўгарская мовы: пераклады якой заўгодна складанасьці, індывідуальнае навучаньне. Тэл.: 221-23-68

Маю на абмен дыск «Мроі» 1989 г. «Дваццаць восьмая зорка». Сяргей. Тэл. (Вялейка): 5-78-95 (пасьля 18)

Калі ты жадаеш больш даведацца пра творчасьць гурта «Новы Ерусалім» ці даслаць замову на касэты, зьвяртайся на адрас фан-клюбу «Newjer»: 223052, Менск, п/а Лясное 12-46

Здыму 1-пакаёвую кватэру з тэлефонам у Менскім раёне альбо ў Менску. Тэл.: 221-23-68

Прадаю сэрыю з 4-х марак Беларускай Народнай Рэспублікі, якая прысьвечаная 40-м угодкам Слуцкага збройнага чыну. Кошт 70000 руб. Алесь Сабаленка, п/с 268, 220131, Менск, Беларусь

Гарадзенскія гурты «Deviation» і «Кальян» шукаюць памяшканьне для рэпэтыцыяў. Тэл.: (0152) 313046, Андрэй

Прапаную больш за 70 найменьняў запісаў беларускіх гуртоў, бардаў, значкі гуртоў, з нацыянальнай тэматыкай і інш. 220085, Менск, а/с 5. Тэл.: 249-08-88 (да 10 раніцы), Віталь

Паслугі відэзагыражаваньня. Танна, хутка. Тэл.: 213-50-41, Сяргей

Набуду кнігі: Ул.Караткевіч, т.1; «История зарубежного искусства»; Ремарк «Черный обелиск». Тэл.: 249-08-88, Віталь

Способы: нарошчваньня цягліцаў бяз «хіміі» і трэнажораў; павелічэньня росту да 8 см. Капэрта са зв/а + купон б/а. 246012, Гомель, а/с 147

Способы: павелічэньня грудзей на 1-2 памеры бяз «хіміі»; зьмяншэньня вагі да 8 кг за 13 дзён; як кінуць паліць і піць. Капэрта са зв/а + купон б/а. 246012, Гомель, а/с 147

Праца ў хатніх умовах — 8 відаў. Прыбытак ад 100 $. Навык не патрабуецца. Ад вас — капэрта са зв/а + купон б/а. 246012, Гомель-12, а/с 143

Ксэракопія, Ф-А4, 800 руб. копія. Тэл.: 253-92-26

## БЕЛАРУСКІ КАЛЕГІЮМ

**Беларускі калегіюм** распачынае сваю публічную дзейнасьць і запрашае ўзяць удзел ва ўрачыстым адкрыцьці Калегіюму, якое адбудзецца 8 траўня б.г. а 18.00 гадзіне ў музэі Максіма Багдановіча (г. Менск вул. М. Багдановіча, 7-а). У праграме — выступленьні заснавальнікаў, выкладчыкаў і інаўгурацыйная лекцыя Алеся Разанава.

Незалежная адукацыйная й дасьледчая інстытуцыя Беларускі Калегіюм мае на мэце актуалізацыю беларускай і агульнаэўрапейскай культурных традыцыяў праз адукацыю, рэалізацыю навуковых праектаў і публічныя формы інтэлектуальнай і культурніцкай дзейнасьці.

У якасьці адукацыйнай інстытуцыі Калегіюм прапануе сыстэму дадатковага навучаньня, разьлічанага на студэнтаў ВНУ і маладых людзей з вышэйшай адукацыяй, у трох спэцыялізацыях: філязофія/літаратура, журналістыка і найноўшая гісторыя. Навучаньне будзе ажыцьцяўляцца шляхам правядзеньня сыстэматычных курсаў лекцыяў (для студэнтаў у Менску) і праз функцыянаваньне дыстанцыйнай сыстэмы навучаньня, збудаванай паводле прынцыпу Адкрытага Унівэрсытэту.

Падрабязную інфармацыю можна атрымаць, напісаўшы на адрас: 220036 Менск, П.С. 31, альбо па тэлефоне 256 -36-13 ці электроннай пошце kalegium@user.unibel.by

## КУПОН

Бясплатнай прыватнай абвесткі

*Тэкст:*

*Імя і прозьвішча*

*Адрас, тэлефон*

Запоўніце гэты купон і мы надрукуем Вашу абвестку (не больш за 15 словаў) бясплатна. 220123 Менск а/с 71

## НОВАЯ КНІГА ВЫДАВЕЦТВА «НАША НІВА»

УЛАДЗІМЕР АРЛОЎ
БОЖАЯ КАРОЎКА ЗЬ ПЯТАЙ АВЭНЮ

Кніга эсэ Уладзімера Арлова «Божая кароўка зь пятай авэню» —гэта працяг ягонай папярэдняй кнігі «Мой радавод да пятага калена». Кнігу складаюць творы, «напісаныя пасьля вандровак па трох кантынэнтах. У Лёндане і Лепелі, у Гановэры, Нью-Ёрку і Празе, у полацкіх лябірынтах і на руінах Карфагену аўтар нязьменна шукае беларусаў і Беларусь», — сказана ў анатацыі. Што яму ўдалося знайсьці — пра гэта чытачы «НН» ведаюць, бо большасьць эсэ ў газэтным варыянце друкавалася на нашых старонках. Усім астатнім застаецца прачытаць (або й перачытаць) пра гэта ў новай кнізе.

## КНІГІ - ПОШТАЙ

**Каб замовіць патрэбную Вам кнігу, неабходна пазначаную суму плюс суму за перасылку праз пошту пералічыць на наступны рахунак:** БГФ «Наша Ніва» р/р 3015201930039 «Гарант» філія АКБ «Поіск» г. Менску, Код 987.

Не забудзьцеся на паштовай квітанцыі ў сэктары «Для пісьмовага паведамленьня» указаць назву кнігі й Ваш дакладны паштовы адрас і, калі ёсьць, тэлефон.

*Зьвяртацца можна праз пошту: 220085 Менск, а/с 5, Віталь Супрановіч.*

| № | Аўтар і назва | Кошт | Кошт перасылкі |
|---|---|---|---|
| 1. | Васіль Быкаў. Сьцяна | 112.000 | 20.000 |
| 2. | Гарт. З успамінаў пра Саюз Беларускіх Патрыётаў | 75.000 | 16.000 |
| 3. | Аляксандар Лукашук. За кіпучай чэкісцкай работай | 50.000 | 12.000 |
| 4. | Аляксандар Лукашук. Філістовіч. Вяртаньне нацыяналіста | 28.000 | 12.000 |
| 5. | Канвэер сьмерці | 250.000 | 20.000 |
| 6. | Каралеўства Беларусь: Посткаляніяльная культура | 110.000 | 15.000 |
| 7. | Адам Глёбус. Толькі не гавары маёй маме | 30.000 | 16.000 |
| 8. | Адам Глёбус. Койданава | 45.000 | 10.000 |
| 9. | Ж.Дзюрасэль. Эўропа з 1815 году да нашых дзён | 15.000 | 16.000 |
| 10. | Б.Фэйган. Уводзіны ў археалёгію | 10.000 | 12.000 |
| 11. | Фрагмэнты | 40.000 | 20.000 |

## НАВІНКІ

*Lietuvos Metrika. Kn. 4 (1522-1530). — Vilnius: Vilniaus universitetas, 1997. — 664 p. ISBN 9986-19-270-6*




Новы том Мэтрыкі складаецца з 4-й кнігі Судовых справаў. Гэта ўжо сёмая кніга Мэтрыкі, падрыхтаваная да друку й выдадзеная віленскімі дасьледчыкамі.

*ФРАГМЭНТЫ філязофіі, культуралёгіі, літаратуры. Сярэднеэўрапейскі культурны агляд. — 1998, № 1.*




Новы нумар ФРАГМЭНТАЎ цалкам прысьвечаны беларуска-ўкраінскаму культурнаму дыялёгу. Прапануецца погляд у сыстэме каардынатаў — Поўнач-Поўдзень.

*Сп. Р. Незыванаў. Царква і Сталін. На правах рукапісу. — 1998.*




Гэтая навінка новага непадцэнзурнага друку прысьвечаная гістарычнаму лёсу й сёньняшняму дню савецкае царквы.

## НОВЫЯ КНІГІ І ПЭРЫЁДЫКІ, ДАСЛАНЫЯ Ў РЭДАКЦЫЮ

Адказы на пытаньні (білеты па гісторыі Беларусі). — Горадня: Выд. Ілюшы В. Мельнікава, 1997. — 80 с. — Наклад 30.000 ас. ISBN 985-6314-11-9

Ave Maria. №3-4 (41-42). Сакавік-красавік 1998. — 36 с.

Беларуская мова: Дапам. для абітурыентаў / Э.Блінава, Н.Гаўрош, М.Кавалёва і інш. 3-е выд. — Менск: Выд. У.Скакун, 1997.— 384 с. — Наклад 25.000 ас. ISBN 985-6235-11-1

Беларуская пэрспэктыва. Інфармацыйны бюлетэнь. №1. Сакавік 1998.

Варановіч З. Тэматычны даведнік-дапаможнік для настаўнікаў беларускай мовы (V-XI клясы) і ВНУ. — Горадня: Выд. Ілюшы В.Мельнікава, 1997. — 112 с. — Наклад 5.000 ас. ISBN 985-6314-13-5

Гісторыя Беларусі: Дапаможнік для паступаючых у ВНУ / А.Абэцэдарская, П.Брыгадзін, Л.Жылуновіч і інш.; Пад рэд. Г.Кахаfоўскага і інш. — Менск: Экапэрспэктыва, 1998. — 496 с. — Наклад 15.000 ас. ISBN 985-6102-25-1

Жарнасек І. Прыгоды сьвятога Мікалая ў дзіўнай краіне: Аднаактовая п'еса-казка ў 6 карцінах. — Менск: Катэдральны касьцёл Імя Найсьвяцейшай Марыі Панны. — 28 с.

І.Жыновіч ва ўспамінах сучасьнікаў / Бел. дзярж. акад. музыкі; [Склад. М.Солапаў]. — Менск: Бел. дзярж. акад. музыкі, 1997. — 56, [1] с.: іл.; 20 см. — Аўт. зб. паказаны на 56 с.: Багатыроў А., Гладкоў Я., Казінец М., Солапаў М., Сьцяпанава Т., Сяргеенка Т., Шмелькін М. — Наклад 100 ас.

Кантакты і дыялёгі. Інфармацыйна-аналітычны і культуралягічны бюлетэнь Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў і Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі. №3-4 (27-28). Сакавік-красавік. — 1998, Менск. — 56 с. —Наклад 299 ас.

Кітурка Ю., Царук В. Гарадзенскія замкі: Гіст.-архітэктурны нарыс. — Горадня: Гарадзенск. абл. узбуйн. друк., 1997. —43, [1] с.: іл.; 19x20 см. — Тэкст парал.: бел., рас., ангельск. — Наклад 1.500 ас.

Лозка А. Беларуская батлейка. Каляндарныя і абрадавыя гульні: Дапам. для настаўнікаў, выхавальнікаў, кіраўнікоў гурткоў. —Менск: Тэхналёгія, 1997. — 183 с. — Наклад 2.500 ас. ISBN 985-6234-36-0

Маленькі рыцар Беззаганнай. Дадатак да часопіса Ave Maria. —Менск: Друкарня айцоў францішканаў у Непакалянаве, 1997 — 19 с.

Наша Вера. №1/1998. — 80 с. — Наклад 2.000 ас.

Сп. Р.Незыванаў. Царква і Сталін. На правах рукапісу. — 1998.

Статут правоў сям'і. — Менск: Менска-Магілёўская Архідыяцэзія, 1998. — 14 с.

Супольнасьць. Бюлетэнь для беларускіх няўрадавых арганізацыяў. №1-2 (3-4). Сьнежань 1997 — студзень 1998 г. — 47с.

Тазік беларускі: Зб. вершаў / В.Акудовіч, З.Вішнёў і інш. —Менск: Бервіта, 1998. — 96 с., іл. — Наклад 1.000 ас. ISBN 985-6416-23-х

Філяматы і філярэты. Зборнік / Укладаньне, пераклад польскамоўных твораў, прадмова, біяграфічныя даведкі пра аўтараў і камэнтары К.Цьвіркі. — Менск: Беларускі кінгазбор, 1998. — 400 с., іл. — Наклад 10.100 ас. ISBN 985-6318-21-1

ФРАГМЭНТЫ філязофіі, культуралёгіі, літаратуры. Сярэднеэўрапейскі культурны агляд. — 1998, №1.

Яўменаў Л. Існасьць: Кніга паэзіі. — Менск: Беларускі кнігазбор, 1997. — 352 с. — Наклад 500 ас. ISBN 985-6318-14-9

Ковкель И., Ярмусик Э. История Беларуси с древнейших времен до нашего времени. — Менск: Аверсэв, 1998. — 592 с. —Наклад 10.000 ас. ISBN 985-6389-09-7

Макроэкономическое положение Республики Беларусь — 1996 г. Аналитический обзор. В 2 т. Том 1. Индикаторы экномического развития / Пад агульн. рэд. В.Тамашэвіча. —Менск: НТЦ «АПИ», 1998. — 48 с. — Наклад 500 ас. ISBN 985-6344-15-8

Подлипский А. Васильковые годы Марка Шагала, или Витебск в судьбе художника. — Віцебск: Віцебск. краязнаўчы фонд імя А Сапунова, 1997. — 71 с.: іл., партр.; 21 см. — Бібліягр. ў заўваг.: с.70-71. — Наклад 2 000 ас.

Попрание права. Анализ преследования журналистов ОРТ Павла Шеремета и Дмитрия Завадского / Сборник. — Менск: Беларускі Хельсінскі Камітэт, 1998.

Реформирование пенитенциарной системы // Материалы международной конференции. — Менск: ООО «Фил-Серв плюс», 1998. — 132 с. ISBN 985-6489-01-6

Тегако Л., Саливон И. Основы антропологии и экологии человека: Уч. пособие. — Менск: Тэхналёгія, 1998. — 328с. — Наклад 500 ас. ISBN 985-6234-37-9

Lietuvos Metrika. Kn. 4 (1522-1530). — Vilnius: Vilniaus universitetas, 1997. — 664 p. ISBN 9986-19-270-6

## БЕЛАРУСКІ ХІТ-ПАРАД

*за сакавік-красавік*

| x | xz | Выканаўца | Альбом | Выдавец |
|---|---|---|---|---|
| 1 | 1 | Narodny Albom | Narodny Albom | Ковчег |
| 2 | - | Made in Belarus | Made in Belarus | Vigma |
| 3 | 2 | NRM | Made in NRM | Vigma |
| 4 | 10 | Kriwi | Hei-loli | Ковчег |
| 5 | 6 | Мясцовы час | Слота. Мой дом. | БМА |
| 6 | - | Новае Неба | Выбранае | Часопіс «Уши» |
| 7 | 4 | Палац | Дарожка | Сатис |
| 8 | - | Камэлот | У краіне талераў | Топ rec. |
| 9 | - | Deviation | Х... вам! | БМА |
| 10 | - | Deviation/КальЯн | Кампіляцыя | БМА |

*x — месца ў сёньняшнім выпуску xz — месца ў мінулым выпуску*

Амаль незаўважная, але своеасаблівая тэндэнцыя: беларускія музыкі ня любяць вызначаць стылістыку, у якой выконваецца іх музыка. Звычайна ідзе адгаворка кшталту: «Мы пра гэта ня думалі», — альбо: «Наша музыка — сымбіёз розных стыляў». Беларуская музыка ў гэтым пляне ці ня самая «чыстая» зьява на сусьветным узроўні: «Мы жывем, як жывецца; мы пяем, яе пяецца». Але пры гэтым мы жывем у цалкам сваім часе, існаваньне якога абумоўліваецца мінімальнай рухомасьцю.

Як і чакалася, пяцёрка доўгажыхароў «Беларускага хіт-параду» стабільная сваім адзінствам: «Мясцовы Час», «Палац», «Kriwi», «NRM», «Narodny Albom». Невялікія перамяшчэньні ў сьпісе хутчэй заканамернасьць, чым выпадковасьці пры продажу: «Мясцовы Час», які мае добрую мэдыйную і канцэртную раскрутку ў апошнія месяцы, пачынае наноў заваёўваць аўдыторыю. Дарэчы, тут трэба будзе ўзгадаць пра поўнае маўчаньне «Крамы» на працягу апошняга году — публіка, якая не прымае «мроеўскі» музычны радыкалізм і празьмерную папулярнасьць «NRM», аддаўшы ў свой час галасы «Краме», зараз можа пацiху перасоўвацца ў лягер «мясцовых» — амаль акадэмічнасьць музыкі, а асаблівасьць вакалу саліста «Часу» добра можа дапасавацца да кансэрватыўнай публікі. Пераход «Палацу» і «Kriwi» ўніз і ўверх адпаведна таксама зразумелы: хоць гурты і ўспрымаюць як розныя праекты, але кожны зь іх адчувае адказнасьць за сталую папулярнасьць «Палацу» і за новых прыхільнікаў «Kriwi».

Дзявятую і дзясятую пазыцыі займаюць гарадзенскія гурты «Deviation» і «КальЯн». Для рэгіянальных праектаў, прытым абсалютна невядомых, гэта посьпех. Зь іх выхадам на шырокую публіку можна гаварыць пра зараджэньне цалкам беларускіх панкаўскіх традыцыяў без прыстаўкі пост-. Якраз тут і можна гаварыць пра тую мінімальнасьць рухомасьцяў у беларускай музыцы, якая збольшага амаль не разьвіваецца ў агульнаэўрапейкай плыні. У нас існуюць некалькі найбольш папулярных жанраў — блюз-рок, бард-рок, цяпер вось амаль чысты панк, які нагадвае «Anarchy in U.K.». Час нібы спыніўся. Папулярнасьць «Narodnaha Albomu» на гэтым тле тлумачыцца проста: слухач хоча зьменаў. Новыя ролі, у якіх выступіў Лявон Вольскі, гэтаму пацьверджаньне: залежны ад «Мроі», ад «NRM», тут ён раскрыўся як бард, як эстрадны сьпявак, як рэпэр. З другога боку, ізноў прысутнічае элемэнт беларускай кансэрватыўнасьці: песьні павінны быць пранізаныя народнай мэлёдыкай, абавязковай у песьні ёсьць тэма змаганьня, якая ў пэрспэктыве мае стаць хітом (тут можна такой лічыць «Край»). Таму, як бы скептычна ні ставіліся ўдзельнікі праекту да ягонай «народнасьці», ён такім ужо стаў, задаволіўшы актуальныя патрэбы слухачоў.

Застольна-танцавальны праект «Made in Belarus» ня ставіў перад сабой глябальных мэтаў перабіць інтарэсы расейскіх забаўляльных карпарацыяў. Ён быў проста створаны як першая спроба ўласнабеларускай сучаснай танцавальнай музыкі. Як ні дзіўна, у яго зьявіліся своеасаблівыя канкурэнты, пра якіх мы распавядзем іншым разам.

**Сяргей Сахараў**

"Наша Ніва" незалежная газэта

НАША НІВА

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

рэдактар ... Сяргей Дубавец
выдавец ... Рэдакцыя газэты "Наша Ніва"
заснавальнік ... Павал Жук
адказны сакратар ... Алег Дзярновіч
мастацкі рэдактар ... Сяргей Харэўскі
аддзел інфармацыі ... Андрэй Лапцёнак, Віктар Корзун
дызайн і вёрстка ... Лявон Раманчык
набор ... Аляксандра Макавік
стыль і карэктура ... Паўлюк Канавальчык
пры ўдзеле ... Сяргея Шупы

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ
220123 Менск, а/с 71
Тэл./факс 232-51-76
E-mail: niva@user.unibel.by
http://members.xoom.com/Nasa_Niva

© НАША НІВА. Спасылка на "Нашу Ніву" абавязковая.

Наклад 2800. 8 палос фармат А2 нумар падпісаны ў друк 20:34, 26/4/1998. Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку" Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 2296. Кошт свабодны. У шапіках "Белсаюздруку" — 9500 руб.

Пасьведчаньне аб рэгістрацыі перыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам друку Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас г. Менск, пр. газэты "Известия" д. 8 кв. 173

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12